Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№47 (4591) 26 лістапада 2010 г.

## У нумары:





# Быў. Ёсць. Будзе!

Сёння, 26 лістапада, споўнілася б 80 гадоў Уладзіміру Сямёнавічу Караткевічу — пісьменніку, які з зайздроснай таленавітасцю выявіўся ледзь не ва ўсіх сферах літаратуры: паэзіі, прозе, драматургіі, перакладах, крытыцы, эсэістыцы, сцэнарнай справе; паўсюль ён стаў найвышэйшым аўтарытэтам, усё напісанае Уладзімірам Караткевічам уваходзіць у залаты фонд беларускай літаратуры. Нават тыя дробныя паштоўкі, аўтографы, экспромты, шаржы, якія пачалі публікавацца зусім нядаўна, нясуць на сабе выразны адбітак яго мастакоўскага таленту. Аўтарытэтам ён стаў не толькі ў літаратуры, але і ў грамадскім жыцці краіны, у развіццё яе як незалежнай суверэннай дзяржавы пісьменнік верыў яшчэ тады, калі пра гэта не маглі думаць нават найсмялейшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.



Заўсёды цяжка было ўсведамляць, чытаючы даты паміж працяжнікам — у даведніку, падручніку альбо на надмагіллі, — што гэты чалавек мог яшчэ жыць і жыць, ты мог бы сутыкнуцца з ім у кнігарні альбо рэдакцыі, ён мог бы і сёння публікавацца, выступаць ці проста прысутнічаць, і ад тае прысутнасці ўсім было б толькі прасцей і лягчэй. І, кожны раз са скрухай і горыччу гледзячы на вясёлыя ўсмешыстыя фотаздымкі Уладзіміра Караткевіча ці задуменна-самотныя Міхася Стральцова, думаеш, што час — няўмольны і неміласэрны, і ён сатрэ ў пыл нават генія, пакінуўшы ў спадчыну толькі тэкст. Але ўсё-такі, адрываючыся ад старонкі, адгортваючы франтыспіс з фотаздымкам, — адчуваеш: ён жывы.

Так, глыбы і слаі. Добра не задзіраць носа, быць шараговым, але вальней дыхаецца ў літаратуры там, дзе ёсць полюс прыцягнення, барометр, камертон, ад якога можна адштурхоўвацца, можна не прымаць і спрачацца, ды гэтым несвядома прызнаваць нечую важлівасць і выключнасць. Караткевіч заўжды вылучаўся — самім сабой, непараўнальнай уласнай істотай бунтара, вандроўніка, авантурніка, хітруна, насмешніка і нават блюзнера. Для беларускага пісьменства падобная натура не магла нават мець блізкіх аналогій. Дух "адлігі" ўспамінаць тут можна, але толькі з пэўнымі агаворкамі: занадта розныя пласты гэта і з'явы. Калі і гаварыць у рэчышчы "Караткевіч-шасцідзясятнік", то трэба зноў жа падкрэсліваць выключнасць. Гэтакімі шасцідзясятнікамі назваць можна Шукшына і Высоцкага — ведаючы, што не было "рамкі", дзе іх "карціна" сябе добра пачувала.

Чалавек, якога заўсёды было многа, які "не змяшчаўся паміж шапкай і ботамі" (Уітмен). Яму не трэба было шукаць сюжэтаў і назваў: адолець бы тое, што запланавана. І тут жа — пастаянны "голад": на сустрэчы, кнігі, факты, уражанні… Сапраўдны дабрадатны агонь, што ніколі, мусіць, не згасне і не састарэе — у лірыцы Караткевіча. Неспакойны талент, ён прабіваў браню чытацкага ўспрымання наступам, сілаю, цвёрдымі сталёвымі фразамі. Гэта натуральна мужчынская лірыка (а што ж, не толькі "жаночая" мае права на існаванне!). Рэдкія сузіральныя творы толькі пацвярджаюць правіла. Сказаць, што ў гэтых вершах зашмат рытарычных фігур і позы, можа толькі чэрствы цынік, якога бязмежна хвалюе толькі ўласная экзістэнцыя. Тое "Глядзіце, хлопцы!", прамоўленае да В. Ждановіча летнім днём 1984 года, не было выпадковым. Караткевіч выдатна ўсведамляў, што ўсё, што ён піша і гаворыць, стане некалі дэвізам і сцягам, будзе перадавацца ад сэрца да сэрца кожнага. Стане ахоўнай граматай і паролем, як тое наша вечнае, Кастусёва: "Каго любіш?" — "Люблю Беларусь!" — "Дык узаемна!"

Гістарычная проза. Відаць, што Караткевіч не абраў гэты шлях наўмысна. Зразумела, да гісторыі яго цягнула з самага юнацтва — прыгадаем неабароненую дысертацыю. Але проста хочацца думаць, што ўсё мастакоўскае не ідзе звонку, зверху ці знізу: сапраўднае высноўваецца знутры ці "з натуры". І проза Караткевіча, якая спазнала рэалістычны этап ("Лісце каштанаў", "Нельга забыць"), усё роўна адчувала сябе няёмка, пакуль не выйшла ў сферу, дзе не дзейнічаюць пэўныя законы, дзе мастак забывае наваколле, у якім ён знаходзіцца, і пачынае ствараць другі свет.

Нязменнае высокае месца Уладзіміра Караткевіча на нашым Парнасе абумоўлена перш за ўсё не яго "гістарычнай вальтэрскотаўшчынай", не пакінутым нацыянальным міфам, але тым, што гэты пісьменнік, гаворачы пра Вашчылу, Каліноўскага ці Кунцэвіча, меў на ўвазе не столькі рэтраспекцыю, колькі будучыню. Ён не корпаўся ў гісторыі, як крот: важней было сказаць новае слова — сваё, свабоднае і разнасцежанае ў перспектыву.

І слова гучала вольнай, магутнай, не рачной — акіянскай хваляй, дзе змешваліся ў адным віры выцягнутыя з гістарычнага мулу старадаўнія паняцці, прафесіі і рэчы, ежа, пітво, а таксама трэскі русізмаў. Актывізацыя самых глыбінных пластоў беларускага маўлення адбывалася ў Караткевіча не стандартным шляхам дыялектызацыі (як у Гарэцкага, Чорнага, Адамчыка): новыя словы, старыя скарбы ён чэрпаў з багатай вялікалітоўскай кніжнасці — архаіка паўставала тут у ключы не вясковай, а гарадской ці мястэчковай культуры; старасветчына падобнага кшталту, пераплаўленая ў тыглі мастакоўскага мыслення, апынаецца сугучнай самай мадэрновай сітуацыі. Гэта, між іншым, пацвердзіў і нядаўні поспех кнігі Вольгі Бабковай.

Вядома, нельга казаць, што Караткевіч быў зусім па-за часам. Успамінаецца назва даўняга артыкула Антона Луцкевіча — "Бунт проці Бога". Хто піша сёння пра свабодную карнавальнасць Караткевіча, мусіць мець на ўвазе, што гэта не вольны размах падрэ Франсуа Рабле, які, разгортваючы перад чытачом грандыёзную панараму народнай культуры і народнага мыслення, не стараўся зрабіць штосьці прадметам сатыры. Сатыра — гэта ўжо Кала Бруньён. Тут, як ні дзіўна, і палягае розніца паміж рэнесанснымі гуманістамі і матэрыялістамі пачатку стагоддзя — з ідэяй гуманізму. І ад таго раланаўскі герой драбнейшы, што гэта герой "з ідэяй", у прыватнасці, антыклерыкальнай. Уладзімір Караткевіч, выхаваны ў савецкай школе, паставіў менавіта на Кала Бруньёна — паставіў "ва-банк", бо па-іншаму не хацеў і не ўмеў. Кола гісторыі пасля ягонай смерці павярнулася ў іншы бок, і "чалавечага, проста чалавечага" стала надта мала, каб пераадолець энтрапію. Больш за тое, караткевічаўскае запаветнае "чалавек толькі тады чалавек, калі рве паныла наканаванне і плюе на спрадвечны закон" — наўрад ці ўзрушыць каго. Мысліць пра чалавека сёння — mauvais tone: у якім страшным сне магло б такое прысніцца Караткевічу?.. Зрэшты, як сын свайго часу, ён з вялікім пафасам і апломбам гаварыў пра чалавека, у высокім стылі пастулатаў і маральных імператываў. Гэта, дарэчы, добра відаць з апублікаванага ў мінулым нумары "ЛіМа" адказу на анкету — каштоўнейшы дакумент! Вось фундамент, на якім стаяў мастак. Па сутнасці, пра ўсё гэта Караткевіч і пісаў у вершах і прозе: аднак якая ж усё-такі бездань ляжыць паміж мастаком і публіцыстам…

Мне не хочацца, каб мае развагі і думкі лічыліся за нешта крыўднае ці, барані бог, крытычнае. Але сёння і сапраўды, я веру ў гэта, прыйшоў нарэшце час збіраць камяні, час, калі міфалагемы не "спрацоўваюць" і кожнаму можна выказваць сваё меркаванне і бачанне. Менш за ўсё трэба, каб вясёлае імя Караткевіча патанула ва ўзнаўленні прамоўленага раней. Яго творчасць, яго асоба — прастора для дзясяткаў інтэрпрэтацый, пераасэнсаванняў у самым добрым значэнні гэтага слова. Счышчаецца архіўны пыл, змываецца з пальцаў бронза недатыкальнасці, рыхтуюцца новыя зборы твораў, і наступнае дзесяцігоддзе няхай будзе часам паўставання новага Караткевіча, іншага — такога, якога мы не ведалі ўчора і спазнаем, адкрыем толькі сёння. Каб працягвалася размова і далей.

І ўсё ж такі як шкада, што немагчыма прыйсці на яго творчы вечар, убачыць і паслухаць яго сёння…

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Фота Сяргея Панізніка (май 1968 года)

## Пункцірам

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Аляксандра Ткачонка з 60-годдзем, народную артыстку СССР Маю Плісецкую — з юбілеем.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў медалём Францыска Скарыны старшыню Венгерскай асацыяцыі беларусістаў прафесара Андраша Золтана за значны асабісты ўнёсак у папулярызацыю беларускай мовы і культуры ў Венгерскай Рэспубліцы, умацаванне беларуска-венгерскага супрацоўніцтва ў гуманітарнай сферы, плённую дзейнасць па ўзаемаўзбагачэнні нацыянальных культур.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава са 100-гадовым юбілеем. Прэзідэнт адзначыў, што ўніверсітэт заваяваў міжнародны аўтарытэт дзякуючы моцнай навукова-педагагічнай школе, значным дасягненням у падрыхтоўцы спецыялістаў рознага профілю.

• Мінскі Чырвоны касцёл (касцёл святых Сымона і Алены) шырока адзначае сваё 100-годдзе. Урачыстую літургію 21 лістапада правёў апостальскі нунцый у Беларусі архібіскуп Марцін Відовіч. У межах святкавання запланаваны не толькі рэлігійныя мерапрыемствы, але і прэзентацыі дакументальна-публіцыстычнага фільма пра народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна "Як па сухому", кнігі вершаў "Халодная памяць вады", а таксама мастацкая выстаўка.

• Перасоўная кніжная выстаўка, сфарміраваная больш чым з 500 кніг беларускіх выдавецтваў рознай тэматыкі, паспяхова прадстаўляецца Пасольствам Рэспублікі Беларусь ва Украіне ў межах праекта Міністэрства інфармацыі Беларусі і Міністэрства замежных спраў Беларусі па арганізацыі перасоўных кніжных выставак за мяжой. Яе прымалі ўжо ў Данецку, у Кіеўскім нацыянальным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі, у Ірпені Кіеўскай вобласці. Цяпер выстаўка экспануецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя Вярнадскага.

• Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Коласа да юбілею У. Караткевіча аднавіў музычны спектакль "Ладдзя роспачы", рэжысёрам-пастаноўшчыкам якога з'яўляецца Міхаіл Краснабаеў. Дзень прэм'еры супаў і з яго ўласным юбілеем — 50-годдзем і 25-годдзем творчай дзейнасці. Сёння спектакль прадстаўлены на малой радзіме Караткевіча — у Оршы.

• Трынаццацігадовы Данііл Казлоў з горада Жабінка Брэсцкай вобласці з песняй "Музыки свет" увайшоў у пяцёрку пераможцаў дзіцячага музычнага конкурсу "Еўрабачанне-2010". Першае месца атрымаў юны спявак з Арменіі Уладзімір Арзуманян з песняй "Мама". Толькі адзін бал саступілі яму Ліза Дрозд і Саша Лазін – стыльны дуэт з Расіі, які выканаў вясёлую песню "Boy and Girl".

• Беларускія артысты балета зноў запрошаны ў Мексіку. Пасля незвычайна паспяховага выступлення ў гэтай краіне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі з балетам "Дон Кіхот" на музыку Л. Мінкуса мексіканская публіка будзе з нецярпеннем чакаць паказу беларусамі ў 2011 годзе балета "Эсмеральда" на музыку Ц. Пуні.

Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Зварот прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі да выбаршчыкаў

**Чарговае пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі было прысвечана важнейшай падзеі ў жыцці нашага грамадства — выбарам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Прыняты зварот прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі да выбаршчыкаў.**

Дарагія суайчыннікі!

Наша дзяржава сёння напярэдадні адказнай падзеі — выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Мінулыя гады выразна засведчылі: курс, выбраны кіраўніцтвам краіны, быў правільным, стваральным. Беларусь, якая на пачатку 1990-х знаходзілася над безданню, не толькі выстаяла, пазбегла катастрофы, але захавала, умацавала і цяпер развівае эканоміку, набыла палітычную стабільнасць, грамадскую згоду, вядомасць у свеце.

Беларусь сягоння — гэта ўнікальныя навабудоўлі. Узводзяцца жыллё, прамысловыя, культурныя, спартыўныя аб'екты. Усё больш прамысловых тавараў ідзе на экспарт. З года ў год растуць ураджаі ў сельскай гаспадарцы. У Беларусі праходзяць буйнейшыя культурныя мерапрыемствы сусветнага маштабу.

Сацыяльны клопат дзяржавы ахоплівае ўсё наша грамадства: працоўных, дзяцей, навучэнскую моладзь, пенсіянераў, ветэранаў вайны і працы, інвалідаў.

Планы сацыяльна-эканамічнага развіцця на наступную пяцігодку — пераканаўчае сведчанне таго, што і надалей дзяржава мае намер ісці выбраным курсам.

Азнаёміўшыся з біяграфіямі прэтэндэнтаў на пост Кіраўніка дзяржавы, а таксама іх праграмнымі заявамі, прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі ад імя больш як 500 майстроў слова звяртаецца да ўсёй творчай і навуковай інтэлігенцыі, да педагогаў, да моладзі, да ўсіх нашых чытачоў: падтрымаем 19 снежня 2010 года на прэзідэнцкіх выбарах Аляксандра Лукашэнку як чалавека, які даказаў высокія арганізацыйныя, грамадзянскія, патрыятычныя якасці на справе.

Як выбаршчыкі мы звяртаемся з наказам да нашага кандыдата ў Прэзідэнты. Выказваем надзею, што ён у сваёй далейшай дзейнасці будзе, як і ў папярэднія гады, годна прадстаўляць народ Беларусі, па-ранейшаму паспяхова вырашаць пытанні жыццядзейнасці краіны, у тым ліку надаваць яшчэ больш увагі развіццю літаратуры, мастацтва і клопату аб пісьменніках.

# З увагай да маладых

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі правяло на днях семінар маладых літаратараў. Удзельнікамі семінара сталі ў асноўным студэнты ВНУ г. Мінска, якія ўжо зарэкамендавалі сябе як здольныя маладыя творцы. На семінары выступілі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, галоўныя рэдактары часопісаў "Нёман" — Алесь Бадак, "Новая Немига литературная" — Анатоль Аўруцін, "Белая вежа" — Васіль Шырко, "Бярозка" — Алена Масла, галоўны рэдактар альманаха "Вожык" Юлія Зарэцкая, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Уладзімір Мазго, рэдактар аддзела часопіса "Вясёлка" Анатоль Зэкаў.

Секцыю паэзіі вёў паэт Міхась Башлакоў, секцыю прозы — пісьменніца Наталля Касцючэнка.

Вершы ўдзельнікаў семінара маладых літаратараў г. Мінска чытайце на 8-й старонцы.

Міхась СТУПАКОЎ

## IV Усебеларускі народны сход

**Сярод тых, хто вылучаны на прадстаўнічы форум, які адбудзецца 6 — 7 снежня, — старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч. Мы спыталіся ў дэлегата пра яго погляды на сучасны літаратурны працэс.**

# Шырспажыў — не літаратура



— Праблема не ў тым, хто перашкаджае пісьменнікам пісаць, а ў зацікаўленасці, — адказаў Анатоль Мікалаевіч. — Прыкладам, вельмі балючая тэма — кнігагандаль. Здаецца, што не датычыцца адно другога. А на самай справе пісьменнікі вельмі залежныя ад гандлю. Мы мусім шукаць заказы на свае кнігі, мець гарантыю, што іх купяць. А трэба зрабіць так, каб кнігі маглі знаходзіцца ў кнігарнях гадамі, не абавязкова сёння іх прадаваць. Чытач сапраўднай, вартай кнігі заўсёды знойдзецца! Магчыма, зрабіць так, каб цэнтралізавана пастаўляць кнігі ў кнігарні. Пісьменнік не павінен хадзіць з працягнутай рукой!

— Людзі ў нас дэзарыентаваныя пакуль што і ў выбары літаратуры, — разважае далей Анатоль Крэйдзіч. — Ім трэба падказваць. У кнігарню чалавек зойдзе — а там маскультура! Усё, акрамя літаратуры, ёсць! Атрымліваецца, што нохвае пакаленне зусім нічога не ведае. Густы трэба выхоўваць! А малады чалавек зойдзе ў кнігарню — там сонніві, зойдзе ў бібліятэку — там яму прапануюць за грошы кнігі, таксама далёкія ад сапраўднай літаратуры. Марыніных, Вароніных. Таму што бібліятэкам даведзены вялізныя планы платных паслуг. Сёння гэта нонсенс. Бібліятэкарам няпроста выконваць такія планы, а людзі замест годных твораў прыгожага пісьменства знаёмяцца з кніжкамі-аднадзёнкамі. Навязваецца людзям шырспажыў! Можа, калі супольна будзем пра гэта гаварыць, зможам штонебудзь змяніць…

Запісала Ірына ТУЛУПАВА

## «Круглы стол»

# Ці вартыя нашы кнігі экранізацый?

**У прэс-цэнтры Дома прэсы адбыўся "круглы стол" на тэму "Літаратура ў вірлівых варунках сучаснасці: папулярызацыя твораў беларускіх аўтараў у тэле-, радыёэфіры і кінематографе". Ставілася мэта — пазнаёміць прысутных з тымі працэсамі, што адбываюцца ў сучаснай беларускай літаратуры, і аптымістычна заявіць: цікавыя аўтары і вартыя творы ў нас ёсць. Іх можна і трэба папулярызаваць.**

Галоўны рэдактар часопіса "Полымя" паэт Мікола Мятліцкі заўважыў, што хаця паэзія старэйшага і сярэдняга пакаленняў прадстаўлена ў Беларусі даволі моцна, паэтычная моладзь яшчэ не заявіла належным чынам пра сябе — бракуе сур'ёзнасці тэм і маляўнічасці вобразаў. Тым не менш і "Полымя", і часопіс "Маладосць", і "Нёман", і штотыднёвік "ЛіМ" імкнуцца прадстаўляць на сваіх старонках лепшае, што створана як сталымі, так і маладымі аўтарамі.

Галоўны рэдактар аддзела літаратурна-мастацкіх праграм Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё Галіна Шаблінская і дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" паэт Навум Гальпяровіч пералічылі праграмы і рубрыкі, у якіх радыё годна прадстаўляе нашых класікаў, дае слова сучаснікам; прэзентуе паэзію і прозу; інсцэніруе ўжо вядомыя і новыя літаратурныя творы.

Вядучы рэдактар студыі дакументальнага кіно "Летапіс" Уладзімір Мароз распавёў пра біяграфічныя кінапраекты — ажыццёўленыя і запланаваныя, у якіх пісьменнікі прадстаўляюцца гледачу. Вядучы рэдактар галоўнай рэдакцыі Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" Рыта Шаграй заўважыла, што экранізацыя твораў пісьменнікаў-сучаснікаў павінна цікавіць у першую чаргу масавага гледача. Пісьменнік мусіць гэта ўлічваць пры падрыхтоўцы кінасцэнарыя. Адначасова Рыта Уладзіміраўна паведаміла, што на "Беларусьфільме" цяпер створаны ўсе ўмовы для плённага супрацоўніцтва са сцэнарыстамі і нават прадугледжана заключэнне дамовы ўжо пры наяўнасці добрага сінопсіса фільма.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Вечарыны

# Шукальнік шчасця

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася юбілейная вечарына, прысвечаная 110-годдзю заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, драматурга і кінасцэнарыста Рыгора Кобеца.

Рыгор Якаўлевіч Кобец (сапраўднае імя Міхаіл Драч) нарадзіўся ў Елісаветградзе. Вучыўся ў Елісаветградскім рэальным земскім вучылішчы, належаў да партыі анархістаў. У 1920 годзе пасля ўдзелу ў контррэвалюцыйным руху знаходзіць прытулак у Беларусі, дзе і становіцца Рыгорам Кобецам.

Вучоны сакратар Беларускага дзяржаўнага музея Янкі Купалы Ала Дражына адзначыла: "Рыгор Кобец — чалавек, які стаяў ля вытокаў беларускага тэатра і кіно. Па яго ўспамінах, менавіта сяброўства з Янкам Купалам дапамагло яму трывала ўвайсці ў кола пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Таму невыпадкова 110-годдзе майстра святкуецца ў гасцінным доме Янкі Купалы. Доўгія часы імя Рыгора Кобеца знаходзілася ў забыцці. Але дзякуючы старанній збіральніцы спадчыны майстра, яго дачцэ пісьменніцы Алене Кобец-Філімонавай Беларусь сёння ведае пра такога таленавітага чалавека".

Драматург, кінасцэнарыст, паэт, празаік, журналіст, грамадскі дзеяч увайшоў у гісторыю беларускай культуры як адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра і кіно, аўтар п'есы "Гута", што прынесла на пачатку 1930-х славу тэатру БДТ-1. Пазней з'явіліся камедыі "На заставе", "Шчаслівы бераг", "Мігрэнь" ды іншыя. Рыгор Кобец — ініцыятар стварэння сцэнарнага аддзела кінастудыі "Савецкая Беларусь", пісаў для яе сцэнарыі першых беларускіх гукавых фільмаў: "Двойчы народжаны", "Шукальнікі шчасця", "Днепр у агні".

У 1938 годзе быў арыштаваны. У 1960-м яго рэабілітавалі. Рыгор Якаўлевіч першым у Беларусі ў 1964 годзе напісаў аповед аб жыцці ў лагерах ГУЛАГа — "Ноеў Каўчэг".

Дарэчы, пасля доўгіх гадоў забыцця ў 2009 годзе ў выдавецтве "Кнігазбор" пабачыла свет кніга "Рыгор Кобец. Выбраныя творы".

Дачка Рыгора Якаўлевіча Алена Кобец-Філімонава расказала: "Гэты юбілей у творчым плане вельмі шчаслівы і для мяне, і для майго бацькі. Нарэшце выйшла кніга твораў Рыгора Кобеца. А гэта значыць, што імя бацькі стала яшчэ больш вядомым. Я ўпэўненая, што ён быў бы вельмі рады такой падзеі. Гэта вялікая перамога для мяне і бацькі".

Уладзімір ПАДАЛЯК

Літ-абсягі

# Жыве памяць



Імя народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Макаёнка непарыўна звязана з вёскай Журавічы Рагачоўскага раёна. Тут прайшло яго маленства. Тут пасля заканчэння ў 1938 годзе мясцовай школы ён працаваў масавіком у раённым Доме культуры (на той час вёска Журавічы была раённым цэнтрам). Сюды вярнуўся Андрэй Ягоравіч з фронту, дзе атрымаў цяжкае раненне. У Журавічах ён адчуваў сябе надзвычай шчаслівым чалавекам, бо акружалі яго людзі, пра якіх пісаў. І з людзьмі гэтымі былі ў драматурга самыя цёплыя, таварыскія адносіны. Дзе б потым ні быў Андрэй Макаёнак — у Гродне, Магілёве ці Мінску — сэрцам ён знаходзіўся з журавічанамі. І яны не забыліся пра яго.

У дзевяностыя дзень нараджэння пісьменніка ля помніка ў Журавічах было шмат кветак. Ад удзячных землякоў і гасцей свята. Адкрываючы яго на радзіме драматурга, цёплыя словы пра Макаёнка сказалі загадчык аддзела культуры райвыканкама Міхаіл Зайцаў, дырэктар раённай ЦБС Клаўдзія Савельева, старшыня Журавіцкага сельскага савета Таццяна Драздова. Выступалі перад гасцямі свята таксама пляменнік драматурга Уладзімір Макаёнак, пісьменнікі Васіль Ткачоў і Міхась Сліва. Быў зачытаны прывітальны адрас Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі кіраўніцтву і жыхарам раёна, землякам Андрэя Макаёнка. А пасля госці свята завіталі ў літаратурны музей драматурга.

Музей быў адкрыты ў мясцовай сярэдняй школе на пачатку 1986 года, і дзень гэты стаў значнай падзеяй не толькі ў жыцці журавічан, але і жыхароў навакольных вёсак. Сярод экспанатаў, сабраных там, — дзясяткі афіш і праграмак спектакляў на розных мовах, выданні п'ес, асабістыя рэчы драматурга. На здымках — Андрэй Ягоравіч з сябрамі-пісьменнікамі, з маці першага касманаўта планеты Юрыя Гагарына Ганнай Цімафееўнай, з блізкімі і роднымі. Каштоўныя рукапісы, кнігі з аўтографамі ад сяброў па пяры — Мележа, Брыля, Панчанкі, Лужаніна, Шамякіна, — усё гэта прыцягвае да стэлажоў і паліц. Хочацца падоўгу затрымлівацца ля карцін, на якіх намалявана хата Макаёнка, старая Журавіцкая школа, дзе ён вучыўся, углядацца ў твары бацькоў драматурга, Маланні Міхайлаўны і Ягора Сяргеевіча.

У святочны, юбілейны дзень у Журавічах гучалі спевы і нават разыгрывалася тэатральнае дзейства. Гэтак журавічане ўшанавалі памяць пра свайго вялікага земляка.

Васіль БАРХАНАЎ

На здымку: кветкі да помніка класіка — даніна памяці.

Арт-лінія

# Тыдзень з музычнымі зоркамі



Першы Міжнародны музычны фестываль "Уладзімір Співакоў запрашае" збярэ на лепшых філарманічных пляцоўках Беларусі зорак сусветнай велічыні. Яго канцэрты пройдуць з 1 па 6 снежня ў Мінску, Гомелі, Магілёве. Да арганізацыі і правядзення свята высокай музыкі спрычыніліся ТАА "Берын Арт Менеджмент", Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, тэлеканал АНТ, Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД, Пасольства Расійскай Федэрацыі ў нашай краіне, кампанія "Montblanc", Альфабанк (генеральны партнёр фестывалю).

Якое надвор'е прынясе ў нашу сталіцу першы дзень зімы: марознае, лагоднае, слотнае ці сонечнае — для меламанаў не мае значэння, бо ў сценах Беларускай дзяржаўнай філармоніі вечар 1 снежня абавязкова будзе пагодлівы, зоркавы. І гарачы: ажыятаж, аншлаг, авацыі! У праграме ўрачыстага адкрыцця фестывалю выступяць камерны аркестр "Віртуозы Москвы", славуты маэстра Уладзімір Співакоў, даўні сябар Мінска — дырыжор і саліст, выдатны расійскі піяніст Дзяніс Мацуеў і трубач Кірыла Салдатаў, а яшчэ — знаны ў шырокім музычным свеце малады беларускі віяланчэліст, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі Іван Карызна. Прагучаць творы Гайдна, Шастаковіча, Нэруды. У наступныя дні аркестр пад кіраўніцтвам У.Співакова прадставіць праграму ""Віртуозы Москвы" — сёння і заўтра" ў залах Гомельскай абласной і Магілёўскай абласной філармоній. Удзельнічаюць маладыя салісты — стыпендыяты Міжнароднага дабрачыннага фонду Уладзіміра Співакова і спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. У Беларускую дзяржаўную філармонію "Віртуозы Москвы" вернуцца 4 снежня і парадуюць публіку канцэртам "Волшебство аргентинского танго": дырыжыраваць аркестрам будзе маэстра з Германіі, ураджэнец Беларусі Аркадзь Берын, а ў якасці саліста выступіць аргенцінец Гіора Фейдман — легендарны кларнетыст, сусветна вядомы кароль аргенцінскага танга, сябар Астора П'яцолы. Цікава, што Г. Фейдман сёлета адзначае свае 75, і юбілей ён адсвяткуе менавіта ў Беларусі.

Удзельнічае ў фэсце і Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Віктара Бабарыкіна — ён будзе партнёрам шведскага піяніста і кампазітара Роберта Уэлса ды яго бэнда ў праграме "Rhapsody in Rock".

Завершыцца фестываль выступленнем Нацыянальнага філарманічнага аркестра Расіі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Співакова. У канцэрце возьмуць удзел лаўрэаты міжнародных конкурсаў салісты Аляксандра Сум (скрыпка), Аляўціна Яравая (сапрана), Аксана Волкава (мецца-сапрана). У гэтым апафеозе, які адбудзецца 6 лістапада, прагучыць музыка Бетховена, Пракоф'ева, Рахманінава.

Лана ІВАНОВА

На здымку: уладальнік шматлікіх прэмій і ганаровых званняў маэстра Уладзімір Співакоў.

Повязі

# Кітайскае танцавальнае мастацтва — у Беларусі

З'яўленне ў Беларусі манаграфіі "Кітайскае танцавальнае мастацтва XX стагоддзя: узаемадзеянне нацыянальных і заходніх традыцый" — з'ява не выпадковая. Справа ў тым, што ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва існуе і плённа працуе навуковая школа "Кампаратыўнае мастацтвазнаўства". У рамках яе дзейнасці выкананы і паспяхова абаронены тры дысертацыі маладых вучоных з Кітайскай Народнай Рэспублікі. Аўтар адной з іх — выкладчык харэаграфіі, член Саюза харэографаў правінцыі Хэнань КНР, харэограф-пастаноўшчык Сунь Цзянь. Манаграфія "Кітайскае танцавальнае мастацтва XX стагоддзя…" — вынік дысертацыйнага даследавання.

Першы раздзел манаграфіі — "Традыцыйнае танцавальнае мастацтва Кітая: народны і прыдворны танец". У ім аўтар робіць і невялікі экскурс у гісторыю кітайскага танца. Адметнасцю раздзела з'яўляецца і дастаткова поўнае асвятленне крыніцазнаўчай базы. Другі раздзел — "Развіццё прафесійнага танцавальнага мастацтва Кітая ў XX стагоддзі (1900 — 1970-я гг.)". Асобна аўтар вылучае перыяд 1900 — 1937 гг., акрэсліваючы тэму пранікнення заходняй харэаграфіі ў кітайскую культуру.



Адкрыццём для беларускага чытача з'яўляецца танцавальны лёс першага прафесійнага харэографа Кітая XX стагоддзя Юй Жунглін, першай кітайскай танцоўшчыцы, якая вывучала еўрапейскае мастацтва. Не меней цікавыя старонкі, якія расказваюць пра танец ваенна-рэвалюцыйнай эпохі (1937 — 1949 гг.), пра нараджэнне народна-сцэнічнага танцавальнага мастацтва.

У трэцім раздзеле мастацтвазнаўца разглядае сінтэз нацыянальных і заходніх традыцый у танцавальным мастацтве Кітая 1980 — 2000-х гг. У адной з высноў, прапанаваных чытачу, аўтар падкрэслівае наступнае: "Перыяд 1978 — 2009 гадоў вызначаецца абвяшчэннем у краіне курса на "адкрытасць" узаемаадносін з краінамі ўсяго свету. Натхнёнае ідэямі свабоды творчасці і дзейнасці, імклівымі тэмпамі развіваецца мноства разнастайных харэаграфічных твораў. Асноўнымі жанрамі гэтага перыяду з'яўляецца кітайскі нацыянальны балет, балет еўрапейскага тыпу, танцавальныя мініяцюры, сюіты на аснове народных танцаў і класічнага кітайскага танца, музычна-танцавальныя эпапеі, творы малых формаў і балеты (сюжэтныя і бессюжэтныя) у стылі танца мадэрн".

Праца Сунь Цзянь — безумоўна, вялікая творчая ўдача не толькі даследчыка, але і Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.

Вераніка ЛАЗОЎСКАЯ

На здымку: сцэна з балета "Сільвія" (1980 г., пастаноўка Л. Дарсанваль, кампазітар Л. Дэліб).

З-пад пяра

Дзень падпісчыка — гэта не свята. Гэта акцыя, мэтай якой з'яўляецца азнаямленне насельніцтва з перыядычнымі выданнямі краіны, каб кожны часопіс, кожная газета знайшлі свайго чытача. Дзень падпісчыка ў Мінску праходзіў у прасторным памяшканні Галоўпаштамта. Сталічныя выданні падрыхтавалі да гэтага дня свае рэкламныя стэлажы і лісткоўкі. А ветлівыя супрацоўнікі паштамта кожнаму наведвальніку распавядалі пра выгоды атрымання любімай газеты ці часопіса па пошце і прапаноўвалі аформіць падпіску. Прэзентавала ў гэты дзень свае выданні таксама РВУ "Літаратура і Мастацтва". Зацікаўленыя чытачы атрымлівалі адказ на любое пытанне і нярэдка пасля знаёмства з рэкламнай выстаўкай ішлі афармляць падпісныя квіткі.

Лізавета БАГАДЗЯЖ

У Інстытуце журналістыкі БДУ праходзяць калектыўныя чытанні твораў У. Караткевіча. Задума арганізаваць іх узнікла яшчэ пяць гадоў таму, калі стала вядома, як адсвяткавалі ў Іспаніі 400-годдзе з дня выхаду ў свет класічнага рамана М. Сервантэса "Дон Кіхот" — раман чыталі на плошчы на працягу трох дзён больш як дзве тысячы чалавек. Чытанні твораў Караткевіча арганізавалі супрацоўнікі інстытуцкай бібліятэкі. Кожны дзень на вялікім перапынку студэнты аддаюць дваццаць мінут свайго вольнага часу, каб акунуцца ў прыгажосць слова і сюжэтаў вялікага майстра. "Гэта самае меншае, што мы можам зрабіць у знак пашаны і любові да "зоркі" беларускай літаратуры", — кажуць арганізатары акцыі.

Вольга ГУРНОЎСКАЯ

З нагоды юбілею Андрэя Макаёнка ў Доме кіно прайшоў паказ першай каляровай шырокаэкраннай стужкі "Рагаты бастыён", знятай на "Беларусьфільме" паводле п'есы драматурга "Лявоніха на арбіце" ў 1964 годзе рэжысёрам Пятром Васілеўскім. Шлях кінастужкі да гледача не быў лёгкім. "Камедыя з сакрэтам" альбо з "двайным дном" аказалася незразуметай тымі, ад каго залежаў яе пракат. Фільм быў пакладзены на паліцу і праляжаў да 1975 года. З цягам часу многія кінастужкі старэюць, але "Рагаты бастыён" дзякуючы таленту Андрэя Макаёнка дагэтуль выглядае сучасна і злабадзённа. І гэта адзначалі ўсе, хто прыйшоў на паказ. Прадстаўлены былі ў той дзень прысутным таксама два плакаты з фонду кінастудыі да гэтага фільма, аднаўленыя сучаснай тэхнікай.

Галія ФАТЫХАВА

Галерэя сучаснага мастацтва "Ў" прадстаўляе праект Канстанціна Мужава "Элементарыум". Праз творы, якія склалі адмысловую экспазіцыю, творца імкнецца раскрыць сутнасць прадметаў, кампанентаў, якія ён уводзіць у мастацкую прастору, каб нешта падкрэсліць, вылучыць больш аб'ёмна і ўражліва. Аўтар стварае свой свет, дзе форма злучаецца з ідэяй і атрымліваецца элемент мастацтва, той элемент, праз які аўтар выкладае гледачу свой мастацкі светапогляд. Як вядома, "элемент" (ад лац. elementum) азначае "першапачатковае рэчыва", таму ўсе экспазіцыі зроблены гарманічна і акрэслены надзвычай дэталёва. Творы напоўнены ўражаннямі, пачуццямі і музыкай. "Разэтасамае ва ўсе бакі", "…Працягненне…", "Скручаныя паралелі". Менавіта колер і гама, якія існуюць у "Элементарыуме" мастака Канстанціна Мужава, набываюць важнае значэнне, развіваюць і пашыраюць прастору прыдумак творцы.

Дар'я ШОЦІК



# Стасункі — з кожным рэгіёнам краіны

Часопіс "Роднае слова" арыентуецца на чатыры навуковыя спецыяльнасці: філалогія, культуралогія, мастацтвазнаўства, педагогіка — таму для Беларусі часопіс унікальны. Настаўнікі называюць гэта выданне энцыклапедыяй. Але яно розлічана не толькі на настаўнікаў і навукоўцаў, але і на людзей, якія цікавяцца гісторыяй, мовай, культурай, на тых, хто па жыцці ідзе поруч з беларускім словам. Пра працу над часопісам і яго асаблівасці распавядае галоўны рэдактар "Роднага слова" — член Саюза пісьменнікаў Беларусі Зоя Падлiпская.

— Зоя Іванаўна, якія матэрыялы пераважна друкуюцца ў часопісе "Роднае слова"?

— Наш часопіс выходзіць на 112 старонках і складаецца з пяці раздзелаў: "Літаратура і час", "Мовы рысы непаўторныя", "Методыка і вопыт", "Калі закончыўся ўрок", "Нацыянальная і сусветная культура". Галоўная наша задача — задаволіць запыты педагогаў краіны, павысіць кваліфікацыю настаўнікаў і выкладчыкаў праз публікацыі часопіса і асветніцкую работу. Я сама 10 гадоў працавала ў сярэдняй школе № 10 г. Слуцка і з'яўлялася не толькі падпісчыкам, але і аўтарам "Роднага слова". Мы публікуем навуковыя, дыдактычныя і метадычныя матэрыялы, распрацоўкі ўрокаў, матэрыялы для падрыхтоўкі вучняў да тэсціравання і алімпіяды, настаўніцкія нататкі, сцэнарыі выхаваўчых мерапрыемстваў, нарматыўныя дакументы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. На працягу 2009 года на старонках часопіса былі змешчаны публікацыі, прысвечаныя Году роднай зямлі. Сёлета значная частка матэрыялаў часопіса абумоўлена выкананнем Плана мерапрыемстваў па рэалізацыі палажэнняў Закона "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі".

— На каго разлічаны часопіс? Наколькі ён можа быць цікавым для непедагогаў?

— Часопіс навуковы і метадычны, таму мае спецыфічную аўдыторыю. Але ў нас ідзе шмат літаратуразнаўчых матэрыялаў, якія могуць прывабіць аматараў прыгожага пісьменства. Да таго ж, дзякуючы вучэбнай праграме факультатыўных заняткаў 5—11 класаў па беларускай мове, бацькі могуць пазнаёміцца з тым, што будуць вывучаць іх дзеці ў школе. "Роднае слова" чытаюць бібліятэкары, супрацоўнікі архіваў і музейных устаноў, бо мы змяшчаем матэрыялы па культуралогіі і мастацтвазнаўстве.

— Ці змяшчаюцца ў часопісе артыкулы па даследаванні сучаснай літаратуры?

— Толькі за мінулы год у "Родным слове" апублікавана больш як 200 літаратурна-крытычных артыкулаў, асобныя з якіх былі прысвечана творчасці В. Быкава, А. Дударава, А. Разанава, В. Казько, В. Карамазава, А. Петрашкевіча, Г. Марчука, Е. Лось, А. Сыса, Т. Бондар, Х. Лялько, С. Шах, Ул. Мазго ды інш. У рубрыцы "Наша гасцёўня" чытачы знаёміцца з цікавымі людзьмі нашай рэспублікі — пісьменнікамі, даследчыкамі, кампазітарамі, вопытнымі педагогамі, а таксама даведваюцца пра значныя падзеі ў культурным жыцці краіны. У гэтай рубрыцы прадстаўлены інтэрв'ю з вядомымі празаікамі і паэтамі: Мікалаем Чаргінцом, Навумам Гальпяровічам, Віктарам Шніпам, інтэрв'ю з удавой знакамітага кампазітара Яўгена Глебава... Паколькі часопіс "Роднае слова" ўключаны ў пералік навуковых выданняў Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па гуманітарных навуках, то, зразумела, пэўная частка часопіснай плошчы адводзіцца ў нас на артыкулы, якія з'яўляюцца апрабацыяй кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый па названых накірунках.

— Хто з'яўляецца аўтарам артыкулаў часопіса?

— У асноўным гэта філолагі, культуролагі, мастацтвазнаўцы, вопытныя педагогі, настаўнікі роднай мовы і літаратуры. За апошнія гады сярод нашых аўтараў з'явіліся і вучоныя Украіны, Казахстана…

— Ці існуюць нейкія праблемы ў стасунках з аўтарамі?

— Можна сказаць, што праблема адна — шмат артыкулаў, і амаль усе яны заслугоўваюць публікацыі на старонках "Роднага слова". Але часопіснай плошчы не хапае, і аўтарам даводзіцца пэўны час чакаць. Я думаю, такія праблемы існуюць не толькі ў нас. Нашы рэдактары вельмі сур'ёзна вывучаюць каляндарна-тэматычнае планаванне па беларускай мове і літаратуры, у адпаведнасці з ім рыхтуюць матэрыялы. Іншых праблем у стасунках з аўтарамі няма. Наадварот, мы заўсёды рады бачыць іх у рэдакцыі, абмяркоўваем пытанні паляпшэння зместавага напаўнення часопіса, раімся наконт новых рубрык і разам працуем на карысць чытачоў.

— Наколькі адчуваецца запатрабаванасць часопіса? Ці існуе зваротная сувязь?

— Адны́мі з нашых самых актыўных чытачоў з'яўляюцца цікавыя настаўнікі роднай мовы і літаратуры Віктар Кажура з Вілейкі і Любоў Собаль з Уздзенскага раёна. Без такіх настаўнікаў мы проста не ўяўляем сваю працу: яны адгукаюцца на нашы публікацыі, іх вучні даюць добрыя вынікі на алімпіядах, на нашых конкурсах. У снежні мінулага года мы ўсёй рэдакцыяй выправіліся на выязную нараду — прысутнічалі на адкрытым уроку Любові Собаль "Момант ісціны. Роля роднага слова ў адраджэнні духоўнасці". Мы маем цесныя стасункі з кожным рэгіёнам краіны – кожны рэдактар з'яўляецца куратарам пэўнай вобласці, непасрэдна працуе з падпісчыкамі, даведваецца, пра што яны хацелі б прачытаць у часопісе… Два гады таму быў створаны сайт нашага выдання, а гэтым летам мы зрабілі новую версію сайта, дадалі банеры са спасылкамі на сайты міністэрстваў. Пройдзе некалькі месяцаў, і мы пачнём змяшчаць на сайце электронныя версіі папярэдніх нумароў "Роднага слова"…

— Якія мерапрыемствы праводзіць рэдакцыя, каб прыцягнуць увагу да выдання?

— У 2008 годзе мы аб'явілі конкурс навукова-даследчых і творчых прац сярод вучняў 4—11 класаў. На працягу года да нас ішлі лісты, прыходзілі бандэролі, нават летам у рэдакцыю праз дзень прыязджалі настаўнікі, каб прывезці працы сваіх выхаванцаў. Адгукнуліся вучні і настаўнікі з усіх рэгіёнаў краіны. На працягу двух тыдняў працавала кампетэнтнае журы. Усе навукова-даследчыя працы мелі арыгінальны характар, ніводная не была "скачаная" з Інтэрнэта, бо навуковыя кіраўнікі адказна паставіліся да справы. Што ж датычыцца творчых прац, то ўдзельнікі конкурсу выявілі сябе і як паэты, і як празаікі. Асабліва радавалася душа, калі ў адным зборніку былі творы і вучняў, і настаўнікаў, калі некаторыя школьнікі дасылалі нам цэлыя бібліятэчкі кніг…

— Наколькі складана было вызначыць пераможцаў?

— У верасні 2009 года ў сталічным Доме літаратара каля 140 педагогаў разам з выхаванцамі атрымалі дыпломы і граматы часопіса "Роднае слова". Пераможцы былі вызначаны сярод усіх узроставых груп. Для нас было істотна выявіць таленты, зацікавіць моладзь у захаванні нашай духоўнай спадчыны, выклікаць павагу да беларускага слова. Хацелася б, каб узнагароджанне заўсёды адбывалася ўрачыста, каб удзельнікі атрымлівалі каштоўныя падарункі — таму было вырашана праводзіць такія маштабныя конкурсы адзін раз на два гады.

— Якую працу супрацоўнікі рэдакцыі праводзяць па павелічэнні тыражу часопіса?

— 3 чэрвеня 2009 года па чэрвень 2010 года тыраж узрос больш чым на тысячу экзэмпляраў. На жаль, да гэтага часу наш часопіс ёсць не ў кожнай агульнаадукацыйнай установе краіны. Але ёсць такія ўстановы і індывідуальныя падпісчыкі, якія разам з часопісам больш як 20 гадоў, з дня яго заснавання!

Мы праводзім штомесячныя сустрэчы з чытачамі і падпісчыкамі, падчас якіх рэдактары знаёмяць прысутных з планамі рэдакцыі, даюць каментарыі адносна актуальнасці і запатрабаванасці надрукаваных матэрыялаў, а таксама праводзяць асветніцкую работу па пытаннях змен у правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

Намеснік галоўнага рэдактара нашага часопіса — дацэнт кафедры педагогікі Мінскага дзяржаўнага інстытута развіцця адукацыі Марыя Кныш — кожны месяц прэзентуе матэрыялы часопіса падчас правядзення лекцыйных заняткаў.

У 2010 годзе часопіс стаў лаўрэатам конкурсу "Залатая Ліцера" ў намінацыі "Лепшыя матэрыялы навуковай і навукова-папулярнай тэматыкі", а таксама быў узнагароджаны дыпломам удзельніка XIV Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі" за шырокую папулярызацыю выдання ў межах медыяфоруму.

— Як спалучаецца праца галоўнага рэдактара з вашай паэтычнай творчасцю?

— Для таго каб пісаць вершы, а дакладней іх думаць, шмат часу не трэба — патрэбна натхненне і пэўны настрой душы. Тады толькі паспявай запісваць нашаптаныя небам радкі. Нягледзячы на тое, што мне як кіраўніку прыходзіцца вырашаць самыя розныя пытанні, у творчай атмасферы, якая пануе ў рэдакцыі, проста немагчыма не пісаць. І не толькі навуковыя і публіцыстычныя матэрыялы. На шчасце, думаюцца вершы і пішуцца песні на мае словы. Плённа супрацоўнічаю з беларускімі кампазітарамі А. Атрашкевіч, Л. Шурманам. Дарэчы, напрыканцы лістапада ў нас з паэтэсай Таісай Трафімавай, маёй роднай сястрой, адбудзецца чарговая творчая вечарына "Нас родныя трымаюць карані"…

— Якія змены адбыліся ў часопісе за час вашай працы на гэтай пасадзе?

— Галоўным рэдактарам часопіса "Роднае слова" я стала з мая 2009 года. Да гэтага працавала галоўным інспектарам упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Кіраўніцтва Міндукацыі даверыла мне ўзначаліць часопіс у той час, калі ён перажываў пэўныя цяжкасці: зніжэнне тыражу, невысокая самаакупнасць...

Думаецца, можна гаварыць пра пэўныя пазітыўныя змены. Зазначу, што без такога цудоўнага калектыву сапраўдных прафесіяналаў і аднадумцаў, маіх калег-роднаслоўцаў, многае зрабіць проста не ўдалося б.

Са студзеня 2010 года значна палепшылася паліграфічнае выкананне, дызайн і вёрстка выдання. Раз у квартал даюцца каляровыя ўклейкі ў часопіс. Увесь час пашыраецца тэматычны дыяпазон выдання. Кожны нумар часопіса штомесячна прэзентуецца на Беларускім радыё.

Наперадзе шмат планаў і ідэй. І толькі сумеснымі намаганнямі супрацоўнікаў рэдакцыі з нашымі аўтарамі, чытачамі і падпісчыкамі мы зможам і надалей аддана служыць роднаму слову і Беларусі.

Гутарыла
Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Новы лёс бібліятэкі Івана Каладзеева

Падчас знаходжання ў Мінску прэзідэнта Нацыянальнай бібліятэкі Францыі сп. Бруна Расіна кіраўнікі нацыянальных кніжных скарбніц дамовіліся пра магчымую сумесную рэалізацыю праекта па віртуальнай рэканструкцыі бібліятэкі І.Х. Каладзеева.

Кіраўнікі нацыянальных бібліятэк дзвюх краін — Беларусі і Францыі абмеркавалі шэраг пытанняў і падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве.

Пагадненне дазволіць актывізаваць узаемны абмен кнігамі і іншымі дакументамі, устаноўлены з 1986 года, які апошнімі гадамі зменшыўся. Аб'ём фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Францыі — 13 мільёнаў дакументаў. Што да беларускіх выданняў, то гэта: "Дастаткова сціплая лічба, — падкрэсліў, адказваючы на пытанне карэспандэнта "ЛіМа", сп. Расін. — Усяго ў нашых фондах каля тысячы дакументаў. Але вядзецца актыўны абмен перыядычнымі выданнямі". Шмат дакументаў пра Беларусь, паводле Бруна Расіна, маюць іншыя ўстановы Францыі.

Супрацоўніцтва будзе датычыць і тэхнічнай сферы. Асабліва — далейшага развіцця лічбавай бібліятэкі. Нацыянальная электронная бібліятэка Францыі — адна з лепшых на тэрыторыі Еўропы, і нам, бясспрэчна, цікавы ў гэтым плане французскі досвед. Размова ішла аб абмене копіямі электронных дакументаў, якія ўяўляюць узаемную цікавасць. Гэта дакументы, датычныя гісторыі Францыі, якія ёсць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, і дакументы, якія назапашаны ў Нацыянальнай бібліятэцы Францыі і ўяўляюць цікавасць для нас. Прыкладам, адна з яркіх падзей — гісторыя роду Радзівілаў і іх знаходжанне ў Парыжы. Адпаведна, уяўляюць сапраўдны скарб і кніжныя калекцыі, якія яны стварылі.

Падпісанае пагадненне — прыдатная база для развіцця супрацоўніцтва і паміж бібліятэкамі, і ў сферы культуры. Таму падчас сустрэчы гаварылі пра агульныя канцэптуальныя падыходы. У прыватнасці — пра ўнёсак бібліятэкі Францыі ў выстаўку 2012 года, прысвечаную 200-годдзю вайны з Напалеонам. А менавіта пра тое, што з фондаў дакументаў Нацыянальнай бібліятэкі Францыі можна будзе выкарыстаць пры арганізацыі выстаўкі. Да гэтай даты у нас прымеркаваны комплекс мерапрыемстваў, у тым ліку — выстаўка выданняў з бібліятэкі Івана Каладзеева, якія ёсць у фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Як вядома, гэта самая буйная бібліятэка, прысвечаная падзеям вайны 1812 года, якая была створана за межамі Францыі. За 25 гадоў І. Х. Каладзееў сабраў бібліятэку, якая яшчэ пры жыцці калекцыянера стала "першым зборам не толькі ў Расіі, але і ў Еўропе", паколькі яна найбольш поўна адлюстроўвала гісторыю напалеонаўскіх войнаў. Яна налічвала каля 15 тысяч выданняў на ўсіх еўрапейскіх мовах. Самы вялікі раздзел складалі выданні на рускай мове, сярод якіх асаблівую каштоўнасць уяўлялі падборкі часопісаў і газет, пачынаючы з 1810 года. Французскі аддзел складалі мемуары сучаснікаў, дзеячаў і ўдзельнікаў Вялікай арміі. На выстаўцы плануецца прадставіць графіку, фотаздымкі, архівы ды іншыя дакументы.

Наперадзе чакаецца актыўная праца па віртуальнай рэканструкцыі бібліятэкі. У межах падпісанага пагаднення плануецца сфарміраваць групу па выяўленні і апісанні бібліятэкі І. Х. Каладзеева. Мяркуецца алічбоўка найбольш каштоўных выданняў, ілюстрацый і іканаграфічных матэрыялаў, прысвечаных вайне 1812 года, стварэнне персанальнай бібліяграфіі І. Х. Каладзеева і вопіс яго бібліятэкі.

Ірына ТУЛУПАВА

## Шчырая размова прадоўжыцца!

Перад часопісам для падлеткаў, якім з’яўляецца “Бярозка”, ставяцца вельмі няпростыя задачы. Быць цікавымі настолькі, каб сярод стракатасці дзясяткаў сучасных часопісаў дзеці абралі наш — трэба быць адметнымі, непаўторнымі, выходзіць да чытача з эксклюзіўнымі матэрыяламі.

Ствараючы кожны нумар, мы імкнёмся захапіць падлеткаў размовамі на тэмы, якія хвалююць іх — не буду паўтарацца, папулярныя рубрыкі пералічаны ў водгуках. Разам з тым, мы імкнёмся быць карыснымі для педагогаў, бібліятэкараў — каб з дапамогай часопіса яны маглі наладжваць гутаркі, абмеркаванні, далучацца да творчых праектаў, якія прапануе “Бярозка”.

І, безумоўна, мы вельмі прыдзірліва ставімся да падбору літаратурных твораў: сучасныя дзеці — патрабавальная публіка. І папка цікавых літаратурных твораў гатова! У ёй апавяданні для юнацтва Раісы Баравіковай, Людмілы Дрожжы, лірычныя мініяцюры “Котка, якая выйшла з кніжкі” Людкі Сільновай, казкі Сержа Мінскевіча і апавяданні пра жыццё сучасных школьнікаў Генадзя Аўласенкі, гумарыстычныя апавяданні Юліі Зарэцкай і шмат іншых літаратурных твораў. Адмыслова для “Бярозкі” піша новы твор Андрэй Федарэнка.

Таксама на працягу года будуць друкавацца ўрыўкі з новага твора Наталлі Бучынскай “Некалькі незабыўных сустрэч з авечкай Адэляй”. Авечка Адэля — усім авечкам авечка! Піша лісты ў Грынпіс, прытрымліваецца дрэс-коду, асвойвае правілы гламуру на кожны дзень, трапляе ў міліцыю, збіраецца ў дальнія экспедыцыі… Побач з ёй — сяброўкі, козачкі Малімонка і Даліктуся, а таксама ўражлівы Баранчык.

Аповесць напісана дасціпна, з гумарам, у ёй пазнаюцца рэаліі сучаснасці. Героі — казачныя, але хутчэй гэтую аповесць можна назваць не дзіцячай, а аповесцю для сямейнага чытання.

2011 год — знакавы для “Бярозкі”. Навагодні нумар будзе ТЫСЯЧНЫМ! Мы надрукуем сцэнарыі святаў, каб можна было ў школах і бібліятэках наладзіць мерапрыемствы да такой знамянальнай даты.

І па-ранейшаму — цікавыя конкурсы, магчымасць юным творцам заявіць пра сябе ў “Вераску” і шчырая размова з чытачом, які хоча “…разабрацца ў гісторыі, сучаснасці, сабе!”.

У народзе кажуць: “Не хвалі сябе сам, няхай цябе людзі пахваляць”. Таму з рэдакцыйнай пошты мы адабралі некалькі лістоў — а іх нам апошнім часам прыходзіць шмат.

Алена МАСЛА,
галоўны рэдактар часопіса “Бярозка”

# У руках чытача — «Бярозка»

### Крэатыўны погляд на жыццё

Сельскія і школьныя бібліятэкі Барысаўскага раёна, на жаль, атрымліваюць не такі ўжо шырокі спектр беларускамоўных перыядычных выданняў. Але ў чытачоў яны запатрабаваныя, і часопіс “Бярозка”, значна абноўлены за апошні год знешне і па змесце, карыстаецца вялікім попытам у школьнікаў. Супрацоўнікі сельскіх і школьных бібліятэк адзначаюць станоўчыя змены ў часопісе — адчуваецца крэатыўны падыход да справы ўсяго калектыву рэдакцыі.

“Бярозка” вельмі разнастайная па тэматыцы: кожны вучань можа знайсці матэрыялы на свой густ. Анкетаванне, праведзенае сярод васьмікласнікаў Старабарысаўскай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы, паказала, што найбольш цікавымі рубрыкамі часопіса для іх з’яўляюцца: “Думкі ўслых”, “Цяжкасці росту”, “Дынамік”, “Мініплакат”, “IQ-клуб”. Даспадобы юным чытачам і рубрыкі: “Кніжная паліца”, “Верасок”, “За адной партай”, “Мой стыль”. Падлеткам цікава чытаць пра сваіх равеснікаў, пра тое, якімі творчымі здольнасцямі яны валодаюць, чаго змаглі дабіцца ў жыцці, пра таленавітых мастакоў, спевакоў. Сёлета часопіс “Бярозка” карыстаўся вялікім попытам у выхаванцаў раённага летніка “Бродаўка”. Сельскі бібліятэкар вёскі Бродаўка на працягу летніх месяцаў выдавала яго 120 разоў!

Абагульняючы вынікі экспрэс-апытання калег-бібліятэкараў, можна выказаць меркаванне, што “Бярозка” карыстаецца попытам у большай ступені ў сельскіх школьнікаў, у прыватнасці, у дзяўчынак ва ўзросце 14 — 16 год.

Асабіста мне, як метадысту па рабоце з дзіцячым чытачом і аўтару імідж-праекта “Далучыць да роднага слова”, вельмі імпануе тое, што рэдакцыі часопісаў “Бярозка” і “Бібліятэка прапануе” аб’явілі акцыю “Чытаем па-беларуску” і на іх будуць друкавацца метадычныя парады і літаратурна-мастацкія творы для сумеснага чытання і абмеркавання з дзецьмі. Гэта акцыя, спадзяюся, стане добрай падтрымкай бібліятэкарам — практыкам у справе далучэння дзяцей да чытання кніг беларускіх пісьменнікаў.

Людміла ЗАХАРЭВІЧ,
метадыст па рабоце з дзіцячым чытачом,
г. Барысаў



На здымку: рэдакцыйная “планёрка” на адкрытым паветры.

### Звярніце ўвагу!

Супрацоўнікі Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэкі заўсёды раяць чытачам, на што звярнуць увагу. На наш погляд, сярод іншых выданняў вылучаецца “Бярозка”. Яна выдаецца ў лепшых традыцыях і нагадвае сучасную дзіцячую беларускую кнігу. Уражвае і дызайн выдання з абавязковым міні-плакатам.

Часопіс пазнавальны, не перагружаны графічна і інфармацыйна, адсутнічаюць безаблічныя інтэрв’ю. Асабліва цікавыя рубрыкі: “Цяжкасці росту”, “IQ-клуб”, “Дынамік”, “Думкі ўслых”, “Пытанне з пясочніцы”, “Сеціва”, “Краіна замкаў”.

Чытач можа актыўна ўдзельнічаць у праектах, конкурсах, якія праводзіць рэдакцыя. Сапраўды, гэты часопіс — для тых, хто хоча разабрацца ў гісторыі, сучаснасці, сабе!

Хочацца адзначыць і літаратурную частку. Цікавыя займальныя маленькія апавяданні, вершы. Гэта тое, што патрэбна нашым чытачам, асабліва цяпер, калі становішча з ужываннем беларускай мовы даволі няпростае.

На наш погляд, менавіта такія маленькія творы вернуць цікавасць да беларускай кнігі. Іх можна хутка прачытаць і абмеркаваць з сябрамі, або пачытаць разам з бацькамі і адчуць радасць ад прыгожага роднага слова. Таму вельмі актуальнай з’яўляецца акцыя “Чытаем па-беларуску!”. Наша бібліятэка таксама далучылася да яе з задавальненнем.

Ірына СІНЕЛЬНІКАВА,
загадчык аддзела
абслугоўвання ЦГДБ
г. Мінска

### 3 рубрыкі «Ліст нумара»

Прачытала чарговы нумар часопіса і вырашыла падзяліцца сваімі ўражаннямі. “Бярозка” заўважна змяніла свой стыль. Мне падабаецца, што ахоплена многа вельмі цікавых тэм, якія пашыраюць кругагляд: рубрыкі “Скарбы тваёй радзімы”, “Свой голас”.

Ангеліна ПАКАЧАЙЛА,
вёска Вярэйкі
Ваўкавыскага раёна

Пазаўчора атрымала першы нумар “Бярозкі” за 2010 год, і ён нагадаў мне як ранейшыя выпускі, напрыклад, 1989 года, якія я знайшла ў бабулінай бібліятэцы. Вельмі спадабаліся плакат, артыкулы пра дагістарычную Беларусь і пра крышталікі. Праўда, яшчэ не ўсё прачытала. Але мне ўжо падабаецца.

Янка ВЛАДЫКА
14 год, г. Маладзечна

Дзякуй за часопіс, які вы выдаяце, за любоў і павагу да радзімы, да роднай мовы. Калісьці ў дзяцінстве бацькі выпісвалі мне “Бярозку”. Але з той пары мінула нямала часу і, па шчырасці, я ўжо лічыў, што часопіса няма. Але “Бярозка”, аказваецца, не толькі жывая — яна вельмі цікавая і прыгожая! Часопіс цікавы і мне, і дзецям — іх у нашай сям’і трое…

Віктар РЫБАЧКІН,
г. Мінск

Пішуць табе, “Бярозка”, вучні 6 “Б” класа сярэдняй школы № 9 г. Бабруйска. Мы — удзельнікі гуртка “Скарбніца”, які ўжо пяты год працуе пры дзіцячай бібліятэцы № 6 імя М. Астроўскага. Тут мы бліжэй знаёмімся з беларускай нацыянальнай культурай. А часопіс “Бярозка” дапамагае нам знайсці патрэбнае, каб падрыхтавацца да заняткаў у гуртку. На тваіх старонках мы знайшлі артыкулы пра беларускія ручнікі, беларускія гульні. Вялікі дзякуй і за сцэнар свята “Сёмуха”!

Вучні 6 “Б” класа
сярэдняй школы № 9
г. Бабруйска

Часопіс “Бярозка” — выдатная пляцоўка для дэбюту школьнікаў, якія пішуць вершы і замалёўкі, цудоўны памагаты для настаўніка ў пазакласнай працы і адзіная магчымасць прачытаць найлепшыя творы для падлеткаў на беларускай мове. Мне здаецца, было б вельмі добра, каб падпіска на “Бярозку” стала абавязковай і каб яна трапляла ў кожную школьную бібліятэку.

Таццяна КАРОЛЬ,
настаўніца,
г. Мінск

## Анкета пісьменніка

# Беларускасць — тое, што дала табе твая сям’я



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца на ТБ. І яшчэ радзей у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць. Ці павінны кнігі вучыць жыць?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Чаму знікае публіцыстыка? Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?

Уладзімір ШУГЛЯ,
Ганаровы консул Рэспублікі Беларусь
у Цюменскай вобласці, член Саюза
пісьменнікаў Беларусі:

1. Настаўнік — гэта найперш чалавек, які не толькі вучыць спецыяльным прадметам, а і жыццю. Як мы выбіраем мелодыю, сугучную нашым перажываннм, так мы знаходзім для сябе і паэта, творцу. І гэтая блізкасць неацэнная. А калі пісьменнік не трапляе ў тую хвалю ўспрымання свету, якая ёсць у насельніцтва, ён нецікавы. Як асоба нецікавы. Ён можа прапаведаваць адно, а жыць па іншых законах. Гэта адразу адчуваецца.

Калі талент — бясспрэчна, такога чалавека надрукуюць усе і будуць ганарыцца. На жаль, сёння мы пад словам талент разумеем нейкі ўсярэднены пісьменніцкі зрэз. Асяроддзе творцаў — шматаблічнае. А талентаў — адзінкі. Вось да іх голасу прыслухоўваюцца, нават чакаюць з’яўлення новых твораў.

Сёння роля паэта, пісьменніка павінна вызначацца і спрадвечным — што ты зрабіў для Радзімы. Прыстойнасць, працалюбства, мудрасць — тыя якасці, якія павінны прысутнічаць у літаратара.

2. Пісьменнік не павінен вучыць жыць. Вучаць яго раманы, аповесці, вершы. Кнігу чытаюць толькі тады, калі ў сям’і лад, калі выхаванне заснавана на лепшых каштоўнасцях. І калі бацькі дапамагаюць выбраць тую кнігу, якая табе патрэбна.

3. Пісьменнік — гэта ўжо грамадская дзейнасць. Я ў Цюмені яшчэ ўзначальваю Саюз інтэграцыі братніх народаў — арганізацыі, якая спрыяе збліжэнню культур у тым ліку. Бацькі мае з Беларусі. І краіну гэтую вельмі люблю. І вельмі рады, калі дапамагаю Беларусі развіваць гандлёва-эканамічныя адносіны з Расіяй. 30 аўтобусаў — МАЗаў — ездзяць па дарогах Цюмені, дамовіліся аб 29 трактарах. Праекты ёсць і яшчэ — стварэнне ў нас сервіснага цэнтра МТЗ, зборачнай вытворчасці камбайнаў… І лічу, як і паўсюль лічаць, што чалавек, які працуе, павінен прыстойна зарабляць. У нас дзейнічаюць дабрачынныя праекты: па падтрымцы ветэранаў, дапамозе дзецям… Беларускасць — у тым, што ты ў душы носіш. Беларускасць — тое, што дала табе твая сям’я, твае веды і адносіны да краіны як радзімы продкаў.

4. І ў паэзіі, і ў апавяданнях, і ў нарысах трэба быць лаканічным. А калі з’яўляюцца паэмы, якія чытач не можа адолець да канца, бо губляецца думка, — каму патрэбна такое пісьменства? Павінна быць і злабадзённасць. Зрэшты, таленавітае — заўсёды публіцыстычнае.

Запісала
Ірына ТУЛУПАВА

## Працяг літаратурнага даследавання

# Хто ты, Алёнка?

**У далёкім 2004-м годзе аўтар гэтых радкоў апублікаваў у вераснёўскім нумары часопіса "Маладосць" свой першы артыкул — "Паляванне на Алёнку", які меў падзагаловак "Роздум пра жаночыя вобразы ў творчасці Уладзіміра Караткевіча". Сёлетняе наведванне Кіева адкрыла творчасць пісьменніка з нечаканага ракурсу, што абумовіла імкненне завяршыць колішняе даследаванне.**



Уладзімір Караткевіч сярод удзельнікаў канцэрта, прысвечанага святу 8 Сакавіка (ў другім радзе, трэці справа), сярэдняя школа № 1, г. Орша, 1947 г.

Ключавым пытаннем "Паляванне…" стала праблема пошуку прататыпа Алёнкі — галоўнай гераіні шэрагу твораў Караткевіча. Дзяўчына менавіта пад такім імем дзейнічала ў першых раздзелах рамана "Леаніды не вернуцца да Зямлі" і аповесці "У снягах драмае вясна", падабенства з яе постаццю мелі безыменныя гераіні аповесці "Ідылія ў духу Вато" і асобных вершаў. У выніку параўнання тэкстаў гэтых твораў выявілася проста фантастычнае супадзенне жыццёвых акалічнасцей. Напрыклад, у рамане і першай з названых аповесцей галоўны герой ідзе з дзяўчынай у парк, дзе яны ўцякаюць ад кампаніі. Яны едуць з сябрамі на рыбалку, прычым у абодвух выпадках на чаўнах, на Дняпро…

Адначасова ў аповесці "У снягах драмае вясна", у "Ідыліі…", і ў вершы "Юнацтва маё", змешчаным у зборніку "Быў. Ёсць. Буду", гаворка ішла пра трагічную гісторыю асабістых узаемаадносін. Закаханую пару разлучалі знешнія абставіны, дакладней, паклёп, з-за якога галоўны герой пакідаў універсітэт, а гераіня сыходзіла да іншага хлопца. Яны сустракаліся толькі праз гады, калі яна разумела сваю памылку.

З 2004 года прайшло досыць часу. Між тым пакаленне У.Караткевіча зараз перайшло 80-гадовы рубеж. Менавіта з іх боку хацелася б пачуць згоду ці абвяржэнне прыведзеных тэзісаў. Таму думаецца, што шэсць гадоў — прыстойны тэрмін, каб працягнуць даследаванне.

Новыя пошукі прывялі мяне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БелДАМЛіМ), дзе я пазнаёміўся з ліставаннем Караткевіча і Юрыя Гальперына. Яны перапісваліся ў 1954 — 1963 гады. Між тым, тут і хавалася разгадка!

Для таго, каб разабрацца ў сітуацыі, працытуем некалькі выбраных фрагментаў з ліставання. Не сумняваюся, што сёй-той з чытачоў можа абвінаваціць аўтара гэтых радкоў у празмерным інтарэсе да асабістага жыцця пісьменніка. На гэта адкажу, што пасля смерці Гальперына яго дачка, Тацццяна Куляшова, сама перадала ў 2007 годзе эпісталярную спадчыну ў БелДАМЛіМ. Некаторыя лісты, якія, між іншым, змяшчалі фрагменты асабістага жыцця, былі апублікаваныя самім Гальперыным у 1991 годзе ў часопісе "Нёман". Нарэшце, нас цікавіць менавіта ўздзеянне жанчын на творчасць Караткевіча, прататыпы гераінь яго твораў, а без жыццёвых падрабязнасцей тут не абысціся.

У лісце ад 27 студзеня 1955 года У.Караткевіч пісаў: "Скоро там Стась и Валька (сябры пісьменніка па Оршы — Д.М.) поженятся? Повезло им. А я вот никак не могу отыскать такую девушку, чтоб решиться потерять свободу. Были три. Из них одна уехала, 2я — не любила меня (а может и да, но получилась какая-то ерунда), об этой истории Валька хорошо знает, мы с ним дружить начали из-за ссоры по этому поводу; 3я — э да ладно, чего толковать. Пока что жениться не на ком" (БелДАМЛіМ. Ф.56. Воп. 2. Спр. 11. Л. 6 адв.).

Больш падрабязная інфармацыя змешчана ў лісце ад 5 лютага 1957 года: "Я дважды любил, любил взаимно — адна уехала, другая — умерла, и я не знал обеих так, как желал. А в других случаях те, кто любили меня, были мне безразличны, а те, которых любил я, наверное, не любили меня. И была одна в Киеве. (…). Ну я знаю, для других она другая, а для меня та самая (выдзелена Караткевічам — Д.М.). Она была моим хорошим другом (…). Мать у нее строгая была, хотела для единственной дочери самого лучшего, будь я аспирантом — и разговору бы не было бы. (…). А тут еще помог друг и догадался пустить между нами черную кошку. И была обидчивость, и была космическая, невероятная, страшная глупость. Почему не остался, почему не убедил, почему? Ждал все, вот явлюсь и брошу книгу. (…). И вот сегодня получаю письмо от ее подруги и там "узаконили свои взаимоотношения С. М. (это она) и Миша" (Ф.56. Воп. 2. Спр. 13, л. 4, 4 адв). Заўважым, што апошні фрагмент быў змешчаны самім Ю.Гальперыным у "Нёмане".

Але нечакана ў лютым 1957 года Караткевіч напісаў свайму сябру: "Еще в университете был влюблен в чудеснейшего человека. Это была короткая история: кончилась тем, что нам насплетничали один на одного, было много неприятного, трагического. Ей было тем легче отвернуться от меня, что о моем отношении к ней она не знала, в лучшем случае могла догадываться. Недавно мы снова начали переписываться. Потом, при встрече я убедился, что она меня любит. А я, как дурень какой-то, не мог разобраться в своих чувствах к ней. То временами оживало на душе старое, потом вдруг приходило охлаждение, смешанное с чувством старой обиды. И это при самом теплом, самом дружеском отношении к ней как к человеку. К тому же примешивалось сознание, что я с низов лестницы, а она с верхов, что мне еще пробиваться и пробиваться к тому моменту, когда я смогу спокойно писать, не заниматься другой работой" (Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв.).

Не сумняваюся, што сёй-той з чытачоў можа абвінаваціць аўтара гэтых радкоў у празмерным інтарэсе да асабістага жыцця пісьменніка. На гэта адкажу, што пасля смерці Гальперына яго дачка, Тацццяна Куляшова, сама перадала ў 2007 годзе эпісталярную спадчыну ў БелДАМЛіМ. Некаторыя лісты, якія, між іншым, змяшчалі фрагменты асабістага жыцця, былі апублікаваныя самім Гальперыным у 1991 годзе ў часопісе "Нёман". Нарэшце, нас цікавіць менавіта ўздзеянне жанчын на творчасць Караткевіча, прататыпы яго твораў, а без жыццёвых падрабязнасцей тут не абысціся.

Фактычна працытаваныя моманты цалкам паўтараюць гісторыю, расказаную пісьменнікам у аповесці "У снягах драмае вясна". Пра каго ж ідзе гаворка ў лістах?

Для адказу на гэтае пытанне звернемся да двух працытаваных выказванняў Караткевіча, у якіх узгадваюцца гісторыі яго кахання. У першым выпадку ў абодвух лістах фігуруе дзяўчына, якая з'ехала ("Из них одна уехала", "одна уехала"). Не магу сцвярджаць дакладна, але, магчыма, пісьменнік меў на ўвазе дзяўчыну, якая стала прататыпам галоўнай гераіні Нонкі ў аповесці "Лісце каштанаў" — адным з самых аўтабіяграфічных у спадчыне Караткевіча. Для аб'ектыўнасці заўважу, што ў канцы твора з горада з'язджае сам галоўны герой. Але ў такім выпадку яны абавязкова сустрэліся б у Кіеве падчас навучання там пісьменніка.

У другім выпадку назіраюцца розныя сітуацыі. У першым лісце — абставіны цяжказразумелыя ("2я — не любила меня (а может и да, но получилась какая-то ерунда), об этой истории Валька хорошо знает, мы с ним дружить начали из-за ссоры по этому поводу". Пры гэтым істотную ролю адыгрывае ўзгадка пра аршанскага сябра пісьменніка Валянціна Краўца. Відавочна, што гэта гісторыя звязана з Оршай. У другім лісце сцвярджаецца, што дзяўчына памерла.

Асоба прататыпа стала вядомая досыць нечакана. У рамане "Леаніды не вернуцца да Зямлі" дзейнічала Алёнка, першае каханне галоўнага героя Андрэя Грынкевіча, якая трагічна загінула ў аўтамабільнай катастрофе. Пэўны час я лічыў такі сюжэтны паварот твора літаратурным прыёмам, які абгрунтоўваў, чаму Грынкевіч да сустрэчы з маскоўскай выкладчыцай Ірынай Горавай жыў "як у сне" і нікога не кахаў. Тым больш жахліва было ўбачыць радок у лісце Караткевіча да Янкі Брыля ад 29 лютага 1960 года: "Ведаеце, мне ніколі не шанцавала з вялікім каханнем. (…). Два разы прыйшло да мяне сапраўднае. І аднойчы яно загінула падчас аўтакатастрофы на шашы Мінск — Орша. А другі раз прыйшло зараз — і таксама не на дабро" (Ф. 59. Воп. 2. Спр. 168. Л. 32). Апошні радок датычыцца ўзаемаадносінам пісьменніка з Нінай Молевай і з'яўляецца тэмай асобнага даследавання. Пакінем у баку і розную інтэрпрэтацыю гісторый, вартых называцца сапраўдным каханнем. З часам ацэнка людзей і падзей можа змяняцца. Істотна іншае: дзяўчына, якую ўзаемна кахаў Караткевіч, сапраўды існавала. Прычым у рамане "Леаніды не вернуцца да Зямлі" гаворка вядзецца пра знаёмства з часоў дзяцінства, а потым сустрэчу ўжо ў маладыя гады. Вось таму ў першым лісце сітуацыя была незразумелая, бо датычылася гадоў дзяцінства. А другі быў напісаны ўжо пасля катастрофы.

Што датычыцца трэцяга выпадку, дык у першым лісце абставіны не ўдакладняюцца ("э да ладно, чего толковать"). У другім адназначна акрэсліваецца геаграфічнае месца і сітуацыя "была одна в Киеве". Словазлучэнне надзіва істотнае. Гаворка вядзецца менавіта пра аднаго чалавека. Зразумела, што ў біяграфіі галоўнай гераіні маглі быць аб'яднаныя гісторыі розных людзей, але пачуццё было толькі да кагосьці аднаго.

Такім чынам, хто яна? У лісце ад 5 лютага 1957 года адназначна ўказваюцца яе ініцыялы: "С.М.". Для расшыфроўкі будзе вельмі дарэчы прыгадаць зборнік паэзіі "Матчына душа", старонкі якога літаральна прасякнуты каханнем. Па волі паэта гэтыя творы сабраліся на апошніх старонках кнігі: "Але затое так яскрава бачу:// Пакой, Чайкоўскі хмуры на сцяне,// Раяль пра нешта дарагое плача// І прывіды каштанаў у акне. (…) Ёсць дробязі, што поўныя значэння:// Каханне першае растопіць лёд// І нават палавік у цёмных сенях// Век памятны, як казкі першых год.// Мо толькі для таго яно прыходзіць,// Каб мы запамяталі на вякі,// Як пахнуць рыбаю начныя воды,// Як у траве мігаюць светлякі; (…). ("Зімняя элегія"). Чым не сувязь працытаваных музычна-паэтычных фрагментаў з аповесцю, з іншымі празаічнымі фрагментамі?

У вершы "Размова з Кіева-Пячорскім сланом" лірычны герой радасна паведамляе слану, сімвалу кіеўскага жыцця, што "мне яна напісала ліст// У сэрцы зноўку парасткі даўніх надзей". Зборнік "Матчына душа" быў выдадзены ў 1958 годзе. Відавочна, што ліст быў атрыманы за год ці два да таго. Чым не сувязь з падзеямі, апісанымі ў лісце за люты 1957 года? Можа, гэта і стала эмацыйным штуршком для напісання апошніх, аптымістычных раздзелаў аповесці "У снягах драмае вясна"? Твор быў завершаны якраз у той час, у ноч з 27 на 28 мая 1957 года.

Нарэшце вельмі цікавым падаецца верш "Матчына душа", які даў назву ўсёй кнізе. Відаць, ён пачаў пісацца ў ліпені 1954 года, бо менавіта гэтым часам датуецца аўтограф на рускай мове "Ты теперь у теплого моря" с прысвячэннем загадкавай "С.М.-к.", які знаходзіцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі. Беларускамоўны аўтограф пад назвай "Прадмова да песні. Прысвячаю С.М." (той жа С.М.!) — у БелДАМЛіМ (датуецца прыкладна 1955 годам).

Як нам ацаніць ролю гэтай дзяўчыны ў жыцці Караткевіча? Сярод мастацтвазнаўцаў ёсць традыцыя вылучаць у жыцці некаторых творцаў перыяды, звязаныя з іх асабістым жыццём. Напрыклад, менавіта так многія даследчыкі ўспрымаюць творчасць Пабла Пікасо. Калі перанесці гэты прыклад на рэаліі жыцця пісьменніка, дык відавочна, што час навучання ў Кіеве, праца настаўнікам ва Украіне і ў Оршы звязаны менавіта з С.М.

Ці не хаваецца пад абрэвіятурай "С.М." Муза Сняжко, аднакурсніца Караткевіча па Кіеўскім універсітэце? Цяпер можна ўпэўнена сказаць, што не. Нават калі пакінуць у баку ўскосныя аргументы (неадпаведнасць першаму скарачэнню — "С.М.-к.", ёсць традыцыя спярша скарачаць імя, а не прозвішча: Муза Сняжко, а не Сняжко Муза), застаецца галоўны аргумент: пасля заканчэння ўніверсітэта Муза Яўгенаўна некаторы час працавала ва Украіне, а потым перабралася разам з мужам Эрыкам Іванавічам у Архангельскую вобласць. З ім яна шчасліва жыве і дагэтуль. Нагадаю, што абранніка С.М. клікалі Міхаіл.

На жаль, пакуль няма пэўнай інфармацыі, якая б дазволіла дакладна ідэнтыфікаваць асобу дзяўчыны, якую кахаў Караткевіч. Найбольш просты шлях — знайсці спісы выпускнікоў 1954 года, якія закончылі філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта, і суаднесці іх з двума прыведзенымі абрэвіятурамі. Магчыма, загадкавую дзяўчыну клікалі Святлана — менавіта такі чалавек узгадваецца ў адным з лістоў Караткевіча да Гальперына (Ф. 56. Воп. 2. Спр. 11. Л. 13).

Гісторыя ўзаемаадносін Караткевіча і С.М. закончылася ў 1957 годзе. У цытаваным вышэй лісце, датаваным лютым месяцам, Уладзімір Сямёнавіч пісаў Юрыю Гальперыну: "Какое я имею моральное право сказать ей "да", если сам ещё не знаю, "да" или "нет" и, скорее всего, "нет"? Скверно, брат, и гадко на душе, очень гадко, тем более, что чувствую, могу испортить ей жизнь" (Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв.). "И всё же, я почему-то не верю", — напісаў пісьменнік 23 лютага (Ф.56. Воп. 2. Спр. 13, л. 7). Хутчэй за ўсё, неўзабаве пасля гэтага жыццёвыя шляхі Уладзіміра і С.М. канчаткова разышліся.

Як нам ацаніць ролю гэтай дзяўчыны ў жыцці Караткевіча? Сярод мастацтвазнаўцаў ёсць традыцыя вылучаць у жыцці некаторых творцаў перыяды, звязаныя з іх асабістым жыццём. Напрыклад, менавіта так многія даследчыкі ўспрымаюць творчасць Пабла Пікасо. Калі перанесці гэты прыклад на рэаліі жыцця пісьменніка, дык відавочна, што час навучання ў Кіеве, праца настаўнікам ва Украіне і ў Оршы звязаны менавіта з С.М. Менавіта таму, што пакуль нам невядомае сапраўднае імя і прозвішча гэтай дзяўчыны, перыяд у творчасці Караткевіча можа быць названы "алёнкаўскім" (па імені галоўнай гераіні яго твораў).

Як жа ацэньваў ролю С.М. у сваім лёсе сам пісьменнік? 23 лютага 1957 года ён пісаў Ю.Гальперыну: "Я всё же благословляю эту вздорную и, возможно, чужую мне по взглядам девочку. Что в нас было двоих такое, что редко светит друг другу в мужчине и женщине. Ну ты сам понимаешь, мог бы я на Марсе, она в XIII веке. Нет, встретились; оказывается, встретиться это еще не всё" (Ф.56. Воп. 2. Спр. 13, л. 7).

Гісторыя ўзаемаадносінаў Уладзіміра Караткевіча і С.М. не можа быць раскрытая адной публікацыяй. Магчыма, уважлівы чытач знойдзе ў прыведзеных разважаннях пэўныя "нестыкоўкі". Таму патрабуюцца значныя намаганні даследчыкаў спадчыны пісьменніка.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Рызыкоўнае набліжэнне да класікі

“Нікому не дадзена спазнаць больш чым адну бясконца малую частку палаца. Камусьці вядомыя толькі скляпенні. Мы можам успрыняць нейкія твары, нейкія галасы, нейкія словы, але мы ўспрымаем толькі невялічкую частку. Самае малое і адначасна самае дарагое”.

Х. Л. Борхес, “Палац”.



Запачаткавала нумар паэтычная нізка Васіля Макарэвіча. Яна зацікавіць найперш аматараў аднастайнаняспешнай, роздумнай лірыкі. Але нават і тыя чытачы, якім не даспадобы даўжэзныя “вершы-пугі”, наўрад ці застануцца абыякавымі да арыгінальных, бліскучых рыфмаў, якія з’яўляюцца адной з характэрных прыкмет творчасці Васіля Макарэвіча. Трэба адзначыць і той факт, што ў дадзенай падборцы аўтар крыху адыходзіць ад сваёй улюбёнай вострапубліцыстычнай тэматыкі, а звяртаецца найперш да тэмы духоўнасці.

Друкуецца працяг “сямейнай хронікі ў духу барока” Уладзіміра Гніламёдава пад назвай “Валошкі на мяжы”. Аўтар працягвае расповед пра жыццёвыя перыпетыі галоўных герояў, якім выпала жыць, радавацца, кахаць і ненавідзець у лёсавызначальныя для роднай краіны часы.

Вершы Алены Багамолавай уражваюць тонкім лірызмам у спалучэнні з выразнай унутранай мелодыкай і гукапісам. Наогул, дзіўна, што такая адметная паэтка ва гэтага часу не атрымала належнай ацэнкі з боку літаратуразнаўцаў і крытыкаў. Напэўна, справа ў прыроднай сціпласці гэтага чалавека: прафесійна займаючыся паэзіяй ужо шмат гадоў, свой першы зборнік Алена Багамолава выдала толькі пазалетась. Зрэшты, даўно вядома, што не колькасцю зборнікаў вымяраецца паўнавартаснасць паэта, а іх мастацкай вагой.

“Жаночую лірыку” прадстаўляе ў нумары і наступная паэтычная падборка. Смаргонская паэтка Ала Клемянок у сваіх вершах — гранічна шчырая, бескампрамісная, у тым ліку і да самой сябе. Добра перададзены стан душы творцы ў наступным чатырохрадкоўі:

Усё мае каханне —
толькі мары аб каханні,
усё маё жыццё адно
бясконцае чаканне,
усё маё жыццё —
у роднай хаце адзінота:
ад першага натхнення
да першага палёту…

Дзённікавыя запісы Адама Глобуса пад назвай “Шкляны малаток” пераносяць чытача ў гнятлівую шпітальную атмасферу, у цёмнае царства, сярод якога аўтару свецяць праменьчыкі жывапісу і паэзіі, найперш вершы японскіх класікаў, томікі якіх суправаджаюць пісьменніка ў горы і радасці. Перад намі — яскравы прыклад рэфлексійнай прозы.

Пісьменніца Лідзія Арабей прапануе ўвазе чытача свае чарговыя абразкі пад агульнай назвай “Пошукі ісціны”. Пазнавальныя па форме і па змесце, яны і на гэты раз не расчароўваюць, а наадварот — уражваюць глыбінёй жыццёвых развагаў, афарыстычнасцю высноў.

Перакладная літаратура прадстаўлена ў нумары творчасцю пісьменнікаў Турцыі. Вершы Джалалэддзіна Румі і Архана Велі пададзены ў перакладзе Міколы Мятліцкага, а афарызмы вядомага ў ісламскім свеце грамадскага дзеяча, інтэлектуала Фетхулаха Гюлена пераклаў Рагнед Малахоўскі.

Таццяна Мацюхіна ў артыкуле “Паэтыка колеру і гуку ў лірыцы Уладзіміра Дубоўкі” грунтоўна аналізуе моўны склад творчасці паэта, адметнасць і дасканаласць ужываных ім моўных сродкаў.

Вісарыён Крысько — сын знакамітага беларускага дзіцячага пісьменніка Васіля Віткі — прапануе свае абразкі-ўспаміны пра бацьку, яго родных.

Пад рубрыкай “Спадчына” — артыкул Сяргея Чыгрына “Беларускі рух у Варшаве (1900 — 1939 гг.) і Гальяш Леўчык”. Крытыка і літаратуразнаўства прадстаўлены ў нумары артыкуламі Таццяны Аўдонінай пра драму Аляксея Дударава “Адцуранне” і Казіміра Камейшы — пра новы зборнік Віктара Гардзея “Трыадзінства”. Друкуецца таксама артыкул Васіля Старычонка пад назвай “Вонкавападабенчыя метафары ў творах беларускай літаратуры”. Краязнаўча-этнаграфічнае даследаванне Людмілы Дучыц і Ірыны Клімковіч прысвечана беларускім узгоркам, што знайшлі сваё адлюстраванне ў айчынным фальклоры. І ў фінале, як заўсёды, — кастрычніцкі “Каляндар памятных дат”.



З цікавасцю чытаецца аповесць Алеся Кажадуба “Ева”, якая адкрывае нумар. Твор распавядае пра студэнтаў-філфакаўцаў, пра першае каханне, што здольна накласці свой непаўторны адбітак на ўсё далейшае жыццё. Канкрэтны час дзеяння твора не называецца, але ў аповедзе з лёгкасцю ўгадваюцца застойна-брэжнеўскія гады, з універсітэцкімі камсоргамі, выкладчыкамі-франтавікамі, студэнцкімі выездамі “на бульбу”. Але не гэта асноўная ідэя твора. Алесь Кажадуб па-майстэрску апісвае каханне маладога нявопытнага хлопца-студэнта да аднакурсніцы, распавядае пра першую здраду і першае расчараванне. Увогуле, сюжэт гэты — на ўсе часы, упэўнены, што аповесць з захапленнем прачытаюць не толькі тыя, хто жыў і сталеў у той гістарычны перыяд, але і цяперашнія надзвычай студэнты, бо тэма маладосці і звязаных з ёю страсцей — вечная. Хочацца адзначыць іранічнасць і добрую-такі самакрытычнасць у спалучэнні з самапатрабавальнасцю, якія ўласцівы творчаму стылю Алеся Кажадуба. Так, галоўны герой, апісваючы сваё дзяцінства, распавядае пра тое, што падчас спробы стварэння гістарычнага рамана “Анты”, пастаўлены ў тупік няведаннем рэалій старажытнай Візантыі, пакідае твор недапісаным: “Я понял, что должен увидеть далекие города. Должен пройти пыльными дорогами, обсаженными смоковницами. Должен услышать разноголосий говор восточных базаров. Должен омыться в чистых и грязных водах больших рек и малых. Должен обнять женщину, которую полюблю, и может быть, она не станется единственной”.

“Дзённік пані” Людмілы Рублеўскай пакідае ўражанне невялічкай аповесці ў навелах, аб’яднаных агульнай гераіняй, якую аўтарка наўмысна пасяліла ў загадкавы сярэднявечны замак, гаспадыня якога — яна, таямнічая і загадкавая Пані. Шкада толькі, што пісьменніца не парадавала чытача ў фінале якой-небудзь “нечаканкай”, чымсьці чароўным і парадаксальным, якое напрошваецца ўвесь час, але, на жаль, не адбываецца — дынаміка твора так і застаецца ўяўнафантасмагарычнай, як і сама Пані з яе таямнічым Сусветам.

Друкуюцца ў нумары таксама апавяданні Васіля Шабалтаса, у аснове якіх — сюжэты, узятыя аўтарам наўпрост з жыцця.

Арыгінальная руская паэзія прадстаўлена ў нумары неблагой падборкай Мікалая Наменсікава і крышку слабейшай — Івана Пехерава, перакладная — адметнай вершаванай нізкай Казіміра Камейшы і вершамі класіка айчыннай літаратуры Уладзіміра Жылкі. Цешыць, што агульны ўзровень паэтычных публікацый у “Нёмане” няўхільна расце, прынамсі, апошнія нумары гэта пацвярджаюць, што дае спадзяванне на будучае.

Рубрыка “Сябрына”, у якой прэзентуецца літаратура краін СНД, знаёміць чытача з творчасцю класіка азербайджанскай літаратуры, пісьменніка няпростага і трагічнага лёсу, Гусейна Джавіда. Друкуецца біяграфія, а таксама фрагменты яго драматычных твораў і вершы. А папераджае ўсёй публікацыі — гутарка галоўнага рэдактара “Нёмана” Алеся Бадака з паслом Азербайджана ў Беларусі.

Раздзел «“Всемирная литература” в “Нёмане”» прадстаўляе на гэты раз багатую і старажытную літаратуру Індыі. Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з урыўкам са знакамітай “Бхагавадгіты” ў перакладзе Глеба Артханава, з аповесцю “Перад тым як сысці” (аўтар — Харындра Давэ), а таксама з творчасцю сучасных індыйскіх паэтаў. Нельга не адзначыць, што ўсе творы перадаюць агульны дух Індыі, такой далёкай і загадкавай краіны. Будзем спадзявацца, што дзякуючы гэтым публікацыям яна зрабілася для нас хоць крышачку бліжэйшай.

Друкуецца працяг грунтоўнага біяграфічнага даследавання, прысвечанага Яўхіму Карскаму, якое было распачата яшчэ ў мінулым нумары.

Мастацкія ўспаміны дзіцячай пісьменніцы Галіны Масіяш прысвечаны перыяду сумеснага жыцця з мужам, вядомым рускім пісьменнікам-гісторыкам Сяргеем Масіяшам. Чытайце гэты шчымлівы, светлы матэрыял пад рубрыкай “Дакументы, нататкі, успаміны”.

Жыццёвы і творчы шлях паэтэсы Надзеі Стаховіч — у цэнтры артыкула Міхаіла Кузьміча. Таццяна Куварына прапануе ўвазе чытача нарыс пра надзвычай цікавага чалавека — эколага з Сочы беларуса Уладзіміра Астапука, які з’яўляецца лідарам тамтэйшага беларускага таварыства і ініцыятарам стварэння беларускага музея.

Напрыканцы нумара — агляд кніжных навінак айчынных выдавецтваў.



Дэбютная нізка вершаў маладой паэткі Алены Пятровай пад назвай “Пастка цікаўных поглядаў” пакідае супярэчлівыя, але тым не менш пазітыўныя ўражанні. Нягледзячы на тое, што ўдалыя радкі і вобразы часта мяжуюць у ейных вершах з відавочна бездапаможнымі, агульная энергетыка і настраёвасць выратоўваюць падборку ў чытацкіх вачах. Ужо за адзін радок “Студзень зоркаю зыркаю згасне ўначы” аўтарцы можна дараваць шмат якія “ляпы”.

Наступная маладосцеўская дэбютантка — Марына Блажко — выступае ў жанры кароткага апавядання. Як для пачатку, дык і няблага атрымалася. Праўда, і назва, і нават тэматыка першага апавядання “Вечар” адразу прымушае ўзгадаць вядомую аднайменную п’есу Аляксея Дударава. Што гэта? Перайманне? Відавочна, што не, бо творы абсалютна розныя. Але на далейшае хацелася б перасцерагчы маладую пісьменніцу ад такога рызыкоўна-небяспечнага набліжэння да класікі. Другое апавяданне падалося менш запамінальным, але адчуваецца, што аўтарка добра ведае той прадмет, пра які піша.

Вершы маладога творцы Паўла Баяркі сведчаць пра немалы паэтычны патэнцыял аўтара. Навідавоку добрае валоданне словам, уменне ствараць яркі, выразны вобраз:

Цёмна-жоўтыя клёны
Накаляюць праклёны
Сакавітым, калючым агнём.
Брукаваныя сцежкі,
Пад даждом перабежкі…
Восень стала маім насланнём.

Пад рубрыкай “Апавяданне-2010” друкуюцца творы адразу некалькіх беларускіх празаікаў. Анатоль Бутэвіч прапануе ўвазе чытачоў тры творы малога жанру, першыя два з іх не надта ўражваюць, а вось апошні — “Злачыннае каханне” — мае ўсе шанцы заняць адзін з вышэйшых радкоў у рэйтынгу нумара. Гісторыя кахання паланянай беларускай дзяўчыны і нямецкага юнака падчас Другой сусветнай вайны — не вельмі каб арыгінальная, але пададзеная з густам, аповед мае закальцаваную структуру, і асноўны тэкст падаецца ад першай асобы. Друкуецца таксама апавяданні Алеся Козела і Лаўрэна Юргі, з якіх хацелася б адзначыць твор апошняга — стылізацыю пад старабеларускую мову, — які апавядае пра міфічнага габрэя Арона бен-Егуду, які з’явіўся ў Менску напрыканцы XIV стагоддзя, пра яго тутэйшае жыццё і стасункі з мясцовымі жыхарамі. У цэлым падборка апавяданняў дае агульнае ўражанне пра сучаснае беларускае апавяданне, але хацелася б усё-ткі, каб часопіс не здраджваў сваёй звычцы падаваць біяграфічныя звесткі пра аўтараў. Бо калі Анатоль Бутэвіч — асоба ў культурных і грамадскіх колах даволі вядомая, то Алеся Козела і Лаўрэна Юргу чытач можа і не ведаць. Добра, што апавяданню апошняга папярэднічае прадмова Юрася Пацюпы, але ж там нічога, акром таго, што пісьменнік Лявон Юрга ў 90-я гады мінулага стагоддзя ўжо друкаваўся ў “Маладосці”, не сказана. А шкада, бо “краіна павінна ведаць сваіх герояў”.

Вершы Станіслава Валодзькі і Фелікса Баторына пацвярджаюць меркаванне, што маладым заўжды ёсць чаму павучыцца ў людзей сталага пакалення. Абодва паэты — прафесіяналы, тонкія лірыкі, прычым паэзія Станіслава Валодзькі рытмічна багатая і песенная, затое Фелікс Баторын у сваіх вершах больш філасофска-заглыблены і элегічны.

Цыкл сатырычна-выкрывальніцкіх вершаваных мініяцюр прапануе чытачу Іван Карэнда.

Вайна вачыма дзіцяці — асноўная тэма аповесці Анатоля Майко “Помста (Галубы памятаюць у палёце)”, якая друкуецца ў гэтым нумары “Маладосці” ў перакладзе з рускай мовы.

Публіцыстычны артыкул Раісы Баравіковай прысвечаны асобе дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Паўла Барадзіна. Шэраг публіцыстычных, мастацтвазнаўчых і літаратурна-крытычных артыкулаў — напрыканцы нумара, а завяршае яго традыцыйны “Краязнаўчы даведнік” Дзмітрыя Крывашэя і Адама Мальдзіса.

Янка ЛАЙКОЎ

# Вершы ўдзельнікаў семінара маладых літаратараў г. Мінска



Ірына
ЧАРНЯЎСКАЯ

## Дзве восені

У маёй восені
Надвор'е на шалях:
То дождж, то снег.
У тваёй восені —
Мае духі, і мой шалік,
І мой смех.

У маёй восені
Збітыя рытмы
Жыццё вершаць.
У тваёй восені
Усе мае рыфмы
І мае вершы.

У маёй восені
Мокрыя рукі,
Замерзлыя пальцы.
У тваёй восені
Мае рухі
І мае танцы.

У маёй восені
Цяжар адносін,
Лягчэйшы ўдвая,
Бо ў маёй восені —
Ужо восень,
А ў тваёй — яшчэ я.



Анастасія
ХМЕЛЬ

* * *

Калі нараджаецца твор
У промнях
разбэшчанай думкі,
Пачуццяў шумлівы віхор
Становіцца штылем
нячуткім.

Пытанне ураз паўстае:
"Ці ты не паблытаў
мішэні?"
Што стане з паперкі тае,
Што тлела
ў пацёртай кішэні?

Ці яркім агнём палыхне,
Згарыць пад людскімі
вачыма?
Ці ў іншых паперах згніе,
Не ўбачыўшы свету,
магчыма?..

Няхай лепш ідзе
вандравалць
Між слоў-пустазелля
ці кветак.
А мне застаецца чакаць,
Як маці, вясцінкі
ад дзетак.



Аксана
СІВЕЦ

* * *

Не, не цемра!
Іскры зор.
Шлях да ветру —
Мой прастор.
Ноч і восень,
Сціплы дождж.
Не прыходзіш…
Ціха. Ноч.
Разумею… Не усё.
Крокі дождждык
Перасёк.

Успаміны,
Думкі, смута.
Жнівеньская цаплыня –
Толькі для душы атрута,
Ёй нішто ўжо не раўня.
– Да сустрэчы…
– Да сустрэчы…
Наш зімовы зарапад
Зноў ля рэчкі...
А пустэча,
Як звычайна — неўпапад...



Яна
САРОКА

* * *

Я помню твае вочы,
твае вочы…

Іх позірк мяккі
ў шэрані начэй.
І не знайсці нідзе
такіх вачэй:
У іх сабралася
таемнасць ночы.

Я помню твае вусны,
твае вусны…
Іх шэпат ціхі
ў праменях зары.
І пацалункі. Што ні гавары,
Але й цяпер яны —
мая спакуса.

Тваё каханне помню,
чуеш, помню…

Не збегчы мне.
Не проста успамін
Сярод усіх
праменіцца — адзін.
Я ім пасля сваё
жыццё напоўню.

Я памятаю ўсё,
таму што быў
Ты на маім шляху
адзіным, першым.
Ніхто пасля не будзе,
чуеш, лепшым.
…А ты мяне,
я ведаю, забыў...



Таццяна
ПРЫШЧЭПАВА

* * *

Я цябе не чакала.
Навошта прыйшоў
У мой дом
незапрошаным госцем
Пасля белага снегу
і шэрых дажджоў,
Што малебны пяюць
на пагосце,

Пасля песень і казак,
якія даўно
Адспявала з калыскаю маці?

Ты смяешся з мяне —
увайшоў праз акно.
Можа, я ўжо ніхто
ў гэтай хаце?

Неўзабаве гарачае
лета прайшло,
Лісце кружыцца
ў восеньскім вальсе...
А ты помніш, як калісь
ты госцем прыйшоў,
Я сказала табе:
"Заставайся..."



Таццяна
ВЫСКВАРКА

* * *

Патопіць ноч
маю самоту,
Сама — счарнее
на глыбінях.

І час не зведае палёту,
Калі не ноч,
а я ў княгінях.
Мне на правах
нямога болю
Ноч аддала
сваё адхланне.
…Ты спі.
Я ночы не дазволю
Усплыць з глыбіняў
да світання.
Мо здолееш у сне забыцца,
Што мы не разам,
што ў расстанні?
…Засні, каб ноч
магла скарыцца
Прыняць глыбіні
вандраванняў.

* * *

...І з кожным днём,
Як сонца ўстане,
Замова рвецца напрасткі:
"Мяне няма —
Я ёсць чаканне
Твайго цяпла, тваёй рукі…"
З нявер'я пачарнее неба,
Пакліча іншых вякі,
Каб напрарочыць мне,
як трэба
Дасюль чакаць тваёй рукі…
І Бог адорыць спадзяваннем,
Кранецца подыхам шчакі…
…Мяне няма —
Я ёсць чаканне
Твайго цяпла, тваёй рукі…



Вераніка
МАРУК

* * *

Забываю на час
і сурокі,
Бо ў душы
зноў убачу-пачую:
Так высока сягоння аблокі,
Як у тую пару залатую,

Што запомніць
гарэза-дзяўчынка
З непрыкметнага
ў свеце квартала,
Як сама, анібы аблачынка,
Утрапёна
над светам лятала.
І сягоння у снах менестрэлі
Ёй спяваюць пра час
той вясёлы,
Як ляталі пад неба арэлі,
Прыляталі з аблокаў анёлы.

* * *

Ціха крадзецца
мой цень каля дрэва...
Доўга блукала
я ў свеце далёкім,
Там, дзе хадзіць
не баялася Дзева,
Там, дзе анёлаў шукалі аблокі.

Моўчкі крадуся
паўз леташні верас,
Пераступаючы праўду і веру,
Нібы шукаючы сны кавалеру...
Божа, ды ў іх жа
і дзеці не вераць,

Быццам не вераць
у вольныя крылы...
Зноў расплятаю
дзявочыя косы.
Доўга стаю
перад небам пахілым,
Перабіраючы ў памяці лёсы.



Вераніка
МАНДЗІК

* * *

Я — маленькая планета,
Ды жыве ўва мне Сусвет.
Пада мною — попел з ветрам,
Нада мной — шляхі камет.

З трапяткой сваёй арбіты
Мне сысці не страшна. Не.
Я для ўсіх стыхій адкрыта,
Ды не ўсе адкрыты мне.

Адзіноты прысмак горкі,
Нада мной — яе крыло.
Я сваёй далёкай зоркі
Адлюстроўваю святло.

І, спалоненая воляй,
Мару толькі аб адным:
Каб аднойчы наваколле
Азарыць святлом сваім.

* * *

Ці то людзі, ці то д'яблы,
Ці то цемра, ці святло?
Проста — нервы ўжо аслаблі,
Проста — шчасце адцвіло.

Не спавітая пяшчотай,
Не народжаная ў снах,
Я кружуся ў калаўроце
Марных дзён, нібыта птах.

Спапялёная трывогай,
Занябытая ў журбе,
Я шукаю прагна Бога
Як не ў людзях, то ў сабе.



Анастасія
ПАСТЭРНАК

* * *

Адцвіло. Адышло. Адбалела.
Восень кідае долу лісты.
Парасоны.
Кастрычнік. Масты.
Адцвіло. Адышло. Адбалела.
Хтосьці разам
са мною. Не Ты.
Наша лета, на жаль,
спапялела.
Адцвіло. Адышло. Адбалела.
Восень кідае долу лісты…

* * *

Ліфт не працуе.
На шостым паверсе
Згасла, як знічка,
святое каханне,
Згасла у моры
пустога чакання…
Ліфт не працуе.
На шостым паверсе
Дыхаць няма больш ні сіл,
ні жадання…
Гэта так проста —
усё перакрэсліць…
Ліфт не працуе.
На шостым паверсе
Згасла, як знічка,
святое каханне…



Яна
ЯВІЧ

## АкраVersion

* * *

Забяры мяне
ў горад спаткання!
Акварэллю малюю на вокнах.
Верагодна, я зноў пазбягаю…
Еднасць думак,
пачуццяў і вуснаў…
Я ўяўляю цябе…

* * *

Дзіўна: я не кахаю,
А забыць не магу
Лагодныя вочы твае…
Я проста ўглядваюся;
Гляджу праз аконнае шкло:
Ліхтары на адкрытым
паветры —
Як нябесныя светлячкі…
Думак — процьма…

* * *

Надакучыла паўсядзённасць?
Адзінае выйсце —
змяніць абстаноўку!
Сугучна жаданню сэрца —
Любіць ці кахаць? —
Асабісты выбар…
Надарыцца хвілінка —
Налі сабе гарбаты:
Ёсць размова.



Наталія
ПЯТРОЎСКАЯ

* * *

Калі я здрадзіла
сумленню,
Яно пакінула мяне.
Сышло паціху. Як у сне,
Мне тое мроіцца імгненне.
Вось, шчыра кажучы,
пытанне!
Не разумею я ніяк:
Калі я здрадзіла і як?
Няма адказу, меркавання,
Хто пашукае ратаванне
Цяпер маёй душы? А я…
Я вінаватая. Зямля
Пасля адорыць
шкадаваннем…

* * *

Мой лёс — салодкае віно,
Булькоча, пеніцца яно,
Бы ўлетку срэбная крыніца.
Ды толькі лёсам не напіцца…
Спатоліць смагу, ды ў журбе
Зноў піць захочацца табе…
Мой лёс — індыйскае кіно:
Музыкі, скокі, спеў-званок,
І рампы свеціцца агні...
Ды толькі ёсць
і смутку дні.
І Балівуд будзённы зноў
Мяне вяртае з мараў-сноў.
Прабач мне, лёс, мае грахі,
Не будзь да споведзі глухі!
Дай сілы мне, каб і людзей
Я ўсмешкай цешыла часцей.
Тады натхненне да жыцця
Я зберагу да небыцця!



Яўген
ПАЦ

## Тры словы

Ёсць два словы,
займеннікі два —
я і ты…
Мікола Шабовіч

Мне вуснаў тваіх мала,
І не трэба мне
лішніх слоў:
Толькі каб ты прашаптала
Два займеннікі і дзеяслоў.

Хочаш здавацца моднай? —
Не трэба мне
іншых моў.
Ты прашапчы на роднай
Два займеннікі
і дзеяслоў.

Ты церабіла каралі,
Вусны раскрыліся зноў…
Як на прыгожа гучалі
Два займеннікі
і дзеяслоў!

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

26 лістапада 2010 г.

Выпуск 24

# Вяртанне гісторыі роду Радзівілаў

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшла ўрачыстая прэзентацыя выдання "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў", што пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі".**





На ўрачыстай прэзентацыі гэтага ўнікальнага выдання прысутнічалі намеснік начальніка ўпраўлення сацыяльна-культурнай сферы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь Наталля Голубева, намеснік старшыні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Віктар Шчэцька, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па рэгіянальнай палітыцы і мясцовым самакіраванні Рыгор Чуйко, старшыня Нясвіжскага райвыканкама Іван Крупка, а таксама прадстаўнікі дыпламатычных місій Расійскай Федэрацыі, Польшчы, Грузіі і Літвы ў Беларусі.

Першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч у сваім выступленні падкрэсліла: "Альбом быў упершыню прадэманстраваны ў Маскве падчас XXIII Маскоўскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу. Гэтым выданнем мы выказалі пашану да нашай гістарычнай спадчыны. Менавіта яна — аснова сцвярджэння беларускай дзяржаўнасці, духоўнасці, патрыятызму. Мяркую, што серыя "Энцыклапедыя рарытэтаў" будзе нашым унёскам у сусветнае кнігавыданне, сусветную культуру. Мы шчаслівыя, бо можам сёння ганарыцца тым, што беларуская дзяржава падтрымлівае такія праекты, якія з'яўляюцца гонарам нашай краіны".

Намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі падкрэсліў, што фаліянт увойдзе ў гісторыю беларускага кнігавыдання, зойме пачэснае месца не толькі на паліцах бібліятэк і музеяў, але і ў асабістых кнігазборах беларусаў. Роля даследаванняў спадчыны Радзівілаў узрастае і сёння мае практычны характар.

У наступным годзе будзе адкрыты Палацавы комплекс Радзівілаў у Нясвіжы, ствараецца музейная экспазіцыя, і кожнае даследаванне дазваляе больш поўна прадставіць род Радзівілаў, яго ролю ў гісторыі Беларусі.

Кандыдат мастацтвазнаўства, выкладчык БДУ і аўтар гістарычнага каментарыя — даследавання таямніц фамільных партрэтаў князёў Радзівілаў Вольга Бажэнава зазначыла: "Сто шэсцьдзесят пяць прадстаўнікоў старажытнага роду атрымалі свае біяграфіі, цяпер мы ведаем, што яны не толькі слаўныя сенатары, дзяржаўныя дзеячы, палкаводцы, але і паэты, філосафы, кампазітары. Можам смела казаць, што гісторыя роду Радзівілаў — гісторыя Беларусі. Бо падчас даследавання альбома стаў вядомы "радзівілаўскі" лад жыцця, які прадугледжвае асаблівыя адносіны да гісторыі, каштоўнасцей сям'і. Ужо праглядаючы альбом, чытаючы біяграфіі, я разумела, што гэты стыль на працягу многіх стагоддзяў "трымаў гісторыю" нашай краіны".

На прэзентацыі альбома партрэтаў прысутнічалі і нашчадкі старажытнага роду — Мацей і Мікалай Канстанцін ІІ Радзівілы. Падчас выступлення пан Мацей заўважыў: "Першы раз я пабываў на Беларусі ў 1988 годзе, тады нейкая жанчына выганяла мяне з замка, цяпер жа Радзівілы тут жаданыя госці. За гэта мы ўсе вельмі ўдзячны. Прыезд у Нясвіж для нас — як пілігрымка. Апошнія два гады прыязджаем сюды так часта, што смела можам называць сябе тутэйшымі". Князь Мацей выказаў словы падзякі беларускай дзяржаве, выдавецтву "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", Вользе Бажэнавай, а таксама ўсім людзям, якія прымалі ўдзел у працы над альбомам.

Дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі" Таццяна Бялова падкрэсліла, што рэалізацыя праекта "Энцыклапедыя рарытэтаў" будзе працягвацца. Таццяна Уладзіміраўна перадала асобнік выдання дырэктару Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раману Матульскаму. Нашчадкі старажытнага роду таксама атрымалі асобнік у падарунак.

Марына ВЕСЯЛУХА

Гэта — узнаўленне альбома фамільных радзівілаўскіх партрэтаў — першае выданне ў серыі "Энцыклапедыя рарытэтаў", уключае 165 чорна-белых гравюр і малюнкаў з гістарычнымі каментарыямі, якія знаёмяць з біяграфіямі амаль сямнаццаці пакаленняў роду Радзівілаў XIII — XVIII стагоддзяў. Над выданнем працавалі вялікі калектыў прафесіяналаў, прадастаўлялі матэрыялы і дапамагалі ў працы замежныя партнёры — сям'я князёў Радзівілаў, Каралеўскі замак Варшавы, Нацыянальны музей Кракава, Нацыянальны мастацкі музей Літвы. Арыгінал альбома, напісаны на лацінскай мове, захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі.

На здымках: подпісы на памяць ад Мацея і Мікалая Канстанціна ІІ Радзівілаў; першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч расказвае аб падтрымцы значных кніжных праектаў дзяржавай.

Фота Юліі Воўчак

## Прэзентацыя

# Вечар у беларускай хатцы

**Даследчыкам мінуўшчыны добра вядомы феномен "беларускіх хатак" — клубаў інтэлігенцыі, якія існавалі на нашай зямлі ў гады Першай сусветнай вайны і Кастрычніцкай рэвалюцыі. Нечакана высветлілася, што такая форма культурнага жыцця запатрабаваная і сёння. У магазіне "Кніжны салон" прайшла прэзентацыя зборніка артыкулаў па беларусістыцы і багаслоўі "Сонца тваё не закоцііца, месяц твой не схаваецца", выдадзенага ў гонар 80-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя святарскай дзейнасці айца Аляксандра Надсана.**

Постаць славутага беларускага грэка-каталіцкага святара добра вядомая. У замежжа А. Надсан трапіў пасля Другой сусветнай вайны. Дагэтуль ён удзельнічаў у французскім руху Супраціўлення, ваяваў у 2-м Польскім корпусе генерала Андэрса і быў паранены ў знакамітай бітве пад Монтэ-Касіна. З 1946 года стала жыве ў Вялікабрытаніі, дзе плённа ўдзельнічае ў беларускім руху. У прыватнасці, айцец Аляксандр заснаваў легендарную бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане. У 1958-м ён стаў святаром, а праз тры дзесяцігоддзі — Апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў у замежжы.

Ідэя выдаць зборнік, прысвечаны А.Надсану, нарадзілася ў Ірыны Дубянецкай у 2006 годзе, калі святару споўнілася 80 гадоў. Быў створаны нават праспект будучага выдання. Але выдаўцы не праявілі інтарэсу да праекта. Зацікавілася ім толькі выдавецтва "Тэхналогія", якое і выдала зборнік. У кнігу ўвайшлі даследаванні ў 14 гуманітарных і 9 багаслоўскіх дысцыплінах, а таксама вершы. Усяго на старонках прадстаўлены 100 аўтараў з 14 краін свету.

Прэзентацыя ў "Кніжным салоне" стала трэцяй па ліку — пасля прадстаўлення выдання ў Вільнюсе і ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Неўзабаве чакаецца і сустрэча ў Лондане. Госці "Салона" — вядучая сустрэчы, старшыня дзіцячага фонду "Сакавік" Марыя Міцкевіч, літаратуразнаўцы Адам Мальдзіс, Лідзія Савік і Ірына Багдановіч, гісторык Леў Казлоў — пазнаёмілі прысутных са сваімі ўспамінамі пра айца Аляксандра і стасункі з ім. Падчас сустрэчы нарадзілася ідэя стварыць зборнік успамінаў, прысвечаных знакамітаму рэлігійнаму дзеячу. Можна не сумнявацца, што месцам яго прэзентацыі стане сучасная "беларуская хатка" — мінскі "Кніжны салон".

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

## Час чытаць



**Беларусы расказваюць пра свае чытацкія густы, называюць самага рамантычнага літаратурнага героя і вызначаюць творы, якія хацелі б бачыць экранізаванымі.**

Спявак Пётр ЕЛФІМАЎ:

— Апошнім часам чытаю ў асноўным літаратуру "для расслаблення мозга". У цэлым жа люблю фэнтэзі, асабліва серыю кніг Вадзіма Панова "Тайный Город". Быў час, калі мне вельмі падабалася творчасць Уладзіміра Караткевіча: і проза, і паэзія. І вершы яго на памяць вучыў, паступаў з імі ў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі.

Не скажу, што ў творах, якія я чытаў і чытаю цяпер, многа рамантыкі, але калі звярнуць увагу на класіку, да ліку самых рамантычных герояў можна, хутчэй за ўсё, аднесці шэкспіраўскіх Рамэа і Джульету. Тое, што здарылася з закаханымі ў гэтай трагедыі, паказвае: у жыцці людзі павінны пераадольваць цяжкасці. Дзякуючы перашкодам, калі толькі разам можна праз іх прайсці, ёсць магчымасць вызначыць, што пачуццё сапраўды чагосьці вартае.

Магу смела назваць сябе кінаманам: мне цікава спачатку паглядзець карціну, а потым, калі яна знята па кнізе, для параўнання прачытаць твор. Але звычайна ў кнізе ўсё намнога цікавей. Калісьці я марыў, каб знялі фільм па кнізе Тэры Гудкайнд "Правілы чараўніка". І серыял — цэлыя два сезоны — быў зняты, прычым зняты вельмі прыгожа і, на маю думку, удала. Таму буду вельмі рады, калі з'явіцца працяг гэтага фільма. Хацеў бы, каб знялі фільмы і па кнігах Вадзіма Панова. Ён цікавы пісьменнік, і кнігі яго — пра Таемны Горад, які існуе і ў рэальным жыцці, гэта горад Масква, але ў ім побач з людзьмі існуюць дзіўныя істоты — нібыта людзі, а быццам магі, чарадзеі. У раманах Панова прысутнічаюць і чалавечыя адносіны: таямніцы, інтрыгі, змовы, але ёсць і разумныя людзі, якія спрабуюць гэтыя пытанні вырашыць. Таму, думаецца, было б цудоўна паглядзець фільмы па гэтых кнігах.

Запісала Марына ВЕСЯЛУХА

Фота з інтэрнэт-сайта

## Віртуальныя вандроўкі

Кніжны магазін можна смела назваць з'явай культуры. У яго працы, як у люстэрку, адбіваецца не толькі эканамічная сістэма, але і менталітэт народа, звычкі, і, зразумела, стаўленне да кнігі. Таму кнігарні, выконваючы па сутнасці аднолькавыя функцыі продажу літаратуры, у розных краінах выглядаюць і працуюць па-рознаму, прапануюць мноства дадатковых паслуг. Увазе чытачоў "Кніжнага свету" прапануем новы праект "Віртуальныя вандроўкі", у межах якога мы наведаем кніжныя магазіны розных краін, звернем увагу на асаблівасці арганізацыі іх працы. Сёння завітаем у кнігарні Хельсінкі і Масквы.

# Альтэрнатыва — бібліятэка

Самы вялікі кніжны магазін Фінляндыі мае назву "Akateeminen Kirjakauppa" (Акадэмічная кніжная крама), яго філіялы працуюць па ўсёй краіне. Крама, што знаходзіцца ў Хельсінкі, — самая вялікая ў краіне. Гэта прасторны трохпавярховы сучасны будынак, абсталяваны эскалатарамі для больш хуткага перамяшчэння па краме.



Па перыметры гандлёвых залаў стаяць зручныя крэслы, на якіх наведвальнікі могуць заглыбіцца ў чытанне. Пасярэдзіне крамы — утульная зона для адпачынку (ці, як каму больш падабаецца, чытання), побач з якой — кнігі, што прадаюцца са скідкай. У краме (як у сапраўдным гандлёвым цэнтры) працуе кафэ.

У "Akateeminen Kirjakauppa" можна знайсці кнігі рознай тэматыкі: мастацкую літаратуру, даведнікі і энцыклапедыі, кнігі міждысцыплінарнага характару, літаратуру па гуманітарных навуках, мастацтве, праве, медыцыне і навуцы, мовах, літаратуразнаўстве, эканоміцы, фінансах і прамысловасці, падручнікі па англійскай мове, кнігі па камп'ютарах і інфармацыйных тэхналогіях. Кнігарню нездарма называюць крамай для студэнтаў: тут працуе спецыяльная паслуга для вучэбных груп — па зніжанай цане можна набыць і хутка атрымаць падручнікі колькасцю больш як дзесяць асобнікаў. Кнігарня прапануе і электронную он-лайн даведку (у якой кнігі можна шукаць як па прозвішчы аўтара і назве, так і па тэматычных раздзелах), што даступная на фінскай, шведскай (якая таксама з'яўляецца мовай афіцыйнага ўжытку) і англійскай. У кнігарні прадстаўлены і шырокі выбар кніг на англійскай мове.




Працуе ў краіне і вялікая сетка крам з назвай "Suomalainen Kirjakauppa" (Фінская кнігарня), іх гандлёвыя кропкі (больш сціплыя, але не менш зручныя) размешчаны амаль у кожным гандлёвым цэнтры Фінляндыі.

Карыстаецца папулярнасцю зручны он-лайн магазін "Bookplus Suomi", які працуе на фінскай, шведскай і англійскай мовах. Гэта кнігарня мае вопыт продажу ў асноўным імпартнай кнігі. Так, у дадатак да мясцовай прадукцыі прапануюцца чытачам мільёны англійскіх, 300 тысяч нямецкіх і 50 тысяч шведскіх выданняў.

Але нягледзячы на тое, што і кнігарань тут шмат, і прапанова выданняў дастаткова вялікая, патэнцыйныя пакупнікі час ад часу сутыкаюцца з цяжкасцямі. Так, праграміст Нэві адзначае: "Фінляндыя — маленькая краіна з насельніцтвам калі пяці мільёнаў. Часта патрэбную кнігу тут знайсці вельмі складана. У крамах лёгка можна натрапіць толькі на папулярныя кнігі, мастацкія. Я не бачыў, каб у кнігарнях праходзілі прэзентацыі, сустрэчы з аўтарамі. Кніжная прадукцыя вельмі дарагая. Тое, што ў іншых краінах Еўропы ці Індыі можна купіць за 8 €, тут будзе каштаваць 70 €. Большасць кніг (раманы і папулярнае чытво) перакладзены на фінскую мову (больш як 90 працэнтаў насельніцтва Фінляндыі размаўляе па-фінску). У кнігарнях мала кніг на англійскай мове. Не думаю, што кніжны бізнес у Фінляндыі — прыбытковая справа. Перш за ўсё таму, што цэны на прадукцыю высокія і правілаў, абмежаванняў шмат. Таму, калі хачу набыць шмат кніг, еду ў іншыя краіны ці раблю заказ праз інтэрнэт-кнігарню". У той жа час са складанай сітуацыі нехапу кніг можна знайсці выйсце. Як падкрэслівае Нэві, у кожным горадзе краіны ёсць вялікая бібліятэка, дзе шмат добрых кніг і бясплатны доступ да сеткі Інтэрнэт для кожнага.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: у кнігарні "Akateeminen Kirjakauppa"; крама "Suomalainen Kirjakauppa" ў адным з гандлёвых цэнтраў Фінляндыі.

# І некалькі істотных адрозненняў...

У маскоўскіх кнігарнях можна выпіць кубачак кавы і самому шукаць кнігу з дапамогай лесвіцы.

Куды б ні заносіў лёс маіх знаёмых падчас вандровак, дакладна ведаю, яны не прамінуць зазірнуць у кніжную краму. Таму што наведванне кніжнай крамы для чалавека, выхаванага ў павазе да друкаваных выданняў, — нешта накшталт паломніцтва да святых мясцін... Да таго ж заўсёды цікава параўнаць кніжны асартымент, падыход да абслугоўвання і адкрыць для сябе нешта такое, чаго ў родным горадзе яшчэ няма, расказаць сябрам і прапанаваць, калі здарыцца нагода, убачыць чутае.

Так, калі шляхі прыводзяць у сталіцу Расійскай Федэрацыі, у кніжныя крамы наведацца трэба безумоўна, таму што...

Палітыка кнігагандлю ў Маскве заснавана на наступнай канцэпцыі: кніга — не проста тавар, які можна набыць дзе заўгодна, а частка культурнай прасторы, даволі дарагі прадмет, кантакт з якім патрабуе стварэння пэўных умоў. Кнігарня павінна стаць, па-першае, клубам, дзе ёсць гардэроб (бо ў шубах і паліто нязручна сесці з кнігаю на крэсла і правесці некалькі гадзін), цішы пакой, дзе можна абмеркаваць кніжныя навіны, не перашкаджаючы астатнім наведвальнікам крамы, дзе выдаюцца спецыяльныя пакеты для мокрых парасонаў, лунае пах кавы і гучыць прыемная музыка.

Кіназнаўца, выкладчык, кандыдат філалагічных навук Вольга Мядзведзева параіць сваім знаёмым кніжную краму на Цвярской (гэты магазін працуе нават ноччу. Наведвальнікаў, канечне, мала, але ў цішыні, без мітусні можна цудоўна правесці некалькі гадзін з літаратурай, вызначыць ступень неабходнасці выдання, запланаваць, што трэба набыць у наступны раз), а таксама "Букбери", крамы буйной кнігагандлёвай сеткі. Там дазваляецца чытачу самому браць лесвіцу і "падарожнічаць" па лабірынце высокіх паліц. А яшчэ, чаго пакуль няма ў мінскіх крамах, заказаць кубачак кавы і чытаць кнігу столькі часу, колькі маеш. (Кавярні ёсць не толькі ў "Букбери", але і ў "Библио-Глобусе", і ў гіпермаркетах сеткі "Лас-Книгас".)

Кнігі расійскіх выдавецтваў адметныя высакакаснай паліграфіяй. Прываблівае багацце дзіцячай, добра ілюстраванай літаратуры. Безумоўна, ёсць яна і ў нас, і таксама не танная, але якасць расійскіх выданняў для дзяцей пакуль што вышэйшая. Увогуле кніга — далёка не таннае захапленне.

Кніжныя крамы маюць тэматычныя аддзелы. Калі самому не ўдалося знайсці кнігу, напрыклад, кніга па экранных мастацтвах трапіла ў аддзел культуралогіі, дапаможа прадавец, зазірнуўшы ў электронны каталог. (Пошукава-інфармацыйныя тэрміналы ёсць у кожным аддзеле "Библио-Глобуса" і "Москвы", яны выдадуць нават "карту", якая давядзе цябе да патрэбнай палічкі.)

Яшчэ адна маскоўская буйная кнігагандлёвая сетка "Республика" прапануе чытачам вялікі выбар не толькі кніг, але дыскаў з музыкай і кінафільмамі, забаўныя сувеніры. Дэвіз яе дзейнасці — кніга можа быць такім самым модным і эксклюзіўным падарункам.

Кнігарні Масквы працуюць без складскіх памяшканняў. Камп'ютарызацыя дазваляе ўмомант браць у аптавікоў патрэбны тавар, таму на палічках агромністая наменклатура выданняў — і нічога лішняга. У наяўнасці, напрыклад, 5 экзэмпляраў кнігі. Набылі чытачы 2 — 3, тут жа робіцца заказ яшчэ на некалькі. Купілі ўсе пяць, значыць, кніга папулярная, заказваюць болей. Для прэзентацый у арсенале кнігагандляроў будзе прыкладна 20 — 30 асобнікаў. Прэзентацыі новых выданняў — неад'емная частка жыцця кнігарань Масквы. Сустрэчы з аўтарамі, гутаркі пра літаратуру... Падобныя мерапрыемствы арганізаваны ў выглядзе шоу з паказам невялікага рэкламнага роліка. Прадстаўнікі аддзела маркетынгу маюць пэўны сцэнарый з распрацаванымі пытаннямі агульнага характару. Асабліва прыемна, калі ў цэнтры ўвагі такога мерапрыемства беларускія аўтары. Пісьменнік, сцэнарыст, доктар юрыдычных навук Сяргей Трахімёнак масквічам добра вядомы — яго творы, што пабачылі свет у расійскіх выдавецтвах "Русское слово" і "Колос", прэзентаваліся ў самай вялікай з кніжных крам Масквы — "Библио-Глобусе". З дзвюх прэзентацый — адна праходзіла ў падвальчыку крамы, дзе ёсць невялічкая зала менавіта для мерапрыемстваў такога кшталту, другая — прама на праходзе (арганізатары матывавалі, што так больш будзе пакупнікоў), Сяргей Аляксандравіч схільны да першага варыянту: "Мне не падабаецца, калі людзі ідуць міма, рэдка хто спыняецца. Традыцыйны падыход, калі аўтар расказвае пра кнігу, а прысутныя задаюць пытанні канкрэтна па змесце рамана, гісторыі яго напісання, здаецца больш дасканалым".

На жаль, часта сустракаць беларускіх аўтараў і беларускія кнігі ў маскоўскіх кнігарнях не дазваляе непараўнальны сабекошт беларускай і расійскай кніжнай прадукцыі. Аптавікі бяруць кнігі ў выдавецтва, павышаючы каэфіцыент удвая. А калі беларуская кніга і так удвая даражэйшая за расійскую, на палічках крам яна ўжо каштуе больш у чатыры разы.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

## Азбука Морзэ

● Літаратурна-музычная гасцёўня "З любоўю да роднай зямлі", прысвечаная 80-годдзю Уладзіміра Караткевіча, запрасіла ў сцены адзінаццатай бібліятэкі горада Мінска вучняў шостых і дзясятых класаў сярэдняй школы нумар 43. Выстаўка "Гарачы след таленту" пазнаёміла з новымі выданнямі твораў беларускага класіка, з'яўленне якіх прымеркавана менавіта да ўрачыстай даты. Гучалі ў выкананні школьнікаў песні на вершы слыннага паэта, а на экране мільгалі краявіды роднай зямлі, апетай ім з вялікай любоўю. Кадры дакументальнай хронікі захавалі юнацкія фотаздымкі і аблічча дарагіх яго сэрцу людзей — галоўнай каштоўнасці беларускай зямлі. Падчас паэтычнай хвілінкі "На рамантычнай хвалі" наведвальнікі гасцёўні сустрэліся з паэтам Рагнедам Малахоўскім.

— У выдавецтве "Галіяфы" пабачыў свет беларускамоўны пераклад рамана Чарльза Дзікенса "Олівер Твіст". На беларускую мову раман пераклаў Яўген Бляісін, над афармленнем выдання працаваў мастак Анатоль Тадорскі.

● 27 і 28 лістапада ў Музеі сучаснага мастацтва "Эрарта" пройдзе III Незалежны пецярбургскі кніжны кірмаш. У форуме ўдзельнічаюць выдавецтвы і незалежныя кнігарні "Порядок слов" і "Архив книг". Наведвальнікаў кірмашу чакаюць сустрэчы з аўтарамі, продаж кніг непасрэдна ад выдавецтваў, спецыяльны стэнд пецярбургскіх часопісаў, хэндмэйд-кірмаш і кінапаказы.

— У першы дзень зімы ў Маскве распачне працу дванаццаты па ліку міжнародны форум "разумнай" літаратуры. Па інфармацыі арганізатараў кірмашу non/fiction, у гэтым годзе ў ім прымуць удзел больш як 280 выдавецтваў і кнігарань з 16 краін свету. На 7 пляцоўках будзе праведзена больш як 300 мерапрыемстваў, звязаных з кнігавыдавецтвам, распаўсюджваннем і папулярызацыяй высакаякаснай мастацкай, гуманітарнай і адукацыйнай літаратуры.

● Як паралельныя праекты на міжнародным форуме non/fiction будуць арганізаваны VI Кніжны Антыкварны кірмаш, VI Маскоўская Міжнародная выстаўка-кірмаш "Кніга Мастака", экспазіцыя "Ідэальны магазін".

— У Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў межах Дня практыкі студэнтаў спецыяльнасці "Літаратурная работа" адбылося прадстаўленне выдавецтва "Народная асвета". Спецыялісты расказалі пра гісторыю стварэння выдавецтва, яго спецыфіку, пошук новых аўтараў, працэс літаратурнай падрыхтоўкі рукапісаў і пра рэкламу выданняў, што выйшлі з друку. Сустрэча са студэнтамі прайшла з удзелам пісьменніка, аўтара беларускіх буквароў, заслужанага работніка культуры Беларусі Анатоля Клышкі.

● Прэзентацыя кнігі Андрэя Лянкевіча "Паганства" і аднайменнага медыяпраекта адбылася ў офісе Інстытута Гётэ ў Мінску. У выданне ўвайшло каля двухсот здымкаў, якія збіраліся аўтарам падчас вандровак на працягу трох год. У альбоме перад гледачом паўстае загадкавы свет дзесяці паганскіх абрадаў, якія яшчэ захаваліся ў беларускіх вёсках, сакральных прадметаў беларусаў, капішчаў і камянёў, а таксама птушак і жывёл.

Падрыхтавалі Чэслава ПАЛУЯН і Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

## Издано в Москве

# …Мы выбираем Беларусь



Медведев Р.А. Александр Лукашенко. Контуры белорусской модели. — М.: Издательство ВВ-PG (ЗАО"ББПГ"), 2010. — 320 с.

**Имя Роя Медведева, которому недавно исполнилось 85 лет, хорошо известно не только на постсоветском пространстве, но и во всём мире. Прежде всего благодаря его фундаментальным историко-публицистическим работам, посвящённым исследованию советской истории. Человек, на глазах которого прошли многие созидательные и разрушительные процессы, дал свою личностную и вместе с тем серьёзно обоснованную оценку лидерам и событиям, что ещё долго будут на слуху у грядущих поколений человечества.**

Несколько слов о непростой биографии историка, политического деятеля (в советские времена — представителя диссидентского движения). Родился 14 ноября 1925 года в Тифлисе. Отец — дивизионный комиссар, заведующий кафедрой Военно-политической академии. Был репрессирован в 1938-м, выслан на Колыму, где и погиб в 1941-м. Посмертно реабилитирован. В 1943 году Роя Медведева призвали в армию. Служил в Закавказском военном округе, в действующую армию не попал. Занимался ремонтом военной техники, охраной железнодорожных путей. После войны закончил философский факультет Ленинградского государственного университета. Защитил диссертацию на соискание степени кандидата педагогических наук. Учительствовал. Работал редактором Учпедгиза. В 1961 — 1970 — старший научный сотрудник, заведующий сектором НИИ производственного обучения Академии педагогических наук СССР. Редактировал самиздатовские журнал "Политический дневник", альманах "XX век". Издал на Западе книги "К суду Истории" и "Они окружали Сталина". 19 марта вместе с академиком Андреем Сахаровым и Валентином Турчиным опубликовал открытое письмо к руководителям СССР о необходимости демократизации страны. С 1970 — свободный учёный. В 1989 — 1992 — народный депутат СССР. В 1989-м обратился в Комитет партийного контроля при ЦК КПСС с просьбой о восстановлении в рядах партии, из которой был исключён в 1969-м за книгу "К суду Истории". Был восстановлен с сохранением стажа с 1959 года.

Рой Медведев — острый созерцатель и аналитик нынешней эпохи. Его книги, совмещающие политически выверенные, бескомпромиссные оценки действительности, раскрывающие зависимость событий и течений в общественной, социальной жизни от роли и места в истории политических лидеров, вызывают как восхищение личностью автора, так и широкое читательское внимание. За последние двадцать пять лет Рой Медведев написал и издал в СССР, России, других странах множество настоящих историко-политических бестселлеров: "Хрущёв. Политическая биография", "Солженицын и Сахаров. Два пророка", "Юрий Андропов", "Дмитрий Медведев: двойная прочность власти" и другие.

Совсем недавно к читателю пришла изданная в Москве книга известного историка и публициста "Александр Лукашенко. Контуры белорусской модели". Во многом её содержание поясняют уже сами названия глав: "Белорусская экономическая модель", "Становление суверенного государства", "Институты демократии", "Беларусь и Россия", "Год кризиса", "Республика Беларусь и внешний мир", "Александр Лукашенко. Штрихи к политическому портрету". Почему Рой Медведев обратился к "белорусской теме"? Вот что об этом пишет сам учёный: "Все трудности развития восточноевропейского региона разделяет и Беларусь. Однако из более чем двадцати его стран только одна Республика Беларусь сохранила верность тому, что было принято называть социалистическим выбором. Она проводит, подобно Китаю и Вьетнаму в Азии, политику "рыночного социализма", или "социалистического рынка". Её народ сохраняет приверженность тем базовым социальным и политическим ценностям, которые пришли в наш мир после социалистической революции 1917 г. в России. Из стран Европы только Беларусь отмечает 7 ноября, т.е. годовщину революции, как государственный праздник. Это стало в последние 15 лет удобной мишенью для критики "белорусской модели", порождая множество дискуссий и споров, которые чаще всего принимали необъективный характер и сопровождались грубыми поношениями и клеветой. Не вполне объективно часто к Беларуси и общественное мнение в Российской Федерации, хотя эта республика — наш единственный верный союзник на западном направлении. Отмеченные мной здесь обстоятельства, а также важность достигнутых Беларусью экономических успехов, которыми не может похвастаться ни Российская Федерация, ни большинство других стран СНГ, и побудили меня предпринять данное небольшое исследование. Предметом моего интереса и анализа стали события, которые происходили в Республике Беларусь с начала 1992 до начала 2002 г. Я искренне благодарю всех, кто оказал мне в этой работе помощь и поддержку".

> Почему Рой Медведев обратился к "белорусской теме"? Вот что об этом пишет сам учёный: "Все трудности развития восточноевропейского региона разделяет и Беларусь. Однако из более чем двадцати его стран только одна Республика Беларусь сохранила верность тому, что было принято называть социалистическим выбором. Она проводит, подобно Китаю и Вьетнаму в Азии, политику "рыночного социализма", или "социалистического рынка".

И рядового обывателя, и человека, который ежедневно не пропускает сообщения десятков информационных ресурсов, следит за политическими событиями в стране и мире, одинаково волнует один и тот же вопрос: "Куда мы движемся? Каким будет наше завтра?" Волнует даже в том случае, если сам для себя он формирует вопрос по-другому: "Смогу ли я завтра жить так же достойно, как сегодня, или ещё лучше? Каким будет завтрашний день моих детей?" Решение наших личных проблем напрямую связано с теми политическими, социальными, экономическими приоритетами, которые выбирает Президент страны, которые определяют институты власти. Рой Медведев, опираясь на множество фактов, статистических данных, социологических исследований, приводя в качестве примера высказывания, оценки Александра Григорьевича Лукашенко, его сторонников и политических оппонентов, ясно, в доступной форме рассказывает о том, как страна жила все эти годы, какие и как испытания выдержала, а главное — убедительно оценивает правильность подходов власти к принятию тех или иных решений. Часто мы забываем оглянуться назад, не всегда, настроенные на текучесть, сиюминутность событий и поступков, имеющих отношение лично к нам, способны понять, насколько значима для каждого гражданина, каждого жителя страны, каждого человека стратегия, которой руководствуется государство. Да, чаще мы рассуждаем о выплате и размерах зарплаты, пенсий, о повышении или понижении цен. Но основа, фундамент таких простых, казалось бы, явлений и решений является сложным и многогранным механизмом. Понять его помогает на самом деле искренняя, написанная с любовью книга Роя Медведева — исторического публициста с бесспорным авторитетом и грамотным политическим чутьём. В послесловии к исследованию "Александр Лукашенко. Контуры политической модели" Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Сербия в Республике Беларусь, Посол Республики Сербия в Российской Федерации (2000 — 2005 г.) Сречко Джукич заметил следующее: "Книга о Беларуси даёт богатую пищу для размышлений. Она будет полезна всем, кто интересуется жизнью этой европейской страны, не так давно ставшей самостоятельным государством". Нельзя с этим не согласиться. Как нельзя не добавить и то, что книгу Роя Медведева следовало бы прочитать многим заезжим оценщикам, рассматривающим суверенную и независимую Республику Беларусь всего лишь как маленькую точку на карте.

> Рой Медведев, опираясь на множество фактов, статистических данных, социологических исследований, приводя в качестве примера высказывания, оценки Александра Григорьевича Лукашенко, его сторонников и политических оппонентов, ясно, в доступной форме рассказывает о том, как страна жила все эти годы, какие и как испытания выдержала, а главное — убедительно оценивает правильность подходов власти к принятию тех или иных решений.

Кирилл ЛАДУТЬКО

# Знания, собранные со всего света

Энциклопедия — особый вид книги. В переводе с греческого это слово обозначает "обучение в полном круге". Как писал один из первых европейских энциклопедистов Дени Дидро, "цель энциклопедии — собрать знания, рассеянные по свету, привести их в систему, понятную для людей ныне живущих, и передать тем, кто придёт после нас, с тем чтобы труд предшествующих веков не стал бесполезным для веков последующих и чтобы наши потомки, обогащённые знаниями, стали добрее и счастливее, и чтобы мы не канули в вечность, не сумев послужить грядущим поколениям". Вниманию читателей "Кніжнага свету" мы представляем универсальные, отраслевые и детские энциклопедии ООО "Харвест".



















## Обновлённая Britannica

Encyclopedia Britannica с 1768 года является ведущим справочным англоязычным изданием. Сегодня его авторитет и надёжность в подборе информации, которые на протяжении 240 лет делают издания Britannica эталоном для всех остальных справочников, воплотились в обновлённой Britannica Concise Encyclopedia (русское издание "Britannica настольная иллюстрированная энциклопедия").

"Britannica настольная иллюстрированная энциклопедия" включает в себя около 25 тысяч статей, подготовленных авторами Encyclopedia Britannica. В них представлена самая современная информация, последние достижения науки и техники, изменения в международном положении. Энциклопедические статьи со ссылками на источники всесторонне охватывают географию, историю, науку, бизнес, политику, историю и культурные особенности народов, литературу и искусство, массовую культуру и многое другое.

Энциклопедия может оказать незаменимую помощь как дома, так и в школе, и на работе. В ней читатель найдёт информацию практически из любой области человеческих знаний. Более двух тысяч схем, фотографий, карт, флагов и таблиц помогут сделать сведения более наглядными и понятными.

## Все тайны Вселенной

Мир, в котором живёт человек, многообразен и бесконечен, и всё в этом мире взаимосвязано. Особенно интересно увидеть эту взаимосвязь детям, узнать, как связаны Полярная звезда и маленькая птичка овсянка, как влияют вспышки на солнце на наши земные дела. На эти и многие другие вопросы даст ответ яркая, богато иллюстрированная "Новейшая большая иллюстрированная энциклопедия школьника". Она поможет познать мир, откроет тайны Вселенной, загадки природы и человеческой жизни.

Энциклопедия включает три больших раздела: "Космос", "Человек", "Птицы". В первом разделе рассказывается о нашем месте в космосе, о работе астронавтов, поисках жизни на других планетах. Знакомят авторы маленьких читателей и с планетами Солнечной системы, созвездиями, галактиками. В разделе "Человек" содержится информация о "центрах управления организмом", мозге, нервной системе, устройстве органов чувств, о химических "агентах" и жизненном цикле человека. В разделе "Птицы" можно узнать о том, как ведут себя "властелины неба", где они живут, выращивают птенцов, чем питаются.

Особенно интересны рубрики "Попробуй сам" и "Познакомься поближе". В них авторы дают много полезных советов, учат ставить опыты и проводить эксперименты, знакомят с исследователями Вселенной, с людьми науки, открытиями, изменившими мир, необычными методами лечения.

Энциклопедию можно читать последовательно — от раздела к разделу, можно выбирать только интересующие темы: Проводник проведёт туда, куда захочет читатель, а Словарик расскажет о том, что означают некоторые незнакомые и сложные слова.

## Природа вещей и человека

Кто такие инуиты? Как устроен наш мир? Что такое комета? Где находится самая высокая гора в мире? Почему вымерли динозавры? На эти и другие вопросы из истории, культуры, науки и техники ответит "Большая энциклопедия для любознательных" Анны Спектор. Она написана специально для юных читателей, которые стремятся познать мир, разгадать все его тайны и загадки. Краткие, но содержательные статьи написаны понятным, доступным языком, а яркие и красочные иллюстрации, сопровождающие текст, сделают путешествие не только познавательным, но и очень интересным.

"Энциклопедия для любознательных" познакомит читателя с "Природой вещей", обратит внимание на особенности строения вещества, познакомит с энергией, силой, электричеством и магнитами, понятиями массы, веса и скорости, пространства и расстояния, времени и звука. В разделе "Вселенная и Земля" откроются тайны Солнечной системы, особенности атмосферы Земли, погоды и климата. Поближе познакомит книга и с растениями и животными, природой человека, историей и настоящим, а также с особенностями развития культуры и техники.

Статьи рубрики "Это полезно знать" обратят внимание читателя на новые, неизвестные слова, в особую рубрику выделены также полезные, яркие, запоминающиеся сведения. Предметный указатель поможет быстро найти интересующую ребёнка статью. В целом книга станет непременным помощником в поиске ответов на все волнующие ребёнка вопросы.

## Для сохранения родительского авторитета

А почему... ну, например, есть хочется? Оказывается, чувство голода мы испытываем не тогда, когда в желудке пусто, а когда в крови не хватает питательных веществ. В наш мозг в этом случае поступает вполне определённый сигнал, и не куда-нибудь, а в центр голода. Тогда мозг даёт команду желудку и кишечнику — и мы спешим на кухню к холодильнику.

В детской энциклопедии "Что? Зачем? Почему?", авторами которой являются Елена Хомич и Маргарита Якушева, множество ответов на такие вот заковыристые вопросы маленьких почемучек. Теперь родителям не придётся беспокоиться за собственный авторитет. Ведь с помощью яркой разноцветной энциклопедии они объяснят всё на свете — и почему руки-ноги мёрзнут, и где придумали шахматы, и кто был первым марафонцем, и кто такие "моржи".

В книге материал распределён по разделам. Перечислим некоторые из них: "Вселенная", "Природа вещей", "Жизнь древнего человека", "Учение с увлечением", "Человек и его здоровье".

Раздел "Города и страны" приглашает в небольшое кругосветное путешествие — здесь есть информация о самом маленьком на планете государстве, городе, который может исчезнуть под водой, достопримечательностях — исторических и современных.

Начав со знакомства с энциклопедией, читатель наверняка продолжит искать новые интересные факты.

## Секреты папы Карло

Самого любимого героя нашего детства — Буратино — сделал, как известно, столяр. Хобби, искусство, необходимые умения — книга пригодится каждому, кто с удовольствием вдыхает аромат свежеструганой доски и сам не прочь что-то сделать своими руками.

Сочетать несочетаемое — именно это предлагает автор "Новейшей иллюстрированной энциклопедии: работы по дереву" англичанин Стивен Корбетт. Например, сделать своими руками компьютерный "шкафчик", взорвать строгий интерьер офиса деревянным "диваном". Всерьёз заняться реставрацией старинных предметов — зеркальных рам, столов и стульев XIX века. Творчески подойти к укладке паркета. Вернуться к сотворению деревянной вещи, заставляя раскрываться чудо каждого древесного ствола с его особенностями, рисунком волокон, уникальными свойствами.

Энциклопедия щедро иллюстрирована. На её более чем 2300 цветных фотографиях подробнейшим образом представлены инструменты для деревообработки, приёмы и этапы выполнения каждой операции. Чёткая пошаговая инструкция позволяет легко представить весь процесс работы. Автор охотно посвящает читателя в тайны мастерства, раскрывает секреты изменения цвета, имитации текстуры, отделки шпоном и т.п. Не чужд Стивену Корбетту и такой важный для нас аспект, как мелкий ремонт дома. В разделе, посвящённом этой теме, читатель найдет описание и фото фурнитуры, способной выдержать большие нагрузки и стремительный темп современной жизни.

Не обошёл вниманием автор и совершенствование мастерства, чему посвящён раздел "Продвинутая техника работ".

## Энциклопедия нового времени

Под понятием "энциклопедия" недаром понимают приведённое в систему обозрение всех отраслей человеческого знания или круг дисциплин, в совокупности составляющих отдельную отрасль знания. Каждое поколение читателей выбирает свои привычные формы получения информации. Поэтому традиционная однотомная энциклопедия с размещением статей по алфавиту далеко не всегда отвечает их требованиям.

Изданием нового времени стала "Уникальная иллюстрированная энциклопедия в таблицах и схемах". Ее основу составило соответственное англоязычное издание, выпущенное издательством Macmillan Publishing Company в 1993 году и затем переведённое на русский язык Алексеем Павловым. Формат представления материала, безусловно, нестандартный.

Каким же образом это достигается? "Уникальная иллюстрированная энциклопедия в таблицах и схемах" начинается с содержания, в котором указывается порядок размещения тем. Далее следуют предметный и именной указатели. Энциклопедия разделена на восемь тематических глав: "Природа", "Наука и техника", "Средства общения", "История", "Искусство", "Религия и философия", "Тело и здоровье", "Спорт". В каждой из них общие понятия сгруппированы под заголовками разделов, а в каждом разделе темы представлены в виде отдельных блоков, которые позволяют обеспечить оперативный доступ к интересующей информации. Кроме того, каждая тема сопровождается словарём, включающим определения важных понятий, а также краткими биографиями знаменитых людей.

Лучшему восприятию информации помогут иллюстрации, графики, схемы, рисунки и таблицы. Это обеспечит быстрый поиск нужных сведений, представленных в доступной и легкой форме.

## Кто на новенького?

Замысел исследовать классические боевые искусства родился более двух десятилетий назад в Германии, в "Кружке изучения будо", объединившем людей, интересующихся данной тематикой. Сперва исследование основывалось на чистом интересе, но скоро авторы во главе с сэнсеем Вернером Линдом поняли, что на рынке Германии и Европы в целом не хватает подобных изданий. В результате родилась "Энциклопедия боевых искусств", которая охватила собой Китай, Японию, Окинаву, Корею, Вьетнам, Индонезию, Индию, Монголию, Филиппины, Тайвань и другие страны и регионы мира. Книга представляет собой перевод с немецкого языка одноименного оригинального издания, осуществлённый А. Волковым.

Энциклопедия Вернера Линда — превосходная книга не только из-за объёма. Издание представляет собой педантично выверенную энциклопедию боевых искусств, рассказывающую об их технике, истории происхождения и философской основе. Тем самым оно является уникальным в мировой практике изданием.

Как справедливо отметил Рольф Бранд, книга "превосходит всю выходившую прежде литературу, посвящённую боевым искусствам. В книге можно найти ответ на любой вопрос. Энциклопедия содержит обширную, достоверную и лаконично изложенную информацию о боевых искусствах, а также связанных с ними дисциплинах. Всем настоящим мастерам в интересах своего развития рекомендую внимательно изучить эту энциклопедию". "Энциклопедию боевых искусств" следует читать не как классический энциклопедический словарь западного типа, а как общую сеть азиатского мышления.

Юзефа ВОЛК,
Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,
Денис МАРТИНОВИЧ

# Са студэнцкага сшытка

Першыя празаічныя творы Мікола Шабовіч напісаў задоўга да таго ўзросту, калі, паводле Пушкіна, пражытыя гады “да суровай прозы хіляць”. Аднак у друк іх не аддаваў, пакуль не пераканаўся, што захапленне прозай — не выпадковы занятак. Калі па высокім рахунку, то гэтыя трошкі наіўныя, па-юнацку няўрымсліва-рамантычныя апавяданні годна дапаўняюць такую ж светлую і шчырую паэзію іх таленавітага аўтара.

Віктар ГАРДЗЕЙ



Мікола ШАБОВІЧ

## Дзяўчына ў купальніку

Матацыкл затарахцеў на халастым ходзе і заглух каля невялічкай, зарослай травой рэчкі.

Я прыехаў сюды пакупацца: змыць з сябе пыл дарог, а таксама налёт смутку, які суправаджаў мяне вось ужо колькі дзён.

Яшчэ пад'язджаючы да берагавога абрыву, убачыў купку людзей, якія ляжалі каля куста арэшніку — мабыць, адпачывалі: побач быў калгасны сенакос.

Не паспеў адысці ад матацыкла, як заўважыў, што з гурта ўсхапілася дзяўчына і накіравалася ў мой бок. Яна нагадвала Афрадыту, толькі чырвоны купальнік прыкрываў яе карычневае, загарэлае цела.

Я спусціўся да рэчкі, якая была настолькі змялелай, што ахвота купацца паступова праходзіла.

Мы з Афрадытай былі насупраць — на розных берагах.

Я апусціў руку ў ваду: цёплая. Сёлета яшчэ ні разу не купаўся: то баяўся прастудзіцца, то часу не было. А зараз і час ёсць — ды на табе…

Дзяўчына таксама нахілілася да вады.

— Купаемся, — каб што сказаць, прагаварыў я і пачуў у адказ:

— Я ўжо за дзень накупалася ў гэтым балоце. Яшчэ й цяпер галава баліць. Вось Нарач — іншая справа…

Некалькі хвілін маўчалі.

— Ну як? — пачуўся голас з дзявочага гурта.

— Ды нехлямяжы нейкі, не можа здагадацца, што дзяўчына хоча пакатацца на матацыкле… Пакатаеш? — Афрадыта ў чырвоным купальніку павярнулася ўжо да мяне, глянула ў вочы і, бадай, не ўбачыўшы ў іх нічога незвычайнага, зноў нахілілася да вады, у якой, як у люстэрку, адбіваліся яе валасы, твар, рукі, агаленыя грудзі…

— Ды вось зараз пакупаемся, а пасля паглядзім, — зноў жа прагаварыў-прамямліў я, каб адчапіцца, бо купацца ўжо зусім не збіраўся.

— Я толькі што купалася. Бачыш, яшчэ мокрая.

Я акінуў дзяўчыну нясмелым позіркам і, засаромеўшыся яе прыгажосці, апусціў вочы.

— А вы загараць сюды прыехалі?

— Не, мы тут дапамагаем калгасу, а працуем у райцэнтры, на аўтабазе.

Я па-ранейшаму глядзеў на ваду, але адчуваў на сабе дзявочы погляд, прагны і знішчальны…

Адышоў убок, стараючыся не заўважаць ні прыгажуні ў купальніку, ні позірку яе праніклівых вачэй.

Каля матацыкла азірнуўся: дзяўчына лагодна набірала ў прыгаршчы вады, аблівала ёй свае загарэлыя ногі, рукі, ручайком пралівала між клубочкаў грудзей…

— Дык што, не будзеце купацца? — заўважыўшы, што збіраюся ад'язджаць, неяк са шкадаваннем запытала яна.

— Ды пашукаю іншае месца…

— А тут іншага няма. Вось Нарач…

Я ведаў, што такое Нарач, не раз быў на гэтым возеры. Але Нарач далёка, а я прыгадаў невялічкае азярцо на той бок вёскі, кіламетры за тры.

— Ды ёсць тут адно месца. Непадалёк...

Дзяўчына накіравалася да сваіх сяброўак. Распушчаныя валасы пераліваліся на сонцы. Яна ішла павольна, азіраючыся. На развітанне глянула на мяне з усмешкай. Што хавалася ў гэтай усмешцы?

Матацыкл імчаў на апошняй хуткасці па рытвінах і ямах. Пра дарогу думаць не хацелася. Нешта ў грудзях зашчымела.

“Мо вярнуцца? Але што гэта? Спакуса? Не, не трэба вяртацца…”

Я пад'ехаў да азярца, але і тут пакупацца не давялося: асака перагарадзіла ўсе подступы да вады, і ціна, якая плавала на паверхні, не абяцала нічога добрага….

На ўсёй хуткасці матацыкл ляцеў у вёску. “Сёння якраз субота. Пратаплю лазню і памыюся. Яшчэ папаруся добра…”

Нешта пацягнула на вершы. Чароўная Афрадыта не выходзіла з галавы.

Дзяўчына стройная ў купальніку
Жыцця парушыла спакой…
“Што гэта? Я закахаўся?”
Жыцця парушыла
разважлівасць,
І нерваў лопнула струна…

Пачуўся гул аўтамашыны. Да вёскі пад'язджаў “ГАЗ-53”. Я абыякава зірнуў у акно. “Што гэта?” — у кабіне сядзела яна, з распушчанымі валасамі, у купальніку.

Я выбег на вуліцу. Некалькі разоў штурхнуў педаль матацыкла.

— Ты куды? — запытала з гумна маці.

— Ды трэба, у адно месца…

Паміж мною і дзяўчынай у купальніку было метраў трыста. Адлегласць усё скарачалася, хоць на дарозе клубіўся пыл: стаяла сухое надвор'е.

“Куды я еду? Навошта? І што, калі даганю? Усё роўна прамаўчу і выгляду не падам, што даганяў яе. Усё роўна не спыню машыны…”

Матацыкл запавольвае ход, робіць разварот і зноў ляціць на апошняй хуткасці — ляціць назад, у вёску.

“Трэба пратапіць лазню, памыцца. Даўно ўжо не хвастаўся. Звяжу бярозавы венік…”

1980 г.

## Кватарант

Спаць чамусьці не хацелася. Выйшаў на вуліцу. Зоркі на начным небе павеялі нечым светлым, прыгожым, высокім. Уздыхнуўшы на поўныя грудзі, Віктар хацеў ужо прайсціся па вёсцы, як у галаву падкралася нейкая непрыемна-навязлівая думка: “А што, калі ён пачне прыставаць да яе, нават сільнічаць. А я не пачую…”

Віктар ніколі не раўнаваў сваю жонку, Валю. Ён проста не мог быць упэўненым у сваім кватаранту — Валеру.

“І чаго ён прыплёўся менавіта да нас? Як быццам адна хата ў вёсцы...”

Віктар ніяк не мог сабе растлумачыць, чаму гэты “аматар народнай песні” спыніўся менавіта ў іх.

Ён прыйшоў дні тры таму, з вялікім магнітафонам і рэчавым мяшком за плячыма. Прыйшоў, калі на дварэ ўжо вечарэла.

— Можна ў вас пакватараваць тыдзень-другі? Я з інстытута этнаграфіі і фальклору. Хачу запісаць у вашай вёсцы народную мудрасць.

Віктар не паспеў як след разгледзець хлопца, заўважыў толькі ў думках: “Не выглядаеш ты, братка, вучоным”, як Валя ветліва запрасіла:

— Калі ласка, праходзьце. Месца хопіць. Мы ж толькі ўдваіх жывём.

Сапраўды, месца хапала. Ужо больш чым шэсць гадоў, як пажаніліся, а дзяцей усё не было. Віктар дакараў у гэтым жонку, а тая — Віктара. Так і жылі. Дастатак у хаце быў, а вось шчасце… А ў чым яно, тое шчасце?

Яшчэ студэнтамі (ён — інстытута механізацыі, яна — народнай гаспадаркі), Віктар і Валя марылі жыць калі не ў горадзе, то ва ўсякім разе хоць у гарадскім пасёлку. Уяўлялі, як будуць падымацца на свой паверх (Валя хацела жыць на другім паверсе: прывыкла ў інтэрнаце), а там чакаюць іх маленькія дзеткі-птушаняткі — чамусьці хацелася менавіта двайнятак.

— Віць, а праўда, што ў нас будуць двайняткі, хлопчык і дзяўчынка?

— Будуць, усё будзе…

Але час ішоў, і Валя пераставала думаць пра двайнятак.

“Хоць бы адзін нарадзіўся. Няўжо я ніколі не стану маці, ніколі не адчую на сваіх плячах маленькія ручкі дзіцяці?..”

Як часта нам здаецца, што жыццё будзе ісці так, як мы хочам. Але нярэдка жыццёвы сцэнарый піша нехта невядомы, нябачны. І ён не пытае, як ты хочаш жыць, а замест лыжкі мёду калі-нікалі падсоўвае дзве лыжкі дзёгцю…

Мары аб гарадскім жыцці развеяліся, калі Віктара накіравалі на працу ў калгас, паблізу якога не было не толькі гарадоў, але і гарадскім пасёлкам не пахла. Ды і пасада галоўнага інжынера прыносіла шмат клопатаў: папярэднік быў схільны да гарэлкі і настолькі запусціў гаспадарку, што напачатку Віктар нават не ведаў, за што ўзяцца.

Валя працавала эканамістам у калгасе.

Праўда, у адным пашанцавала: кватэру далі адразу, і не абы-якую – новую, двухпакаёвую…

Патухла святло ў пакойчыку, дзе жыў кватарант. Аднак акно крышку свяцілася: святло праходзіла з кухні праз тонкую фіранку, што служыла замест дзвярэй…

Раптам Віктару падалося, што акно кватаранта на хвіліну пасвятлела, а потым зноў стала цьмяна-жоўтым, колеру фіранкі.

“Няўжо здалося? Не, сапраўды акно як быццам падміргнула. Маўляў, гуляй і не перашкаджай іншым… Не. Не здалося. Гэта, пэўна, кватарант калыхнуў фіранку, што вяла ў кухню, — і большы прамень святла ўпаў на акно. А для чаго варушыць фіранку? А можа, ён пайшоў да Валі, і там…”

Нейкае нядобрае прадчуванне ахапіла Віктара. Ён подбегам рушыў ад весніц да хаты. Прыпаў да акна кватаранта. “Не, на месцы, спіць, дарэмна хваляваўся, — толькі падумаў і хацеў ужо адысці ад акна, як нешта вярнула: — Неяк не па-людску спіць…”

Зазірнуў яшчэ раз і толькі тады ўбачыў, што Валера не адзін. З ім была Валя… Аж адскочыў ад акна.

“Калі ласка, месца хопіць”, — успомніў словы жонкі, калі тая запрашала кватаранта.

“Сапраўды, месца хапіла і на вузенькай канапе…”

Прайшоўся паўз веранду. Не стрымаўся — закурыў. Больш і больш зацягваў тытунёвага дыму, нібы ён мог прывесці ў раўнавагу, супакоіць…

Грымнуў клямкай, знарок павалтузіўся ў сенцах і прайшоў у спальню. Валя спала, адвярнуўшыся да сцяны. Як заўсёды, пакуль не клаўся спаць Віктар (ён клаўся звычайна пазней за жонку). Тады яна прачыналася і паварочвалася на другі бок, да яго…

Віктар нячутна лёг. Яна не варухнулася…

Назаўтра пачаў складаць рэчы.

— Ты куды? — толькі прачнулася жонка.

— Не трэба, Валя, я ўсё ведаю.

— Нічога ты не ведаеш, — хацела растлумачыць, але той ужо не слухаў яе…

Цягнік адлічваў доўгія-доўгія кіламетры…

Амаль год Віктар не атрымліваў лістоў. І нарэшце бамаўскі паштальён прынёс чаканы ліст — ад Валі.

“Добры дзень, любы… Можаш мяне павіншаваць: я ўжо маці. Нядаўна нарадзіла двайнятак. Вырашыла назваць Віктарам і Марынкай…”

1980 г.

## Востраў кахання

Вось і родная вёска. Метраў стодзвесце — і аўтобусны прыпынак. Ужо больш за паўгода Алег Іванавіч не мог наведаць сваіх бацькоў, аднавяскоўцаў. Моцна прастудзіўся і яшчэ не ачуняў як след — папрасіўся з бальніцы на дзень, і яго адпусцілі, папярэдзіўшы аб асцярожнасці…

Недалёка ад прыпынку — бацькоўская хата. Алег Іванавіч нясмела стукае ў дзверы. Маці рада да слёз: дапамагае сыну распрануцца, распытвае пра жыццё, здароўе. Той падымае ўверх вялікі палец, што значыць: “усё выдатна”. (Каму хочацца турбаваць матулю з-за нейкай прастуды?!)

Выпіў для прыліку чарку гарэлкі, адведаў дамашняга супу, смак якога ўжо амаль забыў, а пасля Алег запытаў у маці:

— Пісем няма?

— Няма, сыночак.

— Пра Аню нічога не чуваць?

— Гавораць, замуж выйшла, за інжынера…

“Як гірай па галаве! Хіба ж не кахаў яе гэтыя чатыры гады пасляінстытуцкай працы ў школе?!.”

Праўда, лепшага і чакаць было неразумна. Вось ужо амаль год ад яе ні гуку. А як хораша было з ёй тым летам, калі ён, студэнт другога курса педінстытута, і яна, школьная выпускніца, упершыню ўбачыліся і пасябравалі, ці, лепш сказаць, пакахалі, здавалася, на ўсё жыццё. Якое цудоўнае было тое лета! Той водар мяты, той востраў…

Нечакана прыйшла ідэя: неадкладна наведаць свой востраў, дзе не быў ужо амаль шэсць гадоў.

Востраў знаходзіўся сярод лесу, што адразу за вёскай. На балацявіне разбегліся ўбакі нешматлікія бярозкі і асінкі, паміж якімі раскінуліся купіны моху, дзе так многа восенню журавін. Гавораць, калісьці тут быў сапраўдны лес, але пажар знішчыў амаль усю яго прыгажосць, пакінуўшы астравок, празваны ў народзе не то Высокім, не то Зялёным. Абедзве назвы ў аднолькавай ступені стасуюцца да вострава. З аднаго боку, ён — Высокі, бо ўзвышаецца паўшарам над зямлёй, а з другога боку, — Зялёны, бо трава на ім зелянейшая за імхі, якія акружаюць астравок.

Алег адкрыў гэты востраў для сябе, нібы Калумб Амерыку. Востраў ён лічыў С В А І М, нават сябрам часта гаварыў:

— Хадзем на мой востраў!..

Алег Іванавіч падыходзіць да лесу, шукае забытую сцежку, нарэшце трапляе на нейкую — і мох прагінаецца. Вада…

Скідае чаравікі, закасвае штаны па калена і, абдзіраючы ногі і твар аб калючае кустоўе, Алег прадзіраецца наперад. Тут ужо сапраўднае балота. Але дзе востраў, дзе той прыгажун?

— А вось і ён, — прамаўляе самому сабе, не верачы сваім вачам. І не вельмі высокі і не выдзяляецца зелянінай.

“Няўжо гэта той самы востраў?”

Алег Іванавіч ступае на цвёрды грунт, акідвае позіркам мясцовасць.

“Ён… Вунь тая лагчынка пасярод астраўка, вунь дзве бярозкі, якія цесна сплятаюцца галінамі паміж сабой…”

Калісьці тут Алег з Аняй варажылі пра сваю будучыню. Пастарэў востраў, нібы чалавек, якога пакінулі сябры ў цяжкі для яго час.

Пачатак мая выдаўся надзвычай халодным, нягледзячы на тое, што сонца ўжо свяціла даволі пяшчотна. Алег Іванавіч ціхутка, нібы баючыся разбудзіць, падыходзіць да адной бярозкі, прытуляецца тварам, адчуваючы маладую кару. Потым прыпадае вуснамі да другой бярозкі, такой жа стройнай, як і яна… Аня. Сілы здраджваюць Алегу Іванавічу, і ён паволі апускаецца на сырую зямлю, на маладую траўку…

Успаміны, успаміны…

“Як яна магла? Як цяпер бачу яе вочы — прыгожыя чорныя вочы, яе вусны, такія трапяткія і, здавалася, шчырыя… Нібы зноў чую яе словы: “Я буду кахаць цябе заўсёды, Алежка!..”

Алег Іванавіч успамінае, калі ўпершыню прыйшла думка паказаць Ані востраў, як ён рыхтаваўся да таго дня і маліў Бога, каб толькі не пайшоў дождж. І вось перад вачыма той дзень, сонечны, але ветраны. Вось тая сцежка, вось яны падыходзяць, узяўшыся за рукі, да ляска — і скрозь вада!

“Менавіта яна віноўніца майго няшчаснага кахання!” Толькі цяпер Алег пачынае разумець, чаму Аня выйшла замуж за другога.

У тое лета Аня і Алег былі ў басаножках. Дзяўчына прасіла адкласці гэту ідэю — наведванне вострава — на наступны дзень, калі яна магла б захапіць з сабой гумовыя, крыху меншыя за рыбацкія, боты, якія стаялі ў бабулінай каморцы яшчэ ад дзеда.

Толькі Алег не мог ужо адступаць. Ён падхапіў дзяўчыну на рукі і , нягледзячы на балота, пайшоў да вострава.

Як яна абдымала яго!

Усё магло б абысціся някепска, але метраў за шэсцьдзясят да вострава з нагі Ані ўпала басаножка. Алег, не падумаўшы, нахіліўся падняць — і доўгая сукенка дзяўчыны, пашытая па апошняй модзе, апынулася ў балотнай ціне. Тады Аня нічога не сказала, а праз год, калі яна, студэнтка першага курса тэхналагічнага інстытута, зноў прыехала да бабулі, параіла Алегу займацца цяжкай атлетыкай, каб больш не выпускаў яе з рук. Тады Алег прыняў гэтыя словы за жарты, а цяпер зразумеў (да чаго толькі не дадумаецца няўдачнік кахання!), што яна не жартавала.

“Мабыць, і не толькі сукенка была вінаватая ў нашым разрыве”, — думае Алег Іванавіч.

А дзень той і сапраўды быў незвычайны.

Аня, ніколькі не саромеючыся (ведама ж — гарадская), скінула сукенку, застаўшыся ў купальніку. Алег, хлопец сціплы і сарамлівы, глянуў на свае мокрыя амаль да пояса штаны і не ведаў, што рабіць. Усё ж рашыў паказаць, што і ён не з глухой вёскі, а ў цэнтры рэспублікі вучыцца, — нясмела расшпіліў гузікі…

З хвіліну яны ляжалі моўчкі. Потым Аня павярнулася да хлопца і запытала:

— А ты будзеш мяне кахаць усё жыццё?

— Абавязкова, любая. Вось пабачыш…

Іх вусны спляліся ў доўгім-доўгім пацалунку…

Успаміны, успаміны…

Алег Іванавіч раптам падхапіўся з сырой травы: па целе прайшлі дрыжыкі, пачаўся кашаль — даўняя прастуда ўзяла сваё.

У той жа вечар яго забрала “хуткая дапамога”.

Калі апрытомнеў, то ўбачыў, што знаходзіцца ў бальнічнай палаце. Ля ложка на ўслончыку сядзіць маці, накінуўшы на плечы белы халат.

— Мама! Добрай раніцы! А… Якое сёння чысло?.. Забыў…

— Дваццаць сёмага чэрвеня.

— Чэрвеня?! А пісем няма?

Маці ў адказ расплакалася…

1978 г.

№ 47 26 лістапада 2010 г. ЛіМ

# Не зарасце сцяжына

Каб пералічыць помнікі пісьменніку Уладзіміру Караткевічу, якія ўсталяваны на яго радзіме, у Беларусі, у адрозненне ад помнікаў былым правадырам, тут і пальцаў адной рукі будзе занадта. Але ж, пагадзіцеся, ён неймаверна больш прыклаў намаганняў, моцы, цярпення, таленту, каб адрадзіць, занатаваць, увасобіць у рукапісах і кнігах нашу гісторыю, побыт, наша жыццё.

З аднаго боку, можа, гэта і правільна, бо чым рэч менш тыражаваная, так бы мовіць, не канвеерная, тым большую каштоўнасць яна ўяўляе. З другога боку, раней мы жылі ў адной краіне, была адна партыя, адна ўлада… адны загады і герайчныя камуністычныя постаці. Але ж прамінуў той час, і цяпер мы, зноў-такі, адзіная, ні да каго не падобная, самабытная краіна ва ўсім свеце — Беларусь. І, можа, надышоў ужо час, каб помнікі, назвы вуліц і плошчаў ва ўсіх, без выключэння, нашых мястэчках, раённых, абласных цэнтрах і сталіцы насілі назвы не нейкіх там фантомных, недатычных да нашых рэалій асоб, а сваіх, тутэйшых. А то што ні горад, дык нібы трапляеш у своеасаблівую матрыцу, маю на ўвазе ўсё тыя ж азначэнні вуліц, як у вядомай аднайменнай сіквельнай кінастужцы.

І хіба нам няма каго прадставіць і ўвекавечыць, а тым самым вярнуць хоць частку гісторыі ў вядомых постацях нашых землякоў? Прыкладаў процьма: ад Беларусі да Чылі, і далей за паўзямлі зноў да Беларусі. Мы вельмі шчодра адорваем выхадцамі з нашых зямель іншыя краіны свету, часам нават не задумваючыся, а мо і не ўсведамляючы іх унёсак у скарбніцу культуры, гісторыі, палітыкі іншых дзяржаў…

Адзін з адметных помнікаў Уладзіміру Караткевічу ўсталяваны, акрамя яго радзімы — Оршы, у скверы па вуліцы Суворава ў Віцебску. Такі цудоўны падарунак гораду ў 1994 годзе зрабілі яго жыхары: скульптар Іван Казак і архітэктар Валерый Рыбакоў. На помніку занатавана філасофска-рамантычная назва яго зборніка вершаў і паэм "Быў. Ёсць. Буду.". Штогод у дзень народзін творцы прыхільнікі яго творчасці прыносяць сюды жывыя кветкі. Тут традыцыйна праходзіць прысвечанае яму літаратурнае свята, ініцыятарам якога з'яўляецца віцебскі паэт Давід Сімановіч. Пісьменнікі дэкламуюць творы з багатай паэтычнай і празаічнай спадчыны Уладзіміра Караткевіча, чытаюць уласныя вершы, прысвечаныя яму.



Адзінаццаць год таму была заснавана абласная літаратурная прэмія імя У. Караткевіча. Але з 2004-га на працягу чатырох гадоў па розных прычынах яна не ўручалася. У 2008 годзе яе аднавілі. Яна таксама ўручаецца ў дзень нараджэння пісьменніка. Тады яе лаўрэатамі сталі: у намінацыях "Паэзія" Надзея Салодкая, "Проза" — Барыс Бележэнка, Фёдар Палачанін і Генадзь Пацыенка. Было вырашана, што прэмія будзе прысуджацца раз на два гады. Так што сёння мы даведаемся, хто стаў яе лаўрэатамі.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: помнік Уладзіміру Караткевічу ў Віцебску.

Фота аўтара

# Іспыты музыкай і сцэнай

Творчасць Уладзіміра Караткевіча неаднойчы прываблівала рэжысёраў тэатра і кіно, натхняла кампазітараў на працу ў розных жанрах: з'яўляліся оперы, напоўненыя музыкай радыёспектаклі, харавыя партытуры...

Быў 2004 год;не чакаючы юбілейнай даты з дня нараджэння У. Караткевіча, Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга прадстаўляў прэм'еру сваёй унікальнай праграмы "Паэт Уладзімір Караткевіч. Новыя песні". Што ж надавала ёй унікальнасць? Да таго часу ніхто дакладна і не высветліў, колькі песень было створана на вершы Караткевіча: ці адна, ці дзве. У параўнанні з песеннай анталогіяй на вершы іншых класікаў беларускага паэтычнага слова гэта, лічы, нішто. Тады Міхаіл Фінберг і стаў ініцыятарам новага праекта...

Сёлета аркестр разам са сваім маэстра прэзентаваў сталічнай публіцы прэм'еру вялікай праграмы "Кветка сонца Уладзіміра Караткевіча", складзенай з амаль трох дзясяткаў песень на вершы нашага цудоўнага паэта і прысвечанай 80-годдзю з дня яго нараджэння. Аўтары музыкі — кампазітары Э. Зарыцкі, В. Сярых, А. Елісеенкаў, А. Атрашкевіч, а таксама скрыпачка аркестра А. Навуменка. Канцэрт прайшоў з аншлагам, гледачы авацыяй віталі фінальную песню "Зямля дзядоў", якую выканаў Мікалай Скорыкаў і падтрымалі ўсе салісты. Яе аўтар, народны артыст Беларусі Эдуард Зарыцкі, які стварыў для гэтай праграмы цыкл з 12 рознахарактарных песень, расказаў: "Паэзія Караткевіча, напоўненая вельмі самабытнай вобразнасцю, своеадметнай філасофіяй — надзвычай складаная для ўвасаблення ў жанры эстраднай песні. Вось такая "не-песеннасць" выдатных паэтычных тэкстаў і сталася прычынай надзвычай рэдкага звароту кампазітараў да яго творчасці. Перачытваючы ўсю выдадзеную паэзію Караткевіча, я быў настроены на тое, каб знайсці ў ёй самыя песенныя строфы і працаваць з імі. У выніку многае з яго ранніх вершаў арганічна легла на музыку. Хвалявала адно: ці ўспрымуць маладыя спевакі сам змест, разуменне якога вымагае пэўнага творчага і жыццёвага досведу? Але дзякуючы індывідуальнай выканальніцкай манеры салістаў Нацыянальнага канцэртнага аркестра ў кожнай песні акрэсліўся свой характар, сучасны стыль, раскрыўся няпросты сэнс Караткевічава слова. Публіка ў той вечар сабралася невыпадковая, неабыякавая да роднага слова, да беларускай культуры. Прыемна, што адбылося свята, на якое сабраў усіх нас адзін вялікі чалавек — Уладзімір Караткевіч".

Караткевіч быў, ёсць у вершах — Караткевіч ёсць, будзе і ў песнях... А гісторыя пра тое, як няпроста, часам пакутліва і драматычна стасуецца вобразны свет яго творчасці з рознымі відамі мастацтва, можа стаць асновай грунтоўных даследаванняў. Не сакрэт жа, што захапляльнай Караткевічавай прозе не надта шанцавала з экранізацыямі



("Дзікае паляванне караля Стаха" рэжысёра В. Рубінчыка, "Чорны замак Альшанскі" М. Пташука не зрабілі чаканай сенсацыі ў айчынным кіно). Складанасці спадарожнічалі пастаноўкам п'ес "Званы Віцебска", "Маці ўрагану", "Кастусь Каліноўскі", "Калыска чатырох чараўніц" у драматычных тэатрах. (Дарэчы, сёе-тое можна пачытаць пра гэта ва ўспамінах В. Мазынскага, колішняга галоўнага рэжысёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, змешчаных у "ЛіМе" 4. 09. 1987 г.) ... Аднак творы У. Караткевіча паўстаюць ва ўсё новых сцэнічных версіях. Апошнім часам гэта "Дзікае паляванне караля Стаха" і "Сны аб Беларусі" (паводле "Калыскі чатырох чараўніц") у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, "Легенда пра беднага д'ябла..." у НАДТ імя М. Горкага, "Каласы пад сярпом тваім" у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, "Дабравесце ад Уладзіміра" і "Нобіль — Барвяны Уладар" Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч"...

Яго прозе пашчасціла на Беларускім радыё — у пастаноўках з удзелам выбітных акцёраў, якія данеслі да слухача тонкі смак Караткевічава слова: падзеяй сталіся і цудоўная мініяцюра "Сіняя, сіняя...", і "Паром на бурнай рацэ", і "серыялы" — "Чорны замак Альшанскі", "Каласы пад сярпом тваім" (рэжысёр і акцёр Валерый Анісенка спрычыніўся да гэтай пастаноўкі задоўга да спектакля ў РТБД, а кампазітар Алег Залётнеў як аўтар арыгінальнай музыкі паспрыяў стварэнню ў эфіры трапнай псіхалагічнай атмасферы).

26 лютага 1963 г., у свой чарговы "дзень нараджэння", газета "ЛіМ" змясціла пад назвай «Прывіды знікаюць» два раздзелы з новай аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Праз 26 гадоў мы віталі на старонках "ЛіМа" новы спектакль нашага тэатра оперы і балета — "Дзікае паляванне караля Стаха". Гэтая опера, створаная кампазітарам Уладзімірам Солтанам на лібрэта Святланы Клімковіч, пастаўленая пад музычным кіраўніцтвам Я. Вашчака рэжысёрам В. Цюпам і сцэнографам Э. Гейдэбрэхтам, 21 год не сыходзіць з афішы, бо выклікае глядацкую цікавасць! Група яе пастаноўшчыкаў і ўдзельнікаў адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Мяняліся дырыжоры, артысты; адзін з першых выканаўцаў, В. Скорабагатаў, сёння дапамагае спектаклю захаваць "рэжысёрскую форму".

Опера "Сівая легенда", створаная Д. Смольскім на лібрэта самога У. Караткевіча, паводле якой, дарэчы, быў зняты тэлефільм, даўно пакінула сцэну. Праўда, як паведаміла кіраўніцтва НАВТ оперы і балета Беларусі, Дзмітрый Смольскі актыўна працуе цяпер над новай рэдакцыяй "Сівой легенды"...

З біяграфіі У. Караткевіча вядома, што ў студзені 1973 г. ён завяршыў лібрэта балета "Кастусь Каліноўскі". Яно марнее... у чаканні свайго кампазітара?

Святлана БЕРАСЦЕНЬ



На здымках: сцэны са спектакляў "Каласы пад сярпом тваім" у РТБД і "Сны аб Беларусі" на Купалаўскай сцэне.

Фота Аляксандра Дзмітрыева

## Радуемся разам

Жыццё апостала — гэта жыццё з паходняй у руках. Яго наканаванасць — не даць цэламу пакаленню знікнуць ці прайсці ў заняпад. Свята Караткевічавай паходні дазваляе нам сёння ўглядацца ў жыццё яе гаспадара, спасцігаючы яго захапленні. Каралева-музыка — адно з малавядомых захапленняў Караткевіча. Каралева-музыка ўзыходзіць на трон… Так можна пазначыць ідэю праграмы "Апостал", падрыхтаваную да 80-годдзя сама-ахвярнага беларуса-рамантыка Ансамблем салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Першы прэм'ерны паказ адбыўся 23 лістапада ў Белдзяржфілармоніі, у Малой зале імя Р. Шырмы. Сёння ўвечары тут, у атачэнні юбілейнай мастацка-дакументальнай выстаўкі, зноў прагучыць праграма "Апостал": творы С. Манюшкі, А. Янчанкі, С. Бельцюкова, Г. Гарэлавай, В. Кузняцова, музыка з сюіты "Полацкі сшытак", паэзія У. Караткевіча... Мастацкі кіраўнік праекта — Віктар Скорабагатаў, аўтар сцэнарыя — Ірына Дубянецкая.



Да 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча на яго радзіме, у Оршы, ладзіцца шмат разнастайных мерапрыемстваў: літаратурна-музычныя гасцёўні, літаратурныя гадзіны і вечарыны, кніжныя выстаўкі, падвядзенне вынікаў гарадскіх конкурсаў дзіцячых малюнкаў, літаратурна-мастацкіх твораў, прысвечаных пісьменніку… А ў Аршанскай гарадской мастацкай галерэі В. Грамыкі экспануецца выстаўка работ дваццаці васьмі членаў Беларускага саюза мастакоў пад назвай "Зямля пад белымі крыламі". Увазе наведвальнікаў — ілюстрацыі да твораў У. Караткевіча, пейзажы, партрэты, габелены, гравюры, афорты, скульптуры… Сярод мастакоў, якія прадставілі свае творы, Арлен Кашкурэвіч, Леў і Сяргей Гумілеўскія, Алег Кірушкін, Мікола Купава, Віктар Мікіта, Станіслаў Кузьмар…

З нагоды юбілею Уладзіміра Караткевіча Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа пасля трохгадовага перапынку аднавіў спектакль "Ладдзя роспачы" паводле аднайменнай рамантычнай легенды пісьменніка ў пастаноўцы Міхася Краснабаева. Прэм'ерны паказ адбыўся пятага лістапада і стаўся своеасаблівым падарункам М. Краснабаеву, бо менавіта ў гэты дзень ён адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе і дваццаціпяцігоддзе сваёй творчай дзейнасці.

Гэтымі днямі аршанская і віцебская публіка знаёміцца з узноўленым спектаклем. Усяго ў "Ладдзі роспачы" занята больш як дваццаць чалавек. Галоўную ролю Гервасія Выльвахі выконвае Аляксандр Базук. Ролю Бярозкі — Юлія Крашэўская ды Ірына Цішкевіч, Смерці — Алена Шарэбчанка ды заслужаная артыстка Беларусі Таццяна Ліхачова. У планах тэатра — у наступным годзе інсцэніраваць раман Уладзіміра Караткевіча "Нельга забыць".

Лана ІВАНОВА,
Віктар ЗАЯЦ

На здымку: Міхась Ляўковіч "Караткевіч. Праз вечнасць".

Фота Віктара Кавалёва

# У люстэрку экрана

## Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад-2010»: кіно як рэлігія без маралі



Міжнародныя і нацыянальныя фестывалі сёння адзін з галоўных спосабаў данесці фільм да гледача. Кінатыдзень ММКФ "Лістапад" дазваляе структураваць цікавасць публікі, вылучыць важнае, зафіксаваць відавочныя тэндэнцыі альбо заўважыць нейкія новыя кірункі, а бывае, і падштурхнуць да іх нараджэння. Фестываль дэманструе, што ў сусветным кінематографе з'яўляецца актуальным і цікавым, у якім напрамку ідзе мастацкі пошук. Гэта цудоўная школа для маладых кінематаграфістаў, а таксама сур'ёзная загартоўка для гледачоў як удумлівых суразмоўцаў. Хоць "Лістапад" не ставіць перад сабой амбіцыйных мэт, але адыгрывае ўсё больш значную ролю ў кінапрацэсе — як месца, дзе сустракаюцца прафесіяналы; прадметам іх размоў з'яўляецца мастацтва.

Многае з фестывальнага рэпертуару не сустрэць на афішах кінатэатраў, у пракаце, так што нашы гледачы маюць магчымасць паглядзець стужкі, вартыя ўвагі як з'явы мастацтва, зробленыя таленавітымі рэжысёрамі. Скіруем увагу на сёлетнюю праграму асноўнага конкурсу, у якім было прадстаўлена 12 стужак з краін былога СССР.

"Золатам" сёлетняга "Лістапада" ўзнагароджаны фільм "Шчасце маё" (Украіна, рэж. Сяргей Лазніца), які выклікаў буру эмоцый, спрэчкі, нават негатыўныя ўражанні многіх гледачоў. Гэта першы іграві фільм дакументаліста, які дзесяць гадоў ездзіў па Расіі, ды не па мясцінах для адпачынку і турызму, і бачыў не толькі фасад гарадоў — таму ён дасканала ведае, як жывуць людзі ў тамтэйшай правінцыі. Абмеркаванне фільма з гледачамі паказала, што не ўсе гатовыя ўспрымаць рэальнасць такой, якой яе прадстаўляе Сяргей Лазніца, — як "імклівую дэградацыю і выміранне той прасторы, якая кажа мовай "Катлавана" Андрэя Платонава".

На экране герой-дальнабойшчык перажывае моцнае экзістэнцыяльнае ўзрушэнне, якое трансфармуе яго асобу, разбурае яго свядомасць. Несправядлівасць, жорсткасць робяць шараговага чалавека зомбі-забойцам, бо свой цяжар і боль ён ужо не можа выказаць інакш. Шыза. Пастка. Чорная дзірка. Загнаны звер, што кусае ўсіх запар. З гэтага лабірынту няма выйсця. Разам з памяццю і ўласным імем ён страчвае паняцце пра справядлівасць, больш не бачыць розніцы паміж дабром і злом. У словах яго апошняга спадарожніка "не лезь" заключаецца адзіная філасофія гэтых людзей. А міласэрнасць, імкненне да дабрыні, неабыякавасць успрымаюцца імі як штосьці кшталту злачынства, вартае жорсткай кары. Татальная блытаніна паняццяў.

Зло ў фільме бязглуздае і бессэнсоўнае, нясцерпна прыкрае і жудаснае ў сваёй неразборлівасці. Зло без спачування і дакораў сумлення апаноўвае без нагоды і не пакідае надзеі для паратунку. Аўтар разбурае міф пра зло, якое яшчэ можна зразумець, даравацъ, абысці і не заўважыць, спрэс адмаўляе сімпатыю да злачынцы — г. зв. "стакгольмскі сіндром".

Фільм "Прагульшчыкі" (Грузія, рэж. Леван Кагуашвілі). Немаладога беспрацоўнага наркамана Чэкі пад страхам дзесяцігадовага турэмнага зняволення прымушаюць "падставіць" юнака, сына вядомага палітыка, даць яму дозу і здаць карумпаваным паліцэйскім. Чэкі, які мае адчайную патрэбу ў грошах, спачатку згаджаецца, але потым спрабуе змяніць сваё рашэнне.

Англамоўны варыянт назвы "Street Days" ("Дні на вуліцах") больш адпавядае характару фільма, кінакамера знаходзіць персанажаў проста на вуліцах Тбілісі, ствараючы атмасферу хаатычнага і жывога грузінскага горада. Дзесьці ціха грае саксафон, пакуль перад вачамі паўстае штодзённая непрычасаная рэальнасць: мужыкі апранаюцца ў зайчыкаў, ваўкоў, мядзведзяў для ўдзелу ў самадзейнай пастаноўцы дзіцячай казкі, настаўніца на ўроку гісторыі распавядае пра выкраданне дзяцей з мэтай узяць выкуп з іх бацькоў, школьнік выкрадае пісталет у бацькі… Такіх гісторый шмат, але галоўная ўвага сканцэнтравана на лёсе "страчанага пакалення" – тых, каму ў час распаду СССР было дваццаць. Былыя аднакласнікі сустракаюцца пад вокнамі школы, прыносяць грошы і аддаюць Чэкі, каб ён дастаў чарговую дозу. Іх сходкі заўжды суправаджаюцца нервовымі крыкамі выкладчыцы-дырэктрысы, якая высоўваецца з акна і гоніць прэч сваіх былых вучняў, так і не здолеўшы іх чамусьці навучыць. Нібы на іх загадзя пачапілі цэтлікі пра нягоднасць. Маргінальныя істоты, выпалыя з жыцця, не змаглі зразумець, што ў гэтым жыцці да чаго, і прыстасавацца да сённяшніх рэалій. Унутраная драма гэтых немаладых людзей трансфармуецца ў цяжкую залежнасць ад наркотыкаў. І галоўны герой Чэкі выглядае гранічна бездапаможным у адносінах з былой жонкай, сынам, з самім сабой.






У сучасным свеце бывае цяжка ўсвядоміць і раскрыць свае таленты і маладому пакаленню. У стужцы "Усходнія п'есы" (Балгарыя, рэж. Камен Калеў) паказаны тыя ж праблемы ўжывання наркотыкаў і цяжкасці самавызначэння. Кампанія падлеткаў-неанацыстаў жорстка збівае турка на вачах у яго жонкі і дачкі. У гэтым хуліганскім нападзе ўдзельнічае Георгій, які падчас бойкі нечакана сустракае роднага брата Іцу, з якім не бачыўся шмат гадоў. Іца дапамагае турэцкай сям'і, тэлефануе ў "хуткую дапамогу", потым прыходзіць у бальніцу і падтрымлівае пацярпелую дзяўчыну, якая, да таго ж, вельмі падабаецца яму. Такім чынам, браты апынаюцца па розныя бакі барыкад. Турэцкая сям'я вырашае вярнуцца на радзіму, а браты ўсведамляюць, што толькі разам яны зразумеюць свае жыццёвыя мэты. На маю думку, нездарма ў сцэнарыі фільма фігуруюць менавіта браты — родныя людзі, крывінкі. Так склаліся абставіны, што ўжо некалькі год яны жылі паасобку і не сустракаліся. Раз'яднаныя, браты згубілі цэласнасць сваёй натуры, страцілі жыццёвыя арыенціры, падаліся ў бок агрэсіі і наркаманіі, і толькі разам яны вяртаюцца да сябе, у тое, што сапраўды мае сэнс. Адно з дасягненняў гэтага фільма — выдатная роля галоўнага героя. Графічная тонкасць малюнка ролі Іцы даецца непрафесійнаму акцёру Хрыста Хрыставу інстынктыўна. На жаль, акцёр памёр пасля здымак.

Нагадаю, што на леташнім "Лістападзе" балгарская стужка "Свет вялізны і паратунак хаваецца за вуглом" Стэфана Камандарова атрымала галоўны прыз паводле вынікаў глядацкага галасавання.

Цікавасць выклікалі сёлета і расійскія стужкі "Іншае неба" Дзмітрыя Мамулія і "Зваротны рух" Андрэя Сцяmisspelled

Тэму сляпога лёсу працягвае фільм А. Сцямпкоўскага "Зваротны рух". У цэнтры гэтай экзістэнцыяльнай драмы — Маці і Сын. Аднойчы жанчына атрымлівае вестку, што яе адзіны сын, які служыць у "гарачай кропцы", прапаў без вестак. Яго сябра нібыта бачыў гібель аднапалчаніна. Адкрытае мацярынскае сэрца не можа абмінуць бяздомнага хлапчука-гастарбайтара, з пакалечанай рукой і, здаецца, лёсам. Маці бярэ яго да сябе жыць і на метафізічным узроўні запускае нейкі жорсткі механізм лёсу. Нібы робіць выбар не на карысць роднага сына. Сын вяртаецца, жывы, усё нібы як заўсёды, сняданак, позіркі, размовы, але нешта змянілася, і ўсе гэта адчуваюць. Маці спрабавала пакінуць хлопчыка ў парку, але не змагла — адмовіцца ад сваёй долі немагчыма. Гэты фільм — яшчэ адзін напамін і пра тое, што вайна, якая робіцца звыклай з'явай, не мае сэнсу…

Марына ДОЎГЕР

На здымках: кінарэжысёр Сяргей Лазніца; рэжысёрскі майстар-клас Эміра Кустурыцы; фестывальная ўрачыстасць.

Фота Аляксандра Дзмітрыева

(Працяг нататак з кінафестывалю "Лістапад-2010" у наступных нумарах "ЛіМа")

# Сонечны дар Азербайджана



Рэпертуар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра ўпрыгожыла ўнікальная ў сваёй экзатычнай прыгажосці, яркая і вытанчаная кветка: "Аршын мал алан". Мінская прэм'ера гэтага твора класіка азербайджанскай музыкі Узеіра Гаджыбекава сталася значным і паспяховым супольным міжнародным культурным праектам Азербайджана і Беларусі. Напісаная кампазітарам паводле яго ж лібрэта ў 1913 годзе, неўміручая музычная камедыя ставілася з таго часу ў 187 тэатрах 76 краін, у перакладзе на 75 моў. У нас яна ідзе на рускай мове, у пастаноўцы галоўнага рэжысёра Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Хафіза Гуліева, балетмайстра — народнай артысткі Азербайджана Медзіны Аліевай, іх беларускіх калег — дырыжора Марыны Трацяковай, сцэнографа Любові Сідзельнікавай (ідэя мастацкага вырашэння належыць Юсіфу Такеру, Турцыя).

Многія сотні кіламетраў пралягаюць між нашымі краінамі; мноства характэрных адметнасцей, самабытных традыцый і звычаяў адрозніваюць нашы народы. Але беларусаў і азербайджанцаў звязваюць даўнія сімпатыі, сяброўства ў галіне культуры, партнёрскія стасункі ў эканамічнай дзейнасці. Тое, што сёлета ў сферы музычна-тэатральнай культуры ажыццёўлены не традыцыйны абмен, а першы за ўсю гісторыю беларуска-азербайджанскіх адносін супольны творчы праект, — яскравае сведчанне нашага зацікаўленага руху насустрач адно аднаму. Нездарма кажуць: мастацтва — спрадвечны і самы надзейны дыпламат, пасол міру, узаемаразумення, сяброўства.

Душэўная шчодрасць, дружалюбнасць і ўзаемадапамога, прыгажосць і глыбіня пачуццяў, дабрабыт у доме і сямейнае шчасце, простая радасць далёка не бясхмарнага жыцця, усюдыісны выратавальны гумар — вось тая канстанта агульначалавечых каштоўнасцей, закладзеная ў музычнай камедыі "Аршын мал алан", якая не мае патрэбы ў перакладзе. А яркі ўсходні каларыт партытуры аркестра і вакальных партый мае для нашай публікі асаблівую прыцягальнасць. Самі выканаўцы, якія спачатку "камплексавалі" перад нязвыклай эстэтыкай твора, хутка ўлюбіліся ў прыгожую музыку, у яе сонечную пачуццёвасць, інтанацыйную свежасць, імпульсіўную рытміку...

Падчас прэс-канферэнцыі з удзелам саветніка Пасольства Азербайджана ў Беларусі Заура Шукюрава, рэжысёра-пастаноўшчыка спектакля Хафіза Гуліева і яго беларускіх партнёраў абмяркоўваліся асаблівасці мінскай пастаноўкі, якая, дарэчы, азнаменавала 125-годдзе з дня нараджэння Узеіра Гаджыбекава. І ў адным з наступных нумароў "ЛіМа" мы пагаворым пра гэтую прэм'еру.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: артыст БДАМТ Сяргей Спруць, саветнік Пасольства Азербайджана ў Беларусі Заур Шукюраў і заслужаны дзеяч мастацтваў Азербайджанскай Рэспублікі Хафіз Гуліеў.

Фота Віктара Кавалёва




## Слова краязнаўцы



Сяргей Панізнік з Міёршчыны разважае пра шляхі захавання непаўторнасці і пабытавых скарбаў рэгіёна:

— Родная зямля на падкове Дзвіны… Там глыбіня ракі — духоўнай артэрыі трох народаў — і этнаграфічная глыбіня, нязніклыя вывы гісторыі, помнікі працы, старонкі радаводаў, згукі народнай памяці, нястрачанае натхненне рупліўцаў.

Каб захаваць непаўторную ідэнтычнасць, нацыянальную адметнасць пабытавых скарбаў глыбінкі, і стваралісь мае музеі — "На Шляху з Грэкаў у Варагі" ("Хата бабкі Параскі") у вёсцы Цінкаўцы Верхнядзвінскага раёна (1979) і Музей радзімазнаўства і яго філіял "Хата бабкі Ядзвінні" ў мястэчку Лявонпаль Міёрскага раёна Віцебскай вобласці (1999). Бо кожная Хата — не толькі жыллё. Гэта — сусвет. Хацелася "агучыць" парог, покуць, маціцу, бажніцу для сакральных агледзін чалавечага быцця.

Хата бабкі Параскі, дзе гаспадыня пакінула мне ручнік-абярэг з вывямі русалляў XII ст. і ідыяграмай вады (памяць эпохі неаліту), стаў мне прыстанкам для наведвання жыхароў Асвейшчыны, каб распытаць для сваёй кнігі яшчэ жывых вязняў Саласпілса, Майданака, Равенсбрука… Тут начавалі "тры народы" — удзельнікі экспедыцыі па Дзвіне — Даўгаве ад вытока да вусця. Зараз, каб пабачыць экспанаты (і пра Яніса Райніса, які спыняўся ў недалёкім Бігосаве), трэба дазвол памежнікаў. А вось былую графскую рэзідэнцыю Лапацінскіх, даўнія царкву, школу, Еўфрасіннеўскі крыж, Калону ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года, музей і яго філіял можна агледзець штодня. Толькі трэба загадзя папярэдзіць загадчыцу Лявонпальскага сельскага цэнтра культуры і вольнага часу Таццяну Кліманскую.

У музеі здзівіць вас не толькі драўляны ровар. Экспанаты нагадваюць пра сувязі Лявонпаля з Расіяй, Латвіяй, Літвой, Польшчай, Францыяй.

У "Хаце бабкі Ядзвінні" можна і жорны пакруціць. А ўзоры на ходніку-палавіку з арыйскімі сімваламі не дадуць забыцца, што мы пра-прапраіндаеўрапейцы. Падрыхтаваў я і дыскі з аўтэнтыкай. У 1968—1969 гг. запісаў ад сваіх землякоў народныя песні гадавога цыкла (асабліва гучанне валачобных, вясельных мелодый!).

Удзячны турботам Таццяны Кліманскай, усім "саўтарам" у выяўленні скарбаў. І асабліва мастаку, краязнаўцу Аляксандру Аніськовічу з Віцебска. Яго ўнёсак у аздобу музеяў і ўсяго Лявонпаля невымерны.

## Сцяжынкамі Язэпа

140-я ўгодкі заснавальніка Слонімскага краязнаўчага музея, археолага, гісторыка, вайскоўца, аднаго са знакамітых слонімцаў XX стагоддзя Язэпа Стаброўскага прыйшліся на пачатак лістапада.

Супрацоўнікі раённага краязнаўчага музея, які сёння носіць імя Язэпа (Іосіфа) Стаброўскага, наведалі яго магілу, упарадкавалі яе. Да юбілею ў музеі была арганізавана прэзентацыя-выстава экспанатаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю заснавальніка музея: 55 архіўных здымкаў сям'і Стаброўскіх, зробленых падчас яго службы ў арміі, і іншыя цікавыя матэрыялы. А потым сумесна з калектывам Цэнтральнай раённай бібліятэкі ладзілася вечарына памяці.

Галіна РАМАНЧУК

## Музейны ўнікат

# Рэчы, дарагія Караткевічу

26 лістапада Аршанскі музей Уладзіміра Караткевіча, філіял Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны, адзначае сваё дзесяцігоддзе. Яго адкрыццё адбылося ў 2000 г. і было прымеркавана да 70-гадовага юбілею пісьменніка. За час працы музея супрацоўнікамі сабраны рарытэтны і пакуль адзіны на Беларусі "Фонд У. С. Караткевіча", які ўключае больш як тысячу прадметаў. Гэта арыгінальныя дакументы, фотаздымкі, лісты да вядомых людзей, арыгінальныя рукапісы самога пісьменніка, аўтабіяграфія У. С. Караткевіча, яго сяброўскія шаржы, малюнкі, кнігі з дароўнымі подпісамі, асабістыя рэчы пісьменніка, успаміны людзей, якія яго ведалі, шматлікія архіўныя матэрыялы. Увазе чытачоў "Зямлі пад белымі крыламі" прадстаўляем унікальныя прадметы з фонду Аршанскага музея У. Караткевіча, што былі асабліва дарагімі Уладзіміру Сямёнавічу.

### Самавар-вандроўнік

Нястомны вандроўнік, Уладзімір Караткевіч аб'ездзіў усю Беларусь, ведаў кожны яе куточак. Адвандраваў па блакітных рэках, па шырокіх гасцінцах, па ледзь прыкметных утравелых ці тонкіх сцежках. Ён пісаў: "Я аб'ездзіў на Беларусі амаль усё. Няшмат засталося нават глухіх куткоў, дзе я не пабываў бы, таму я насмельваюся сказаць, што ведаю сваю краіну і яе людзей. І ўсё-ткі якое ахоплівае хваляванне, як б'ецца сэрца ў прадчуванні разгадкі чарговай таямніцы". З вандровак ён прывозіў новыя задумы, тэмы і новыя творы.

А яшчэ — сувеніры і розныя цікавыя рэчы: прыгожыя каменьчыкі, старажытныя сякеры, дэкаратыўныя кубкі і іншае.



Аднойчы з падарожжа па Беларусі Уладзімір Караткевіч прывёз стары самавар вельмі рэдкай формы. Ён быў з жоўтага металу, меў эліпсавідны корпус на чатырох выгнутых ножках і з выгнутай ручкай, дзвюма адтулінамі ў ім (адна для вады, другая для вуглёў ці трэсак) і ўзорным паддуваам унізе.

Пазней ніводнае падарожжа пісьменніка не абыходзілася без гэтага самавара. Ён добра падыходзіў для вандровак — невялікі, зручнай формы, лёгкі, у ім хутка награвалася вада, яго можна было проста паставіць на агонь ці нагрэць кіпень з дапамогай трэсак. А летам, падчас падарожжаў, пісьменнік любіў заварыць гарбату з духмянымі зёлкамі, сабранымі на лузе.

Самавар захоўваўся ў кватэры У. Караткевіча ў Мінску і быў перададзены ў музей пісьменніка яго сястрой Наталляй Кучкоўскай. Зараз яго можна ўбачыць у пастаяннай экспазіцыі Аршанскага музея У. Караткевіча.

### Напамін з дзяцінства

Два дзіцячыя малюнкі і дзіцячы ліст Уладзіміра Караткевіча — адзінае, што захавалася з дзяцінства пісьменніка, якое было апалена вайной. У 1944 годзе сям'я вярнулася з эвакуацыі ў Оршу на папялішча. Разам з домам згарэлі любімыя кніжкі, цацкі, першыя вершы.

Малюнкі і ліст Валодзя адрасаваў сваёй любімай цётцы Жэні (Усюкевіч Яўгеніі Васільеўне, сястры маці), якая тады жыла на Далёкім Усходзе. Датуюцца яны 1940 годам. Валодзю ў той час было дзесяць. Ён вельмі любіў маляваць, і гэта ў яго добра атрымлівалася. Адзін малюнак — гумарыстычны, на ім хлопчык намаляваў сябе ў вобразе парасяці. На другім, па меркаваннях сястры Наталлі, намалявана іх новая хата, пабудаваная ў 1939 годзе. Цётка Жэня не бачыла яе, таму Валодзя зрабіў для яе малюнак. У лісце хлопчык распавядаў цётцы аб сваіх школьных справах, расказваў пра кацяня Кінулі, якога ім падкінулі. На адваротным баку ліста быў зроблены графічны малюнак. На ім маленькія чалавечкі, якія любіў маляваць хлапчук, загаралі, плавалі, ныралі з моста ў раку.

Цётка Жэня вельмі любіла пляменніка і доўгія гады захоўвала тое, што ён дасылаў. Пазней яна ўсё перадала Наталлі Сямёнаўне, а тая, з часам, — у Аршанскі музей Уладзіміра Караткевіча.

Вольга ПАШКОВІЧ

На здымку: самавар Уладзіміра Караткевіча.

# Галасы гарадзенскай гісторыі

**У Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Яўхіма Карскага прайшоў "круглы стол" "Развіццё краязнаўства на Гродзеншчыне: праблемы і перспектывы", на якім, каб абмеркаваць актуальныя праблемы розных кірункаў краязнаўства, сабраліся вядучыя навукоўцы і аматары-краязнаўцы Гродна.**

"У кожнай, нават самай маленькай вясковай бібліятэцы збіраецца і апрацоўваецца, папулярызуецца краязнаўчая інфармацыя, вядзецца праца па напісанні гісторыі вёскі, — падкрэсліла ў прывітальным слове дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага Лідзія Мальцава. — Вядзецца і праца па зборы матэрыялаў пра знакамітых ураджэнцаў краю. Цяпер у абласной бібліятэцы ствараецца электронная паўнатэкставая база "Памяць Гродзеншчыны". Думаецца, яна будзе карысная і чытачам, і краязнаўцам-прафесіяналам у іх далейшых даследаваннях".

З прывітальным словам да ўдзельнікаў "круглага стала" звярнуўся і намеснік начальніка упраўлення культуры Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Сяргей Мацievіч. Ён падкрэсліў, што тэма развіцця краязнаўства на Гродзеншчыне — заўсёды актуальная і значная. Над ёй працуюць навукоўцы, такая праца вядзецца і ўпраўленнем культуры. Так, Сяргей Міхайлавіч расказаў пра краязнаўчы конкурс для вучняў сярэдніх школ Гродзеншчыны "Галасы гісторыі", які раз на два гады праводзіцца сумесна з упраўленнем адукацыі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта. Выступоўца звярнуў увагу і на важнасць публікацыі матэрыялаў "круглага стала", каб вынікі даследаванняў сталі даступнымі ў друкаваным выглядзе не толькі для чытачоў Гродзенскай абласной бібліятэкі, але і іншых бібліятэк.

Падчас работы "круглага стала" яго ўдзельнікі звярталі ўвагу на розныя аспекты краязнаўства. Так, доктар гістарычных навук прафесар Вячаслаў Швед спыніўся на здабытках, праблемах і перспектывах развіцця гістарычнага краязнаўства на Гродзеншчыне. Ён сканцэнтраваў увагу на тым, як даследавалася Гродна раней і што яшчэ трэба зрабіць сучаснікам у гэтым кірунку. Вячаслаў Вітальевіч падкрэсліў, што сёння наспела праблема публікацыі некаторых прац даследчыкаў канца XIX — пачатку XX ст., якія могуць стаць багацейшай крыніцай інфармацыі для навукоўцаў і аматараў даўніны. Да ліку такіх работ можна аднесці кнігу "Гродненская старина" Яўстафія Арлоўскага; рэдкую "Писцовую книгу Гродненской экономии", у якой сабрана шмат матэрыялаў пра Гродна, вуліцы горада, яго жыхароў. Ёсць патрэба надрукаваць і працы вучня Я. Арлоўскага Юзафа Ядкоўскага, які стварыў у Гродне гісторыка-археалагічны музей. Звярнуў Вячаслаў Вітальевіч увагу і на задачы і перспектывы развіцця краязнаўства, у ліку якіх — напісаць фундаментальную гісторыю Гродна, стварыць падручнік па гродназнаўстве для сярэдніх класаў і вучэбна-метадычны комплекс да яго, выдаць новы бібліяграфічны паказальнік "Гродна", рэанімаваць Гродзенскую абласную краязнаўчую асацыяцыю, адначасова Гродзенскае гарадское краязнаўчае таварыства, наладзіць супрацоўніцтва гродзенскіх краязнаўцаў з краязнаўцамі Літвы, Польшчы, Расіі, да гэтага руху прыцягваць калекцыянераў, звярнуць увагу грамадскасці на назвы вуліц, адсутнасць помнікаў і мемарыяльных дошак творцам і знакамітым землякам.

Асаблівасці ўзаемадзеяння археалогіі і краязнаўства адзначыў старшы выкладчык кафедры археалогіі і этналогіі ГрДУ імя Я. Купалы Аляксандр Дабрыян. Ён падкрэсліў, што археалогія бярэ вытокі з краязнаўства. Да вялікага жалю навукоўцаў, і сёння праца многіх краязнаўцаў-археолагаў застаецца невядомай у шырокіх навуковых колах з-за таго, што аматары не валодаюць методыкай фіксацыі месца і ўмоў знаходжання артэфактаў. Амаль кожная школа мае музей, у якім могуць знаходзіцца каштоўныя для навукі прадметы. І праведзенне заняткаў са школьнымі настаўнікамі і краязнаўцамі-аматарамі па працы з археалагічнымі помнікамі часткова дапамагло б вырашыць гэтую праблему.

Кандыдат філалагічных навук прафесар Аляксей Пяткевіч у сваім выступленні разгледзеў спецыфіку, здабыткі і перспектывы літаратурнага краязнаўства. Ён заўважыў, што значны ўздым працы ў гэтым кірунку назіраўся ў сярэдзіне 1960-х і на працягу двух наступных дзесяцігоддзяў. А затым — у канцы 1980-х — адбыўся "абвал", бо гэткі ж абвал пачаўся і ў літаратуры. Таму і літаратурнае краязнаўства, поле яго дзейнасці звужаецца, у той час як роля гістарычнага, экалагічнага і іншых напрамкаў краязнаўства пашыраецца. Але зрухі ў працы ўсё ж адбываюцца: на кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Я. Купалы пачалі выпускаць перыядычны зборнік "Рэгіянальная асаблівасці літаратуры. Пісьменнікі Гродзеншчыны".

На асноўныя кірункі лінгвістычнага краязнаўства, у ліку якіх — складанне слоўнікаў гаворак, лінгвістычных карт і атласаў, збіранне і апісанне анамастыкі і тапанімii, вывучэнне біяграфій і творчай спадчыны асоб, што займаліся лінгвістычным краязнаўствам, звярнуў увагу доктар філалагічных навук прафесар Аляксандр Даніловіч. Пра асаблівасці і новыя метады фарміравання спецыяльных кнігазбораў, стварэнне краязнаўчых бібліяграфічных даведнікаў, здабыткі, планы ў гэтай працы расказала загадчык аддзела краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага Любоў Турмасава.

Падчас "круглага стала" яго ўдзельнікі звярталі ўвагу і на асоб-краязнаўцаў (доктар біялагічных навук прафесар Андрэй Майсяёнак), нявывучаныя магчымасці "негістарычнага" краязнаўства (гісторык архітэктуры Ігар Трусаў), шляхі захавання нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны — абрадаў і традыцыйных танцаў (вядучы метадыст па выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве Гродзенскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці Наталля Пасюта). Кандыдат гістарычных навук дацэнт Віталь Карнялюк падзяліўся прамежкавымі вынікамі даследавання "Па мясцінах Яўхіма Карскага".

Марына ВЕСЯЛУХА

## Да 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны ў Смаргоні з'явіцца буйны мемарыяльны комплекс.

Трагічны лёс Смаргоні ў час Першай сусветнай вайны можна параўнаць з лёсам, які напаткаў Хатынь… У 1915 — 1917-я гады праз горад праходзіла лінія руска-германскага фронту. 810 дзён вяліся тут жорсткія баі, якія ператварылі Смаргонь у руіны, а жыхароў — у бежанцаў (да пачатку вайны насельніцтва горада складала каля 16 тысяч чалавек, а пасля — крыху болей за 100 чалавек). Менавіта тут, у Смаргоні, ваяваў першы ў гісторыі рускі жаночы батальён смерці, а пазней, у пасёлку Солы, што недалёка ад горада, было падпісана мірнае пагадненне. Існуе нават такая прыказка: "Хто ў Смаргоні не бываў, той на Першай сусветнай не ваяваў". Над стварэннем мемарыялу ўжо не першы год працуюць вядомыя беларускія скульптары Анатоль Арцімовіч, Уладзімір Церабун і Іван Арцімовіч.



Скульптары: Анатоль Арцімовіч, Іван Арцімовіч, Уладзімір Церабун.

# Бронзавая памяць Першай сусветнай



Эскіз скульптуры "Крылаты геній салдацкай славы".

### Як узнікла ідэя?

У Смаргонскім краязнаўчым музеі шмат разнастайных экспанатаў, якія нагадваюць пра Першую сусветную вайну. Ідэя стварэння мемарыяльнага комплексу па лініі супрацьстаяння ў 1915 — 1917-х у горадзе Смаргоні бярэ пачатак з даследаванняў палкоўніка запасу Уладзіміра Лігуты.

Палкоўнік доўгі час служыў у Смаргоні начальнікам пагранічнага атрада. Неяк у лесе, каля вёскі Белае, натрапіў на вялікае закінутае вайсковае захаванне (вакол горада каля 70 ваенных магілак, дзе пахаваныя і рускія, і нямецкія салдаты). Пазней ён дасканальна заняўся тэмай Першай сусветнай вайны і выдаў кнігу "У Сморгони под знаком Святого Георгия".

У 2006 годзе Уладзімір Лігута звярнуўся ў Смаргонскі раённы выканаўчы камітэт з просьбай паставіць хоць які-небудзь знак у памяць далёкіх ваенных падзей. У сваю чаргу мясцовыя ўлады папрасілі скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Церабуна, ураджэнца Смаргоні, дапамагчы ў гэтым пытанні. Скульптар прапанаваў паставіць не просты помнік, а стварыць вялікі мемарыяльны комплекс.

Уладзімір Церабун узгадвае:

— Я прапанаваў Смаргонскаму раённаму выканаўчаму камітэту правесці творчы конкурс без грашовых прэмій. Ідэя была падтрымана. Распрацавалі палажэнне аб конкурсе і зацвердзілі яго ў Міністэрстве культуры. Конкурс праводзіўся ў 2006 годзе, і ў гэтым жа годзе падводзіліся вынікі. На ім было прадстаўлена дзевяць праектаў — па адным ад кожнага аўтарскага калектыву. Журы разам з Рэспубліканскім мастацкім саветам па манументальным мастацтве аднагалосна выказалася за зацвярджэнне аўтарскага калектыву на чале са скульптарам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесарам Акадэміі мастацтваў Рэспублікі Беларусь Анатолем Арцімовічам. Пасля гэтага Анатоль Яфімавіч прапанаваў мне як скульптару і ўраджэнцу Смаргоні ўвайсці ў склад творчай групы. Трэцім аўтарам нашага калектыву стаў сын Анатоля Арцімовіча Іван.

— У Беларусі наогул няшмат помнікаў Першай сусветнай вайны. Ёсць, але мала, — расказвае Анатоль Арцімовіч. — Помнікі і абеліскі, прысвечаныя вайне 1914 — 1918 гадоў, ствараліся на аматарскім узроўні. А вось на дзяржаўным узроўні такі праект, як мемарыяльны комплекс у Смаргоні, у Беларусі ствараецца ўпершыню. Пра гэтую тэму сёння забылі. Але чаму? Першая сусветная вайна, можна сказаць, была выціснута з гісторыі спачатку Грамадзянскай вайной, потым Кастрычніцкай рэвалюцыяй, а потым і Вялікай Айчыннай вайной. Але гэтую забытую гістарычную старонку Беларусі павінны ведаць і помніць. Сам горад — сапраўдны музей Першай сусветнай вайны. На яго вуліцах і па сённяшні дзень захаваліся вайсковыя доты. Ім ужо больш за 95 гадоў. Трэба сказаць, што творчая частка мемарыялу ўжо зроблена. Засталося ўладкаванне тэрыторыі і архітэктура. Гэта таксама вельмі складанае пытанне, якое патрабуе значных грашовых сродкаў. 1 мільярд 800 мільёнаў беларускіх рублёў, выдзеленыя на праект Саюзнай дзяржавай, былі затрачаныя толькі на тое, каб адліць скульптуры.

### Якім будзе мемарыял?

Мемарыяльны комплекс па лініі супрацьстаяння ў 1915 — 1917-х у Смаргоні будзе складацца з трох частак.

Першая, галоўная частка мемарыялу размесціцца ў горадзе ў парку Перамогі. Асноўу яе архітэктурнага рашэння складзе алея вербаў праз усю тэрыторыю парку, на якую быццам нанізаныя элементы знакаў памяці. Першае, што будзе перад вачыма — дзве гранітныя заслоны памерам паўтара метра. На іх змешчаны надпісы, адлітыя ў бронзе: на адной — "Мемориальный комплекс по линии противостояния в Первую мировую войну 1915 — 1917 годах в городе Сморгонь", на другой — "Здесь, на Сморгонской земле, 810 дней шли ожесточенные бои между немецкими и русскими армиями. Из 16 000 жителей-беженцев после войны в Сморгонь возвратилось 130 человек".

Крыху далей па алеі размесціцца трохметровая ў дыяметры бронзавая карта ваенных падзей 1915 — 1917 у Смаргоні. Злева і справа ад яе — дзве мемарыяльныя урны з зямлёй з месцаў пахавання салдатаў дзвюх армій — рускай і нямецкай. Побач — дзве гранітныя сцяны памяці. На адной з іх — прозвішчы салдатаў рускай арміі, якія загінулі ў час той вайны (больш за 800 імёнаў). На другім баку, у верхняй частцы сцяны — тэкст на нямецкай мове: "Тут, на Смаргонскай зямлі, пахаваныя тысячы нямецкіх салдатаў і афіцэраў, якія загінулі ў баях жорсткай і бессэнсоўнай вайны ў 1915 — 1917 гадах". Пад тэкстам на сцяне прадугледжана вольнае месца для прозвішчаў нямецкіх салдатаў.



Эскіз скульптуры "Салдаты Першай сусветнай".

— Гэта сімвалічна для двух бакоў, — падкрэслівае Уладзімір Церабун. — Можна сказаць, што адной з галоўных ідэй усяго мемарыялу з'яўляецца зварот да нашчадкаў: "Не трэба вайны!".

Працягне мемарыяльную зону 13-метровая капліца, дзе ў верхняй частцы будзе ўсталяваны звон з Георгіеўскім крыжам. У цэнтральнай частцы кампазіцыі на магутнай глыбе размесціцца шасціметровая скульптура "Крылаты геній салдацкай славы" — помнік абаронцам Айчыны, як сімвал памяці пра тых, хто аддаў сваё жыццё за Радзіму. Дададуць цэнтральную частку дзве бронзавыя скульптуры "Салдаты Першай сусветнай" і "Бежанцы". Тут жа, у самым канцы алеі, мяркуецца паставіць распілаваны на дзве часткі валун "Зварот да нашчадкаў" з надпісамі на рускай і нямецкай мовах.

Другая частка мемарыяла ўключыць у сябе 7 дотаў, якія можна будзе ўбачыць на вуліцах Смаргоні. Каля кожнага з іх будуць змешчаны адлітыя ў бронзе медальёны (каля метра ў дыяметры) з надпісамі асноўных дзеянняў часоў вайны: пачынаючы з уваходу немцаў у Смаргонь у верасні 1915 года, і да заключэння мірнага пагаднення.

Апошняя, трэцяя, частка мемарыяльнага комплексу ўсталюецца ў заходнім баку горада ў раёне вёскі Хадакі, на шашы Вільнюс — Мінск. Гэтае месца абрана невыпадкова: тут знаходзяцца сямнаццаць "жывых" нямецкіх дотаў, якія захавалі свае бетонныя аблічча. Праект прадугледжвае добраўпарадкаванне тэрыторыі, ачыстку падыходаў да дотаў, стварэнне аўтастаянак побач.

Распавядае Анатоль Арцімовіч:

— Завяршальным акцэнтам комплексу з'яўляецца скульптурная кампазіцыя "Праклацце вайне", якая атрымала высокую ацэнку мастацкага манументальнага савета. Фігура салдата расійскай арміі, які, утыкнуўшы штык вінтоўкі ў зямлю, узнімае рукі да неба, быццам дасылае свой гнеў і праклацце вайне. На брустверы скульптуры будзе напісана: "Будзь праклятая ты, вайна!", а ніжэй — пералік 34 краін-удзельніц. Наперадзе самой кампазіцыі размесціцца бронзавая карта свету.

### Творчая праца

— Часу на стварэнне творчай часткі мемарыялу было вельмі мала, усяго чатыры месяцы, — прызнаецца Уладзімір Церабун. — А гэта справа нялёгкая. Спачатку трэба ўсе фігуры вылепіць у гліне. А што значыць — з цяжкім матэрыялам лазіць па шасціметровай фігуры ўверх і ўніз? Толькі гадзіна была патрэбна на тое, каб завярнуць скульптуру ў плёнку. Прыходзілася нават начамі не спаць. Але ўвесь час дапамагалі рабочыя скульптурнага камбіната Беларускага саюза мастакоў і нашы калегі са Смаргоні. Дай Бог, каб усё ішло па плане, тады краіна ўжо ў 2014 годзе зможа пабачыць мемарыяльны комплекс у Смаргоні цалкам.

Найперш трэба ўмацаваць зямлю, на якой будуць стаяць скульптуры. Бронзавыя фігуры не надта цяжкія, але трэба пераканацца ў тым, што яны будуць моцна і трывала стаяць шмат стагоддзяў.

— Праца паміж намі размяркоўвалася вельмі ўдала, — расказвае Анатоль Арцімовіч. — Гэта быў добры выпадак творчага альянсу. Нават зусім малады скульптар, нядаўні выпускнік Акадэміі мастацтваў мой сын Іван працаваў на роўных з намі. Работа вялася вельмі арганічна. Надта вялікі ўклад у працу ўнёс і архітэктар са Смаргоні Аляксандр Бажэдай (на пачатковым этапе працаваў архітэктар Андрэй Жылінскі). Скажу без перабольшання: лёс у гэтага мемарыяла шчаслівы, сорамна не будзе.

У бліжэйшы час скульптары плануюць сустрэцца з кіраўніцтвам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Смаргонскага райвыканкама і Гродзенскага аблвыканкама. Хутка павінны распачацца працы па добраўпарадкаванні тэрыторыі і ўсталяванні бронзавых фігур.

Уладзімір ПАДАЛЯК

Фота з асабістага архіва скульптараў і Кастуся Дробава

## Георгій Папоў

# Старонкі з дзённіка

## (гісторыя публікацыі ў «Нёмане» ліставання А.Твардоўскага і М.Ісакоўскага)

(Працяг. Пачатак у № 45, 46)



6 студзеня 1975 г.

Зранку ў Малой зале ЦДЛ сабраўся Савет па прыгодніцкай і навукова-фантастычнай літаратуры. Прыйшлося ўзяць слова і мне. Як толькі аб'явілі перапынак, хутка пайшоў у гасцініцу. Набіраю нумар. Чакаю. Слухаўку падымае ўнук Твардоўскага. Прашу паклікаць бабулю. І — першае пытанне:

— Што здарылася? Што маглі знайсці ў ліставанні?

Кажу, што па тэлефоне пра ўсё не раскажаш, тут цэлая адысея, і дамаўляюся аб сустрэчы. Марыя Іларыёнаўна доўга тлумачыць, як знайсці іх кватэру. Я запісаў асноўныя каардынаты, хутка апрануўся і выйшаў.

Чырвоная плошча, гасцініца "Расія", дом на Кацельніцкай набярэжнай. Высокі і груваскі дом, тыповы помнік свайму часу… Уваходжу ў двор левага крыла, падымаюся ў ліфце на трэці паверх, націскаю на кнопку званка 125 кватэры. Адчыняе Марыя Іларыёнаўна:

— А-а, праходзьце… — усміхаецца гасцінна.

Распранаюся, праходжу ў кабінет, даволі вялікі, з небагатай мэбляй, якая падалася мне старамоднай. Пісьмовы стол, канапа, крэсла, столік "для кавы" пасярод пакоя, кніжная паліца на ўсю сцяну… Вось і ўсё.

Спачатку размова ідзе пра побытавыя справы. Марыя Іларыёнаўна сядае на канапу і адказвае на мае простыя пытанні. Так, гэта і ёсць кабінет Аляксандра Трыфанавіча. Прынамсі, ён не любіў гэты дом і гэтую кватэру і бываў тут рэдка, толькі калі затрымліваўся ў Маскве з-за сходу, пасяджэння ці яшчэ якой-небудзь справы. А так больш жыў ды і працаваў на лецішчы, гэта кіламетраў за трыццаць ад Масквы.

— Тут яму і пагуляць не было дзе, — між іншым зазначае Вольга Аляксандраўна, калі ўваходзіць у кабінет і пытаецца, што прыгатаваць: гарбату ці каву.

Мы пераходзім да століка "для кавы". Падбягае шасцігадовы Андрэй, унук паэта, і працягвае нам — бабулі і мне — цукеркі з ёлкі. Марыя Іларыёнаўна заўважае, што гэта яму падаравалі ў крамлёўскім Палацы з'ездаў. "Можна сказаць, ад сябе адрывае!" — усміхаецца яна. Вольга Аляксандраўна прыносіць каву, коржыкі, ватрушкі, вазу з цукеркамі.

— Самі пяклі? — пытаюся, паказваючы на ватрушкі.

— Сама, — ківае Марыя Іларыёнаўна і, крыху счакаўшы, нарэшце пераходзіць да галоўнага: — Дык што ж здарылася? Што перашкодзіла публікацыі ліставання?

Тлумачу — коратка — усё адно за адным. Якія ўзніклі сумненні (ліставанне двух вялікіх рускіх паэтаў нікога не зацікавіла ў Маскве, таму і друкуецца ў Мінску), як Макаёнак ездзіў у Маскву, карацей, усё як было, пакідаючы без увагі толькі некаторыя падрабязнасці, зусім не істотныя.

— Я так і ведала! — усміхаецца Марыя Іларыёнаўна.

— А я што казала? — ўступае ў размову і Вольга Аляксандраўна.

Пасля я пераходжу да самага складанага, г.зн. да знаменскага варыянта. Перш чым выкласці сутнасць справы, заўважаю, што гэты варыянт падаецца мне цалкам мажлівым, нават, мабыць, выгодным. Часопіс "Знамя" апублікуе дзве трэція ліставання, а "Нёман" — цалкам. З Кажэўнікавым мы ўжо паразмаўлялі, ён згодны.

І тут, заўважаю, у Марыі Іларыёнаўны змяняецца твар, яна становіцца сухой, мне падалося, што на вачах у яе з'явіліся слёзы. Яна не дае мне скончыць і абурана кажа:

— Кажэўнікаў… Гэты амаральны тып! — яна зрабіла паўзу, быццам хацела перавесці дух, і працягвала: — І ён… ён будзе друкаваць лісты Аляксандра Трыфанавіча! Не, гэтага я не дазволю! З павагі да памяці Твардоўскага і… з пачуццяў уласнай годнасці! — яна нервова ўстала, прайшлася і зноўку падсела да століка.

Няёмкая паўза. Я сядзеў, здзіўлены, і не ведаў, што сказаць. Маўчанне парушыла Вольга Аляксандраўна.

— І малапісьменны да таго ж! — мякка, з усмешкай сказала яна, маючы на ўвазе Кажэўнікава. — Ведаеце, — зірнула на мяне, — ён калісьці падараваў тату кніжку з такім надпісам: "Саше Твордовскому…"

Запытвацца, у чым выявілася амаральнасць Кажэўнікава (абвінавачванне надта сур'ёзнае), было няёмка. Таму я вырашыў перавесці размову ў іншае рэчышча. Маўляў, Кажэўнікавы прыходзяць і сыходзяць, а часопісы застаюцца. Ды, у рэшце рэшт, галоўнае ў дадзеным выпадку — апублікаваць лісты, якія выклікаюць вялікую грамадскую цікавасць, а дзе, у якім часопісе, — хіба гэта істотна?.. Я думаў інакш, казаў не тое, што думаў, таму, напэўна, мае словы мала пераконвалі.

— Калі Аляксандр Трыфанавіч сышоў з "Новага часу", а пасля калі захварэў… За ўвесь час, уявіце, Кажэўнікаў ніводнага разу не патэлефанаваў, ніводнага разу не пацікавіўся, як ён, што з ім… І раптам — будзе друкаваць! Не, я на гэта не згаджуся! У рэшце рэшт Твардоўскага яшчэ ведаюць і паважаюць, і я не сумняюся, што знойдзецца часопіс акрамя "Знамени", які надрукуе ліставанне.

Вольга Аляксандраўна налівае нам яшчэ па кубку кавы. П'ем, працягваем размаўляць, але размова ўжо не такая роўная. Марыя Іларыёнаўна усхвалявалася, засмуцілася… "Кажэўнікаў і Твардоўскі… Божа мой!"

— Дарэчы, Аляксандр Трыфанавіч калісьці дапамагаў яму, — нібыта ўзгадвала яна. — Калі Кажэўнікаў напісаў аповесць "Сакавік — Красавік", Аляксандр Трыфанавіч яму сказаў: "Вось, Вадзім, твой шлях, пішы ў гэтым рэчышчы!" Кажэўнікаў не паслухаў… І вось… — Яна не дагаварыла. Узяла кубак з кавай і зрабіла глыток. — У мяне захоўваюцца яго лісты, там усё ёсць…

Не ведаю, з якой нагоды (мабыць, гэта і не тычылася непасрэдна Кажэўнікава), але я працытаваў кагосьці з класікаў:

— Дрэнны чалавек не можа быць добрым пісьменнікам…

Вольга Аляксандраўна раптам схамянулася і нават, здаецца, засвяцілася ўся:

— Гэта любімыя таты словы… Ён часта паўтараў іх, калі размаўляў з пісьменнікамі… Ён быў упэўнены, што гэта менавіта так, што дрэнны чалавек не можа стаць… ніколі не стане добрым пісьменнікам…

Я папрасіў не спяшацца з канчатковым адказам і стаў збірацца. Вольга Аляксандраўна падтрымала мяне: "Так, мама, ты супакойся, падумай…" Дамовіліся, што яны яшчэ параяцца з Валянцінай Аляксандраўнай, старэйшай дачкой паэта, а пасля ўжо вырашаць канчаткова. Я павінен быў патэлефанаваць ім праз два дні, у пятніцу.

8 студзеня 1976 г.

Дачка яшчэ была ў мяне, калі пачуўся званок з рэдакцыі часопіса "Знамя". Тэлефанаваў Валянцін Осіпаў.

— Як з Твардоўскім?

Я сказаў, што нічога не вырашана. Буду тэлефанаваць заўтра, гэта значыць у пятніцу, і яны скажуць сваё канчатковае рашэнне. І раптам пачалося… Я і раней, у першы дзень, адчуў, што рэдакцыя "Знамени" сур'ёзна зацікавілася ліставаннем. Аднак я не думаў, што Кажэўнікаў як галоўны рэдактар пойдзе на такія крутыя меры.

— Калі будзеце размаўляць з Твардоўскімі, перадайце ім: у ЦК КПСС лічаць, што ліставанне павінна быць надрукавана менавіта ў "Знамени". Часопіс "Новый мир" для гэтага не падыходзіць, "Дружба народов" таксама… Астатнія часопісы, як вы разумееце, рангам ніжэйшыя — яны рэспубліканскія. Такое меркаванне вашага земляка… беларуса…

— У нас тут землякоў шмат! — кідаю ў слухаўку.

— Шауры, — удакладняе Осіпаў. Такое меркаванне нават Бяляева і… — Ён назваў трэцяе прозвішча, аднак я не дачуў, а перапытваць не стаў. Ды справа не ў прозвішчах. Галоўнае — усё ўзгоднена і вырашана на вышэйшым узроўні. Кажэўнікаў, відаць, адчуў, які матэрыял прыплыў яму ў рукі, і вырашыў утрымаць яго, апублікаваць у сваім часопісе, чаго б гэта не каштавала.

— Добра, перадам, — уздыхаю ў слухаўку.

— Толькі не называйце прозвішчаў, калі ласка. Прозвішчы Твардоўскім ведаць неабавязкова. І яшчэ — перадайце, што ў "Знамени" абмеркавалі пытанне аб аплаце. Скажыце, што мы знойдзем магчымасці заплаціць і самой удаве за ўступ, і ўсім нашчадкам па вышэйшай стаўцы.

— І гэта перадам, — кажу.

— Ну, трымайце мяне ў курсе. І — заходзьце! — кідае на развітанне Осіпаў. Голас бадзёры, упэўнены. Яны ў "Знамени" ўсё ўзважылі, прыкінулі і вырашылі. Нават удава Ісакоўскага падрыхтаваная — яна, зразумела, радасная і шчаслівая. Справа толькі ў тым, каб дамагчыся (менавіта дамагчыся) згоды Твардоўскіх. І Кажэўнікаў, і тым больш Осіпаў, відаць, упэўнены, што "уламаць" удаву і дачок паэта не так ужо і цяжка. Адыграе сваю ролю аўтарытэт ЦК КПСС, ды і грошы… грошы…

(Заканчэнне у наступным нумары)

Пераклад Алеся КРАСІЦКАГА

Публікацыя Алены ПАПОВАЙ



На здымках: Георгій Папоў і Андрэй Макаёнак. 1977 год.

Фота з асабістага архіва Алены Паповай.

## Віншуем

З 80-годдзем Аляксандра Андрэевіча Баршчэўскага (псеўд. Алесь Барскі), паэта, літаратуразнаўцу, перакладчыка, педагога, грамадска-культурнага дзеяча. Жыве ў Польшчы.

З 80-годдзем Рыгора Канстанцінавіча Ігнаценку, празаіка.

З 70-годдзем Васіля Аляксеевіча Жуковіча, паэта, празаіка, перакладчыка.

З 60-годдзем Аляксандра Міхайлавіча Валковіча, празаіка.

З 50-годдзем Алеся Наварыча (сапр. Аляксандр Іванавіч Трушко), празаіка.

## Юбілейны каляндар

210 гадоў Леанарду Ходзьку, выдаўцу, гісторыку, публіцысту, бібліёграфу.

205 гадоў Янушкевічу Яўстафію, кнігавыдаўцу, публіцысту, мемуарысту.

135 гадоў Альберту Францавічу Паўловічу, паэту, гумарысту, драматургу.

120 гадоў Канстанціну Аляксеевічу Пушкарэвічу, гісторыку літаратуры, перакладчыку, славісту-педагогу.

125 гадоў Міхайлу Грамыку, празаіку, драматургу, вучонаму.

120 гадоў Янку Пачопку, паэту, празаіку, фальклarysту.

115 гадоў Ісаку Платнеру, паэту, празаіку. Пісаў на ідыш і беларускай мовах.

110 гадоў Нічыпару Фёдаравічу Чарнушэвічу, паэту, перакладчыку, драматургу.

105 гадоў Міхасю Васільку (сапр. Міхаіл Восіпавіч Касцевіч), паэту.

105 гадоў Яну Скрыгану, празаіку, паэту, заслужанаму работніку культуры Рэспублікі Беларусь.

105 гадоў Язэпу Тодаравічу Падабеду, паэту.

100 гадоў Змітраку Астапенку, паэту.

100 гадоў Міхаілу Рамановічу Судніку, мовазнаўцу, заслужанаму дзеячу навукі Рэспублікі Беларусь.

90 гадоў Андрэю Ягоравічу Макаёнку, драматургу, народнаму пісьменніку Беларусі.

85 гадоў Уладзіміру Мікалаевічу Ясючэню, паэту.

85 гадоў Алене Іванаўне Чабярук, мовазнаўцу.

85 гадоў Клаўдзіі Канстанцінаўне Каліне (сапр. Капелян, дзяв. Лукашэвіч), празаіку.

80 гадоў Уладзіміру Сямёнавічу Караткевічу, паэту, празаіку, драматургу, публіцысту, перакладчыку, кінасцэнарысту.

# На скрыжаванні жанраў

Уладзіміра Цэслера, моднага мастака, папулярнага дызайнера, уладальніка прэстыжных міжнародных узнагарод у галіне выяўленчага мастацтва, ведаюць далёка за межамі Беларусі. Ён працуе ў самых розных жанрах: ад крэатыўных плакатаў і вясёлых паштовак, незвычайных малюнкаў і адмысловых дызайнерскіх работ, дарожных знакаў і размалёвак на майках, лагатыпаў, копій класікі — да сцэнарыяў рэкламных ролікаў. На працягу 25 гадоў працаваў сумесна з Сяргеем Войчанкам (1955 — 2004), іх работы экспанаваліся ў Расіі, Польшчы, Эстоніі, Венгрыі, Канадзе, Іспаніі, Італіі, Францыі, Галандыі, Бельгіі, Германіі, Балгарыі ды яшчэ шмат дзе. Шырокую вядомасць тандэм набыў найперш у галіне плаката (болей як 30 узнагарод на міжнародных конкурсах).



“Гораду Слуцку, у якім я нарадзіўся 30 красавіка 1951 года, — каля тысячы гадоў. Я ўспрымаў яго як маленькі цэнтр Сусвету — з яго невялічкімі масткамі, пышнымі садамі і пэўным складам культуры. Калі пайсці з горада ў напрамку вёскі Джампол, вы трапіце на мурог, напоўнены водарам салодкіх касачоў і водных лілей. За лугам, дзе пасвіліся каровы, была Брытанія — тады мне падавалася, што я нават бачу там будынкі з чарапічнымі дахамі. Я быў упэўнены, што за чыгуначнай станцыяй знаходзіўся Кітай, там у вокнах будынкаў бачыў кітайскія ліхтары і кітайскіх прыгажунь на гравюрах, якія віселі на сценах. Польшча была ў бабы Ядзі, у суседняй хаце з комінам, дзе па сценах месцілася шмат маленечкіх фотаздымкаў, каталіцкія абразы і распяцці. Але самым яркім і незабыўным уражаннем у маёй памяці застаюцца старыя могілкі. Здаецца, там, у ценях клёнаў і ліп, падобных да велíканаў, рэльефных надмагілляў і засталося маё шчаслівае дзяцінства, якое раз ад разу з’яўляецца ў маіх снах. Пасля арміі я трапіў у сталіцу, атабарыўся ў сваячкі. Дом, у якім яна жыла, называлі Домам масонаў: гэта ў Верхнім горадзе, самым маляўнічым раёне Мінска. З 1975 па 1980 год вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на факультэце дызайну. Потым працаваў у кніжнай галіне і за многія свае работы атрымаў узнагароды. Таксама працаваў у сферы рэкламы. Першы плакат, выкананы ў сааўтарстве з Сяргеем Войчанкам, быў зроблены для піянерскага ансамбля ў 1979 годзе”. Са згадак У. Цэслера.

— Калі ўпершыню ўбачыў вашы незвычайныя работы — зубная шчотка з зубамі замест шчаціння, відэлец з макаронай, лімон у “вобразе” гранаты — адразу прыгадаўся Сальвадор Далі з яго сюррэалістычнымі карцінамі і загадкавымі ідэямі…

— Сальвадор Далі, зразумела, вялікая асоба, але гэта не мой любімы мастак… Наогул, у мяне шмат любімых мастакоў: сярод іх і класікі, і сучасныя беларускія. Я нават не буду пералічваць, бо кагосьці назаву другім па чарзе ці, барані Бог, забуду. Могуць пакрыўдзіцца. Скажу ўпэўнена, што сёння Беларусь багатая на таленавітых людзей ў галіне жывапісу.

— Як бы вы акрэслілі напрамак мастацтва, у якім працуеце?

— Гэта раней было модна адносіцца да нейкага напрамку ў мастацтве: імпрэсіянізму, кубізму, сюррэалізму і іншых, а цяпер ужо не патрэбна вызначацца. Напрамкі і жанры зліліся, перамяшаліся. Я, наадварот, стараюся выйсці з нейкіх межаў, адысці ад гэтага. Пішу працы, якім не патрэбны ніякія накірункі. Калі ствараю, не думаю ні пра жанр, ні пра накірунак. Я проста малюю.






— А ці ёсць любімы жанр?

— Не, мне ўсё блізка, усё даспадобы, нават літаратура. Раблю тое, што падабаецца рабіць. На нечым адным не зацыкліваюся, бо тады, мне падаецца, не варухнуся з месца.

— Вы пішаце таксама і літаратурныя творы?

— Не хапае на ўсё часу. Але вельмі хацеў бы. Пастаянна працую без выхадных у майстэрні. Працую і пад заказ, пішу розныя сцэнарыі.

— Уладзімір Якаўлевіч, раскажыце, з чаго ўсё пачыналася?

— Яшчэ ў дзяцінстве я ведаў, што буду мастаком. У сем гадоў бацька запісаў мяне ў гурт віза-студыі ў Слуцкі Палац піянераў. Пазнаёміўся з кіраўніком гурта Уладзімірам Сцяпанавічам Садзіным. Дык ён мне так спадабаўся, што адразу вырашыў быць падобным на яго, калі вырасту. Я ж на той момант яшчэ ніякіх мастакоў не ведаў. Але ў сем гадоў ужо не толькі маляваў, але і рабіў даволі складаныя гравюры. З матэрыялам і інструментамі, якія тады былі дэфіцытам, мне дапамагаў мой дзядуля (ён быў механікам). Са спіц старога парасона зрабіў мне разцы, а асновай для гравюр быў лінолеум. Добра помню, як прабіваў гэтымі разцамі да крыві далоні. Дзякуй Богу, што мяне гэтым займацца ніхто не прымушаў. Я лічу, што калі дзіця загнаць у нейкія рамкі, сістэму і пастаянна ад яго нечага патрабаваць, ён хутчэй узненавідзіць гэта, чым палюбіць. Для поспеху патрэбна любоў і ўседлівасць. Мы з гуртом заўсёды некуды ездзілі, нешта глядзелі, малявалі. Мне гэта вельмі падабалася. Помню, як упершыню мяне ўсхваляваў пах фарбаў. І спачатку не разумеў, чаму я не хачу так шмат бегаць, як іншыя хлопчыкі, а больш хачу затрымацца і памаляваць. У жывапісе быў даволі паспяховым вучнем.

— А ў школе?

— Быў здольным, але вельмі гультаяватым. І пахуліганіць любіў. Мусіць, калі б вучыўся, у мяне і былі б поспехі, а так, у школе зусім не стараўся. Практычна ніколі не рабіў хатніх заданняў, але быў харашыстам. Пару троек было ў атэстаце, але ўжо і не ўспомню па чым. Неяк на ўроку геаметрыі настаўнік выклікаў да дошкі даказваць тэарэму. А я яе ў вочы не бачыў. Дык так атрымалася, што даказаў яе двума спосабамі. Да гэтай навукі пэўныя здольнасці былі. На мяне ў школе, помню, нават карыкатуру ў сценгазету намалявалі з подпісам: “Калі толькі захачу, усе навукі вывучу! — Дык захаці. — Не хачу!” (смяецца).

— Можа, хтосьці ў радні быў звязаны з мастацтвам?

— Не, нікога не было. А ці ж прынцыпова гэта? Я лічу, што талент па генах не перадаецца. Канечне, можна падцягнуць сына ці дачку па сваіх кроках, можна зрабіць дзіця падобным на сябе, але таленту не навучыш. Бывае, што з сям’і алкаголікаў выходзяць вельмі разумныя і таленавітыя людзі, і наадварот.



— Вы адразу пасля школы паступілі ў Акадэмію мастацтваў?

— Толькі з пятага разу ў мяне атрымалася. Тады гэта быў тэатральна-мастацкі інстытут. Паступіць было складана. Але скончыў бы я інстытут ці не, усё роўна займаўся б сваёй працай. Узгадваецца, пытаюцца ў мяне перад іспытамі:

— На якое аддзяленне вы хочаце паступаць?

— Не ведаю, я проста хачу быць мастаком, — кажу я. Яны пачалі смяяцца. — А што я такога смешнага сказаў?

— У нас ёсць аддзяленні дызайну, керамікі, жывапісу ды іншыя. Вызначыцеся, калі ласка.

Як я, толькі скончыўшы школу, магу ведаць, што буду займацца ўсё жыццё керамікай ці чымсьці іншым. Мне ж няма з чым параўнаць. Вось, напрыклад, у Японіі ёсць школа арт, у якую прымаюць без іспытаў усіх жадаючых прысвяціць сябе мастацтву. На пачатковым этапе яны вывучаюць практычна ўсё: выяўленчае мастацтва, музыку, літаратуру. А ўжо потым, калі зразумеюць, што ім больш даспадобы, размяркоўваюцца па спецыяльнасцях. Я лічу, што такая школа павінна з’явіцца і ў Беларусі. Людзей, якія хочуць прысвяціць жыццё мастацтву — не так і шмат. Іспыт — гэта ж латарэя. І той, каму не пашанцавала паступіць з першага разу, можа згубіць інтарэс. А хто ведае, можа ён стаў бы вялікім мастаком.

— У такім выпадку, ці патрэбна мастаку прафесійная адукацыя?

— Што не перашкодзіць, дык гэта факт. Але ж гэта толькі тэорыя. Чалавек можа мець хоць пяць мастацкіх адукацый і не адчуваць колеру.

— Колькі ў вас прац, ці лічылі?

— Не ведаю, ніколі не вёў падлікаў.

— Ці ёсць твор, які лічыце лепшым?

— Такое пытанне задаваць аўтару не зусім карэктна. Сам мастак звычайна лічыць тую працу лепшай, якая яшчэ не напісана. Гэта павінна быць нейкая хвароба — каб вельмі моцна любіць свае працы. Калі ты не зможаш адарвацца ад сваіх мінулых твораў, то не зможаш нічога зрабіць новага. Пакуль малюеш — тая і любімая.

— Надта цікавая праца — праект “12 з ХХ”. Па якім прынцыпе падбіраліся асобы?

— У аснове канцэпцыі гэтага праекта — асэнсаванне і ацэнка падзей, якія праходзілі ў сусветным мастацтве за апошнія 100 гадоў. Першапачаткова задума была больш маштабная — стварыць каляндар. Але гэта атрымоўвалася цяжэй, чым мы думалі. Таму спыніліся на 12 асобах з ХХ стагоддзя: Мадзільяні, Маякоўскі, Далі, Пікасо, Малевіч і астатнія зусім не падобныя да іншых. Яны ў чыстым выглядзе стварылі той ці іншы накірунак у мастацтве і значна паўплывалі на далейшае развіццё культуры.

— А чаму абрана менавіта форма яек?

— Таму, што яйка — гэта сімвал нараджэння, сімвал жыцця. Прычым нараджэнне адбываецца дзякуючы смерці: ламаецца скарлупка, але з’яўляецца жыццё. Так, вядомыя мастакі, паміраючы, пакідалі пасля сябе спадчыну, якая давала падмурак для творчасці іншых мастакоў. Кожнае яйка не падобнае на іншае. Гэта наша з Сяргеем Войчанкам увасабленне постаці чалавека і яго культуры, такім, якім мы яго бачылі.

— Ведаю, што вашым захапленнем з’яўляецца байкерства. Бачыў прыгожы чопер каля пад’езда. Часам не ваш?

— Не, я свой ужо даўно прадаў. Гэта даволі дарагое задавальненне. Доўгі час мне гэта вельмі падабалася. Некалькі разоў сур’ёзна падаў, дык у падзенні думаў: як бы гэта мне памягчэй прызямліцца, каб байк не пашкодзіць (смяецца). А пазней вырашыў, што лепей самому цэлым застацца. Я і зараз уваходжу ў адзін з мінскіх байкерскіх клубаў, прыходжу на злёты. Крыху дапамагаю ім: раблю эмблемы, значкі, наклейкі. Маё захапленне матацыкламі крыху сцішылася.

Гутарыў
Уладзімір ПАДАЛЯК



# Колеры лёсу Сцяпана Сянько

Прозвішча “Сянько” на Чашніччыне добра вядомае. Ёсць у гэтай грамадзе нашых землякоў майстры, вайскоўцы, настаўнікі, чыгуначнікі… Здаецца, самы знакаміты — выхадзец з вёскі Вішкавічы Уладзімір Сянько, былы міністр замежных спраў, беларускі дыпламат. А пра яго аднавяскоўца Сцяпана Сянько ведаюць пераважна тыя, чые абавязкі ці асабістыя захапленні звязаныя з мастацтвам. Работы Сцяпана Сянько ёсць у прыватных калекцыях, замежных і айчынных. Ён ганарыцца вучнямі, сярод якіх — родныя дзеці. Нячаста сустрэнеш сям’ю з чатырох чалавек, дзе ўсе — мастакі. Менавіта такая — у Сцяпана Аляксандравіча. Калі надараецца магчымасць, любяць разам прыехаць у вішкавіцкую хату і бясконца слухаць аповеды пра свае вытокі.

Сцяпан Сянько з’явіўся на свет у першы пасляваенны год. Вайну ён памятае. Не забыўся, як упершыню ўбачыў немцаў. Самым надзейным сховішчам ад ворагаў маленькія гаўрошы палічылі тады стары мост. Пад ім праз шчыліны лепш за ўсё было відаць салдацкія боты. Але потым хлапчук убачыў немцаў значна бліжэй — у бацькоўскай хаце. Тата пайшоў ужо ў партызаны. Акупанты, дазнаўшыся пра тое, прыйшлі, каб распытаць пра месцазнаходжанне атрада. На вачах у дзяцей дапытвалі бабулю і маці, абедзвюх білі шомпалам, але родныя нікога не выдалі…

Няцяжка здагадацца, дзе пачатак той цеплыні і гожасці ціхіх куткоў малой радзімы на яго палотнах. Віцебшчына для мастака — лепшая ў свеце мясціна, тут яго карані, станаўленне, працяг. Вельмі дарагі Сцяпану Аляксандравічу горад над Дзвіной: тут рабіў першыя крокі ў прафесіі і не забыўся, якія нялёгкія былі яны. У Віцебск прыехаў у 1956-м, скончыўшы Вішкавіцкую сямігодку. Вясковаму юнаку вельмі хацелася маляваць, і ён падаў дакументы ў мастацка-графічнае педагагічнае вучылішча. З якой зайздрасцю ў першы год навучання глядзеў на сваіх сакурснікаў, калі ў тых атрымлівалася лепш! У той час Сцяпан Сянько з алоўкам і блакнотам не разлучаўся. З натуры маляваў усё: дрэвы, камяні, птушак. “На першым курсе, — распавядае С. Сянько, — я быў ззаду, на другім — у сярэдзіне, на трэцім — у ліку лепшых”. Сваімі поспехамі ў немалой ступені лічыць сябе абавязаным таленавітым настаўнікам, сярод якіх — Акім Салоха, ганаровы грамадзянін горада Віцебска.

Працоўная біяграфія Сцяпана Аляксандравіча пачалася з педагагічнай дзейнасці на Гродзеншчыне, у Дубнаўскай вясковай школе. Ужо сярод яго першых выпускнікоў былі такія, хто хацеў ісці па слядах маладога настаўніка і стаў студэнтам мастацка-графічнага факультэта тагачаснага Віцебскага педагагічнага інстытута, дзе С. Сянько завочна працягваў адукацыю. Вучыў і вучыўся. У сценах інстытута сустрэў сваю музу — Лілію, з якой крочыць па жыцці ўжо больш як сорак гадоў.

Змена сямейнага становішча вымусіла Сцяпана развітацца з прынёманскімі краявідамі і вярнуцца ў Віцебск, бо маладая жонка была студэнткай стацыянара. Ён зноў стаў выкладчыкам у 22-й школе, адначасова — метадыстам па практыцы студэнтаў мастацка-графічнага факультэта… Словам, педагогіку так і не пакінуў. А пра поспехі вучняў Сцяпана Сянько даведаліся далёка за межамі Віцебска. Яго выхаванцы бралі ўдзел нават у міжнародных дзіцячых выстаўках. А разам з жонкай Ліліяй Іванаўнай, падчас выкладання ў дзіцячай мастацкай школе “Маладзік”, распрацаваў і апрабаваў спецыяльную праграму навучання выяўленчаму мастацтву для дашкольнага і школьнага ўзросту.

Выхад на заслужаны адпачынак не замінае сувязям Сцяпана Аляксандравіча са школай. Дапамагаючы станаўленню юных талентаў, не стамляецца ён тварыць і сам. Яму шмат давялося працаваць у галіне станковага жывапісу ў жанры партрэта, нацюрморта, пейзажу, выканаў шэраг размалёвак інтэр’ераў многіх медыцынскіх устаноў Віцебска, дамоў культуры ў вобласці. З 1990-х рэгулярна ўдзельнічае ў гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках. У 98-м адбылася персанальная выстаўка сям’і Сянько, яшчэ раз пераканаўшы, што творчы саюз самых блізкіх сваякоў — з’ява хай не такая і рэдкая, але заўсёды дзівосная. Двое дзяцей Сянько пайшлі ў прафесійнае мастацтва. Прычым, сын, Дзмітрый Сцяпанавіч, — цяпер дэкан мастацка-графічнага факультэта, таго самага, што стаў калыскай мастакоўскай дынастыі.

Сцяпан Аляксандравіч у палон узросту здавацца не збіраецца. Гэтай восенню прывёз на малую радзіму сваю выстаўку, якая працуе ў Чашніцкім Доме рамёстваў. У прадстаўленай тут калекцыі ёсць рамантычнае палатно Сцяпана Сянько “Пушкінскія ліхтары”. Любы сэрцу куточак Віцебска так нагадвае Пецярбург вялікага расійскага паэта! Адчуваецца і нешта ад вобразаў “Станцыйнага наглядчыка”, “Мяцеліцы”, у святле ліхтароў — ціхі смутак і прыгажосць. Прываблівае карціна “Верабейчык”. Яна — нібы казачны сон. З акна перад маленькай птушачкай адкрыўся такі свет прыгажосці, што яна, зачараваная, забылася на ўсё. А вакол шчыруе верасень: фарбуе лісце, салодзіць рабінавыя гронкі, выводзіць развітальныя напевы.

Амаль кожная яго работа поўніцца радасцю жыцця. Дзесьці незабыўнай казкай паўстае бацькоўскі дом, а там — імчыць у вечнасць пяшчотная сінь валошак, размаўляюць перад далёкай дарогай буслы. Матывы горада, рамонкавая смуга палёў саграюць цяплом любай радзімы. Цяжка застацца абыякавым побач з такой прыгажосцю.



Ірына ТОРБІНА
г. Чашнікі

На здымках: карціна “Верабейчык”; Сцяпан Сянько ў гасцях на Чашніччыне.

## У наступным нумары

У савецкія часы існавала ці не цэлая школа беларуска-балгарскіх паэтычных узаемаперакладаў. Сярод яе набыткаў — з найвялікшай дасканаласцю пераствораны на мове братняга народа «Рамаенс» Максіма Багдановіча («Зорка Венера ўзышла над зямлёю…»). Аналіз перакладчыцкага майстэрства паэта Хрыста Папова — у артыкуле доктара філалагічных навук з Плоўдзіўскага ўніверсітэта імя Паісія Хіляндарскага Розы Станкевіч «Узнаўленне гармоніі гукаў».

З глыбінкі

# Тыдзень, прысвечаны класіку

Цягам апошняга тыдня на розных пляцоўках Оршы ладзяцца мерапрыемствы, прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. У святочнай афішы — больш як тры дзясяткі разнастайных імпрэз: літаратурна-музычных гасцёўняў, вечарын, выставак, прэзентацый кніг… Іх арганізатарамі выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Аршанскі гарадскі выканаўчы камітэт і Музейны комплекс гісторыі і культуры Аршаншчыны.

Сёння, 26 лістапада, у Аршанскім музеі У. Караткевіча праводзіцца акцыя “У госці да У. Караткевіча” (дзень адчыненых дзвярэй). Увагі наведвальнікаў варты і шэраг іншых мерапрыемстваў: у дзіцячым парку адбудуцца традыцыйныя літаратурныя чытанні “І не знікаць паэтам вечна!”, у Аршанскім музеі У. Караткевіча пройдзе цырымонія спецгашэння паштовага канверта з арыгінальнай маркай, на літаратурную вечарыну “Караткевіча сцежкі…” гасцінна запросіць бібліятэка імя М. Горкага, у дзіцячай бібліятэцы імя У. Караткевіча адбудзецца прэзентацыя падарункавага выдання кнігі “Дзікае паляванне караля Стаха”. Пройдзе сёння і адкрыццё ІІІ Міжнароднай канферэнцыі “Уладзімір Караткевіч: глабальны погляд” (яе работа распачнецца заўтра). Завершыць праграму гэтага святочнага дня гарадскі ўрачысты вечар і святочны канцэрт “Быў. Ёсць. Буду”.

Заўтра, 27 лістапада, акрамя канферэнцыі жыхароў і гасцей Оршы запрашаюць на тэатральную пастаноўку народнага тэатра “Пілігрым” (г. Полацк) — “Вераб’іная ноч” Аляксея Дударава па матывах пралога да рамана У. Караткевіча “Леаніды не вернуцца да Зямлі”; паказ кінастужкі “Дзікае паляванне караля Стаха”; яркім акордам дня мае ўсе шанцы стаць канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча “Беларуская песня” (праграма на вершы У. Караткевіча).

У нядзелю ў дзіцячай бібліятэцы імя У. Караткевіча пройдзе прэзентацыя зборніка вершаў членаў аршанскага клуба паэзіі “Лотас” “Узгодненыя прароцтвы”, Аршанскі музей У. Караткевіча запросіць на сустрэчу з маладымі паэтамі, удзельнікамі конкурсу, прысвечанага У. С. Караткевічу, “Плынь разняволеных пачуццяў”.

Чэслава ПАЛУЯН

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2967
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.11.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 5687
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686